

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 СТУДЗЕНЯ 1999г. № 4/3984 КОШТ 12 000 РУБ.

## ПРА БУНІНА

***Генрых ДАЛІДОВІЧ: "Рускую літаратурную мову Бунін давёў да такой дасканаласці, да такога майстэрства, што перасягнуць яго проста немагчыма, як нельга стварыць іншыя сонца, неба ці ваду. Нашу, беларускую, мову той-сёй мала што не ведае, не паважае, дык яшчэ абзывае беднай для яго "мудрасці" і яе выяўлення, але факт ёсць факт: Бунін вельмі арганічна, хораша гучыць і... так-так, па-беларуску!"***

**5, 14—15**

## САЛОН НА БЕРАЗЕ КАЛЯДАЎ

***У рубрыцы "За гарбатай" — гутарка на тэму "Жаночая творчасць і жанчына ў творчасці: беларускі кантэкст"***

**6—7, 12**

## ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА

***Так называецца новая рубрыка, дзе будуць змяшчацца своеасаблівыя крытычныя мініяцюры пра кнігі і творы розных пісьменнікаў, выбар якіх будзе цалкам падпарадкаваны суб'ектыўнаму густу Галіны ТЫЧКІ***

**7**

## СІЛУЭТ У ГІСТАРЫЧНАЙ ПАНАРАМЕ

***Уладзімір МЕХАЎ: "Што да духоўнага, да культуры, то час той, дваццатыя, у летапісе Беларусі — неадназначны. Так, аб свабодзе творчасці не магло быць гаворкі. Так, за нацыянальнай інтэлігенцыяй змрочна сачыла АДПУ. Аднак жа па-веснавому рванула ў квецень прага пашанотнага месца беларускага слова ў прыгожым пісьменстве. Аднак жа нараджаліся беларускія тэатры, беларуская кінавытворчасць, шырылася асвета".***

**13**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Калі хто з Вас яшчэ не паспеў падпісацца на наш штотыднёвік, то гэта зрабіць можна і сёння. Кошт падпіскі на люты — 50 тысяч рублёў, да канца I квартала — 100 тысяч, на пяць месяцаў — 250 тысяч рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



*Снегам засыпана нашае ўчора.*
*Снег панавокал, як снежнае мора.*
*Можна па лесе пайсці, заблудзіцца,*
*Снежным святлом, як вінком, наталіцца.*

Фота А. МАЦЮША

*ЧАСОПІСЫ-99*

# "Беларусь" — люстэрка Беларусі

**Гэтыя словы, што вынесены на чацвёртую старонку вокладкі дванаццатага за мінулы год нумара публіцыстычнага і літаратурна-мастацкага ілюстраванага штомесячніка "Беларусь", вельмі дакладна вызначаюць сутнасць выдання, якое бярэ свой пачатак з часопіса "Чырвоная Беларусь", што, як вядома, нарадзіўся ў студзені 1930 года, а апошнім часам значна змяніў свой выгляд, стаў надзіва багаты матэрыяламі і на самай справе ператварыўся ў свайго роду візітоўку нашай суверэннай дзяржавы. Якім жа ён будзе ў новым, 1999 годзе?**

**На гэтае пытанне нашаму карэспандэнту адказвае галоўны рэдактар "Беларусі" Аляксандр ШАБАЛІН:**




— І ў 1999 годзе мы захаваем свой накірунак, які акрэсліўся некалькі гадоў назад, — накірунак на духоўнае аздараўленне нацыі. Часопіс, зразумела, не аператыўнае перыядычнае выданне, якой з'яўляецца газета, мы не можам паспяваць за падзеямі. Таму асноўны пошук вядзём (і будзем весці!) у сферы вечных, агульначалавечых каштоўнасцяў, а яны — ва ўдасканаленасці маральнасці і духоўнасці. І пры гэтым у шматлікіх матэрыялах будзем закранаць самыя розныя аспекты згаданай праблемы.

У прыватнасці, да 2000-годдзя з'яўлення Хрысціянства распачынаем новую рубрыку "Падзвіжнікі святыні". Гаворка пойдзе пра святых зямлі беларускай і пра беларускія іконы, а таксама пра звязаныя з імі паданні, легенды.

Паколькі асноўныя чытачы "ЛіМа" тыя, хто цікавіцца літаратурай, мастацтвам, культурай у цэлым, засяроджу ўвагу на гэтай праблематыцы і на старонках "Беларусі". Тут мы нічога новага адкрываць не збіраемся. Усё тое, што традыцыйна складвалася ў часопісе і вытрымала выпрабаванне часам, захаваем.

Прынамсі, па-ранейшаму будзем змяшчаць высокамастацкія творы прозы, паэзіі. Разам з тым з'явіцца, як па маю думку, цікавая рубрыка — "Двое на Парнасе". На Беларусі ёсць нямала пісьменніцкіх сем'яў. Мяркуем прысвячаць ім у нумары разварот. Раскажам пра іх быт, захапленні, адпачынак. Першы матэрыял з гэтага цыкла будзе змешчаны ў сакавіцкім нумары.

З'явіцца і рубрыка "Незабыўныя імёны". Героямі яе стануць знакамітыя людзі — грамадскія і палітычныя дзеячы, спартсмены. Правільней, знакамітыя раней, а цяпер яны, як кажуць, сышлі з арэны, пра іх многія забыліся. А мы ўспомнім. І, упэўнены, што жыццё многіх з іх варта прыкладу, яны могуць узбагаціць новыя пакаленні духоўна, уласным прыкладам у нечым дапамагчы ў сённяшнім жыцці.

Захаваем рубрыку "Кніга на роздум". Думаецца, яна ўжо знайшла свайго чытача. Янка Сіпакоў, які вядзе яе, расказвае не проста пра новыя кнігі, што з'явіліся апошнім часам у дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтвах, а скіроўвае ўвагу на рэдкія, унікальныя выданні, якія часам прайшлі не заўважанымі. Ці з-за малога іх тыражу, ці па нейкай іншай прычыне. А яны ж вартыя таго, каб пра іх ведалі.

Некаторыя ж тэмы "Беларусі", як урэшце і іншым часопісам, падказвае само жыццё. З'явіліся новыя паняцці, пра якія параўнальна нядаўна многія і не ведалі. Для прыкладу: відэа-арт, шоу-бізнес, рэклама. Пра гэта таксама трэба пісаць. І не проста канстатаваць той ці іншы факт, а аналізаваць, узнімаць праблемы.

Такія асноўныя накірункі працы часопіса ў сёлетнім годзе. Запрашаю ўсіх, хто неабыякавы да жыцця сваёй краіны, стаць актыўнымі чытачамі і падпісчыкамі "Беларусі".

**Запісаў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Быкаў, Пташнікаў, Коўтун і іншыя

Кожны новы год для часопіса — гэта дванаццаць новых кніг, якія рэдакцыя павінна падрыхтаваць для чытача. Гэта нямала, калі ўлічваць тое, што выдавецтвы не маюць магчымасці ў поўнай меры задаволіць патрэбы кніжнага рынку. "Нёману" прыемна, што за дзесяткі гадоў адданыя яго прыхільнікі застаюцца з часопісам, колькасць падпісчыкаў і сёлета не зменшылася, наадварот.

Што будзе надрукавана ў "Нёмане" сёлета, калі ўжо чатыры нумары практычна падрыхтаваны? Пачну, як празаік, з прозы. У першым нумары друкуецца аповесць Уладзіміра Бутрамеева "Земля и люди", апавяданне Івана Пташнікава "Три пуда ржи", у наступных нумарах — дэтэктыўны раман Віктара Праўдзіна "Возвращение из преисподней", аповесць "Волчья яма" Васіля Быкава, раман Валянціны Коўтун "Крест милосердия", раман Георгія Марчука "Глаза и сон", перакладная аповесць Эжэна Іанеска "Затворник"...

Упэўнены, што пералік "буйных" твораў дапоўняць і тыя, якія заяўлены для публікацыі ў часопісах "Полымя" і "Маладосць"...

Не буду займаць газетную плошчу пералікам апавяданняў і вядучых, і маладых празаікаў, як беларускамоўных, так і рускамоўных, гэтак жа як і прозвішчамі слынных паэтаў і дэбютантаў у паэзіі. Тыя, хто чытае "Нёман", ведае, што яны ёсць у кожным нумары часопіса.

Не меней змястоўным будзе і "другі" сшытак часопіса. У першым нумары друкуецца традыцыйны "Круглы стол" "Нёмана" на тэму "Психологическая культура общества", падрыхтаваны публіцыстычныя матэрыялы пра лёс малых гарадоў Беларусі, стан нашай глебы, вады, матэрыялы на гістарычныя тэмы, пра сучасную культуру і мастацтва, інтэрв'ю з вядучымі майстрамі.

Насычаным і змястоўным будзе раздзел крытыкі і літаратуразнаўства як і ў плане асвятлення праблем літаратурнага працэсу, гэтак і ў даследаванні гісторыі літаратуры. Тут варта адзначыць і такое пачынанне: даць творчым партрэты нашых вядучых крытыкаў, якія пастаянна пішуць пра пісьменнікаў, а самі міжволі застаюцца ў цені.

Чытачоў, бясспрэчна, прыцягне пераклад дзённіка Пімена Панчанкі, успаміны Карыны Мазуравай "Время и личность", Анатоля Дзялендзіка "От великого до смешного". І вядома ж, у часопісе будуць рэцэнзіі на новыя кнігі і іншыя матэрыялы.




**Алесь ЖУК, галоўны рэдактар часопіса "Нёман"**

*ДАТЫ*

# Адзначым год Манюшкі

Сёлета спаўняецца 180 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка Станіслава Манюшкі. Імя гэтага кампазітара, якое традыцыйна звязваецца з польскай музыкай, мае глыбінную, крэўную сувязь з беларускай культурай і з нагоды юбілею мае быць ушанавана адмыслова. Таму Беларускі фонд культуры абвясціў сёлетні год годам Манюшкі. Створаны арганізацыйны камітэт па святкаванні, які ўзначаліў вядомы музычны дзеяч краіны, народны артыст, лаўрэат дзяржаўных прэмій, прафесар Міхал Казінец. У планах — шэраг канцэртаў, правядзенне дзіцячага фестывалю-конкурсу імя С. Манюшкі (Чэрвеньскі раён, месца знаходжання Убеля — радзіннай сядзібы кампазітара), адкрыццё мемарыяльнага знака на доме ў гістарычным цэнтры Мінска, дзе жыла сям'я Манюшкаў. Кульмінацыя ўрачыстасцяў прыпадае на май — час яшчэ ёсць, каб распрацаваць грунтоўны план імпрэзы і надаць святу шырокі розгалас.



**С. Б.**

*АБСЯГІ*

*ГОМЕЛЬ...*

## Душа — у іконах

Знаёмства з культурай, бытам мінулага немагчыма без знаёмства з іконай. Гэта асабліва ўсведамляеш, калі наведваеш экспазіцыю "Народная ікона Гомельшчыны".

Асноўную частку выставы, адкрыццё якой адбылося ў абласным цэнтры 15 студзеня, складаюць каля 150 ікон з фонду абласнога краязнаўчага, Веткаўскага, Чачэрскага, Рэчыцкага музеяў народнай творчасці.

Прадстаўлены на выставе таксама царкоўныя рэчы, творы прыкладнога мастацтва, народныя строі, ткацтва, сельскагаспадарчыя прылады. Гэтыя экспанаты ствараюць асяроддзе, неабходнае для ўспрымання культуры Беларусі і Расіі XIX — пачатку XX стагоддзя. Наведвальнікі таксама атрымліваюць цікавыя звесткі аб рэлігійных святах і народных абрадах.

**Алег АНАНЬЕЎ**

## Жлобінская бібліятэка — лепшая...

На Гомельшчыне нямала бібліятэк, якія праводзяць вялікую работу па адраджэнні нацыянальнай культуры, літаратуры, мастацтва і краязнаўства. Пра гэта сведчаць і вынікі абласнога конкурсу-агляду за 1998 год. Адна з лепшых такіх устаноў — Жлобінская раённая бібліятэка. Пастаянна на яе паліцах творы вядомых беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку зямлякоў Аляксандра Капусціна, Уладзіміра Федасеенкі, якія, дарэчы, у свой час працавалі ў "ЛіМе".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Рэпетыцыі на коласаўскай сцэне

Трупа акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа пачынае рэпетыцыі п'есы па матывах гогалеўскіх "Мёртвых душ". Пастаноўшчык Мікалай Трухан плануе зрабіць сучасны спектакль у фантасмагарычным стылі. Літаратурная першакрыніца, сцвярджае рэжысёр, дазволіць стварыць экстравагантнае відовішча. У будучым рэпертуары тэатра і п'еса "Валошкі Шагала", у якой галоўная роля аддадзена Генадзю Гайдуку. Спектакль Горына "Чума на абодва вашыя дамы" (па матывах п'есы Шэкспіра "Рамэо і Джульета") ставіць расійскі рэжысёр Ю. Пахомаў.

**Святлана ГУК**

*ГРОДНА...*

## Канікулы — у сем'ях вяскоўцаў

Па добрай традыцыі, што склалася за апошнія два гады, 130 выхаванцаў Парэцкай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без бацькоўскай апекі, правялі зімовыя канікулы ў сем'ях вяскоўцаў. Роўна два гады таму паклала пачатак цудоўнай ініцыятыве сям'я Гразновых з вёскі Рыбніца Гродзенскага раёна. Усе навагодні святы адзін з выхаванцаў школы правёў менавіта тут. З таго часу жыхары навакольных вёсак запрашаюць у госці інтэрнацкіх дзяцей на кожныя канікулы. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі апошнія два тыдні зімовага адпачынку правялі ў сем'ях, што сталі для іх ужо амаль роднымі. У часовых прыёмных бацькоў з вёсак Рыбніца, Парэчча і Новая Руда ёсць намер забраць падапечных і на будучыя вясновыя канікулы. А ў школе-інтэрнаце вырашана правесці вечар адпачынку дня дзяцей і іх апекуноў.

**Ларыса НАВІЦКАЯ**

*БРЭСТ...*

## Справаздачны сход пісьменнікаў

Абласное аддзяленне СБП правяло справаздачна-выбарны сход, на якім была абмеркавана праца пісьменнікаў сябрыны за апошнія 4 гады. Галоўным набыткам, як адзначалася на сходзе, з'яўляецца выхад кніг. Паколькі меліся вялікія праблемы з выданнем кніжак у мінскіх дзяржаўных выдавецтвах (за 4 гады выйшла толькі 5 зборнікаў), літаратары звярнуліся ва ўпраўленне па друку аблвыканкама і да прыватных выдаўцоў. У выніку за справаздачны час падрыхтавана і выдадзена два дзесяткі кніг, распачата серыя "Берасцейскае вогнішча", пабачылі свет два выпускі альманаха "Берасцейскія карані", два нумары гісторыка-краязнаўчага і літаратурнага часопіса "Радавод".

Два сябры аддзялення паэты Мікола Купрэеў і Алесь Каско сталі лаўрэатамі літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, а Зінаіда Дудзюк і Мікола Сянкевіч лаўрэатамі рэспубліканскага конкурсу кароткага апавядання.

Аддзяленне плённа кіруе абласным літаратурным аб'яднаннем пры газеце "Зара", літаратурным гуртком студыі "Спадчына" (кіраўнік М. Пракаповіч). Менавіта сябар гэтага гуртка Ярына Дашына стала першаю ўладальніцай прыза імя Я. Янішчыц па выніках рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў "Дэбют". Літаратурныя аб'яднанні і гурткі працуюць зараз ва ўсіх раённых цэнтрах, асабліва плённа ў Баранавічах, Бярозе, Жабінцы, Камянцы.

Нямала зроблена для ўшанавання памерлых пісьменнікаў У. Калесніка, В. Праскурава, М. Рудкоўскага. Рыхтуецца да друку спадчына С. Крываля, М. Арахоўскага...

Гаварылі пісьменнікі на сходзе і пра нявырашаныя праблемы, найперш — жыллёва-бытавыя. Калі М. Купрэеву нарэшце ўжо выдзелена кватэра ў Пружанах, дык у паляпшэнні жыллёвых умоў па-ранейшаму маюць патрэбу З. Дудзюк, браты Дзбішы і іншыя. Цяжкасці ёсць і з пошукамі фундатарскіх сродкаў для выдання кніг. Удзельнікі сходу далі наказ намесніку старшыні СБП Навуму Гальпяровічу, каб кіраўніцтва саюза больш увагі надавала рэгіянальным аддзяленням.

У сходзе прынялі ўдзел 13 сяброў аддзялення з 18-ці. Сакратаром аддзялення зноў абраны Алесь Каско.

## Народнай майстрысе — 20 гадоў

Графіка, іканапіс, роспісы па дрэве і шкле, інкрустацыя саломкай — такое кола захапленняў Ірыны Кулецкай з Пружан. Яе работы, арыгінальна выкананыя ў стылі народнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, неадноўчы экспанаваліся на абласных і рэспубліканскіх выставах, у тым ліку у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. Не так даўно дзяўчыне з Пружан, цяпер студэнтцы Мінскага універсітэта культуры, было нададзена званне "Народны майстар Беларусі".

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎ...*

## Імёны загінуўшых — на сценах храма

Пяць гадоў таму ў Хоцімску ля сабора Святой Тройцы была пабудавана капліца з алтарнай абсідай у гонар жыхароў горада, якія загінулі ў гады першай сусветнай, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Сабрана ўжо 5 тысяч 700 імёнаў і прозвішчаў. Настаяцель храма архімандрыт Кірыла турбуецца аб тым, каб увекавечыць загінуўшых воінаў у кнізе "Памяць". Праз некалькі гадоў прозвішчы загінуўшых воінаў плануецца выбіць на сценах храма.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Ля вытокаў

**Архіў найноўшай гісторыі, утвораны Беларускім грамадскім фондам "Наша Ніва" ў рамках даследчага праекта "Антыкамуністычная апазіцыя Беларусі 1945—1991", наладзіў у Літаратурным музеі Янкі Купалы выставу "Ля вытокаў незалежнага грамадства. Асобы і падзеі беларускай апазіцыі 1950—1980-х". На думку Алега Дзярновіча, дырэктара Архіва найноўшай гісторыі, выстава не мае мэты лінейна паказаць развіццё беларускага грамадства ў 1950—1980-я гады. Галоўнае зараз — скіраваць увагу грамадства на асоб, якія маюць вялікае значэнне для беларускага грамадства.**

**Бо іх праваабарончая, навуковая і культурніцкая дзейнасць аб'ектыўна спрыяла ўтварэнню асноў незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы — той Беларускай дзяржавы, якая яшчэ будзе.**

**На стэндах прадастаўлены матэрыялы, якія апавядаюць пра "Акадэмічны асяродак" 1962—1974 гадоў, маладзёжны рух пачатку — сярэдзіны 1980-х, беларускі музычны нонканфармізм, палітычны рух 1988—1990 гадоў, пра дзейнасць Аляксея Каўкі, Міхася Кукабакі, Ларысы Геніюш, Міколы Ермаловіча...**

**Хроніка дэмакратычнай апазіцыі і палітычных рэпрэсій у Беларусі 1953—1991 гадоў пераканаўча сведчыць, што ў нашым краі адбываліся тыя ж працэсы, што і ў Польшчы, Венгрыі, Усходняй Германіі, Балтыі, на Украіне. Зразумела, яны мелі сваю спецыфіку, абумоўленую і геапалітычным станам краіны, і двухсотгадовай русіфікацыяй. Найгалоўнейшыя вынікі гэтых працэсаў — здабыццё Беларуссю незалежнасці ў 1991 годзе. Гэта ўжо іншая тэма найноўшай гісторыі.**

**П. В.**

## А ў БСЛМК — свае прэміі

**З мэтай далейшага развіцця нацыянальнага мастацтвазнаўства і літаратурна-мастацкай крытыкі, павышэння іх ролі ў культурным жыцці краіны, заахвочвання да больш актыўнай дзейнасці ў гэтай сферы гуманітарнай навукі і мастацкай творчасці Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў (БСЛМК) устанавіў свае штогадовыя прэміі за лепшыя работы ў галіне мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства і крытыкі. Прэзідыум рады БСЛМК, разгледзеўшы вынікі дзейнасці за 1998 год, вырашыў прысудзіць дыпломы і грашовыя прэміі шэрагу членаў гэтага творчага саюза. Лаўрэатамі сталі: Сцяпан ЛАЎШУК, доктар філалагічных навук — за публікацыю літаратуразнаўчых прац; Тамара ГАРОБЧАНКА, кандыдат мастацтвазнаўства — за публікацыю тэатразнаўчых прац; Вольга НЯЧАЙ, доктар мастацтвазнаўства — за публікацыю кіназнаўчых прац; Мая ГАРЭЦКАЯ, тэатральны крытык — за стварэнне тэлевізійных перадач аб тэатры; Валерый ЖУК, кандыдат мастацтвазнаўства — за публікацыю мастацтвазнаўчых прац. Разам з тым прэзідыум не забыўся і на маладых крытыкаў. Сярод адзначаных дыпломамі і грашовымі прэміямі — выкладчыца Беларускага гуманітарнага ліцэя Юлія АЛЕСЬНІНА (літаратуразнаўства), аспірантка Беларускай акадэміі мастацтваў Таццяна КОМАНАВА (тэатральная крытыка), аспірантка Беларускай акадэміі музыкі Ларыса ЗУБАРАВА (музыказнаўства). Да ўсяго маладыя лаўрэаты атрымалі рэкамендацыі для ўступлення ў Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў.**



ЛЁСЫ

# Знайсці і аддаць...

***Не ўсім, што нарадзіліся на зямлі продкаў, выпадае пражыць век у родным кутку. Такія людзі — як перасаджаныя дрэвы: хтосьці цяжэй прыжываецца, хтосьці лягчэй... Такога чалавека сустрэў у славацкім горадзе Прэшаў беларускі філолаг, выкладчык тамтэйшага універсітэта Віталь Маслоўскі. Ніна Сцяпанаўна ЗАГУРКАВА — вахцёрка ў студэнцкім інтэрнаце. Звычайна, па-зямному складваецца яе жыццё: выгадавала траіх дзяцей, падрастаюць унукі. Багаты ўнутраны свет гэтай жанчыны прыцягвае да сябе моладзь. Менавіта студэнты часта з'яўляюцца першымі слухачамі і крытыкамі вершаў "пані вратнічкі"...***

**— Ніна Сцяпанаўна, калі і як вы адчулі ў сабе патрэбу выказацца менавіта ў вершах? Што паслужыла прычынай гэтага?**

— Гэта здарылася не так даўно, калі ў маім жыцці адбыўся вялікі пералом, калі я раптам засталася адна, дакладней — сам насам з сабою, са сваімі думкамі-думамі пра ўсё, што было ў жыцці раней. Змагалася за мужа, гадавала і выхоўвала дзяцей, сама, толькі сама дбала пра іх дабрабыт. І вось так адбылося, што ў адзін год, у адзін месяц выйшла замуж старэйшая дачка, а за ёй — і сын ажаніўся... Доўгія гады, усё папярэдняе жыццё мы былі ўсе разам, і раптам — я адна. Як зараз памятаю: стаяла, пазірала ў вакно і нейк самі па сабе ўзніклі думкі, нарадзіліся словы, склаліся ў радкі, і я іх запісала. Ужо немаладога веку я была. Сама здзівілася. Думаю, што пустэча ў душы павінна была нечым запоўніцца. Быццам Бог паслаў мне тыя радкі дый зараз водзіць маёй рукою, "каб складна ўсё было".

Натхненне — гэта сапраўдная тайна, альбо — па-славацку кажучы — "таёмства"...

**— Вы пішаце на дзвюх мовах. На роднай — украінскай і на славацкай. Такое паэтычнае двухмоўе не часта сустракаецца...**

— Усё атрымалася без асаблівых цяжкасцей. Калі прыехала сюды, у Славакію, на радзіму мужа, паціху-памалу стала чытаць на славацкай мове газеты, часопісы. Калі дзеці пайшлі ў школу, то, дапамагаючы ім у вучобе, я вучылася разам з імі, так паступова авалодала гэтай моваю актыўна. Стала гаварыць на ёй. Я і думаю цяпер па-славацку і па-ўкраінску аднолькава лёгка. Сёлета якраз пераломны для мяне год — 26 гадоў было мне, калі я прыехала сюды — і вось ужо роўна столькі пражыла тут. Не заўважыла, як і праляцелі гэтыя гады... Адчуваю, што рытм славацкай мовы некалькі іншы, чым украінскай, і вершы на ёй атрымліваюцца па моўным афармленні іншыя.

Здараецца, што задумаю верш на адной мове, а потым перакладаю ў думках на другую. Не заўсёды атрымліваецца. Адкладаю да лепшых часоў, потым вяртаюся. Мне цікава назіраць, як думкі і вобразы як бы перацякаюць, пераліваюцца з адной мовы ў другую. Калі былі прапановы надрукаваць вершы, то я рашылася даць толькі ўкраінскія.

**— Якія эпізоды з далёкай краіны дзяцінства найбольш вам запомніліся?**

— Часцей за ўсё прыпамінаюцца гады, што прайшлі на радзіме, калі жыла з дзедам і бабуляй у Запарожскай вобласці. Менавіта тады адчувала сябе вольнай, ніхто мяне не крыўдзіў (у адрозненне ад перыяду, калі жыла з мамай і айчымам). Здавалася, што ўвесь неаглядны стэп, поўныя яблык і груш сады — усё навакол належыць табе, створаны для цябе. Галоўнае, што засталося ў памяці, — ласкавыя вочы і рукі маіх бабулі і дзядулі па мацярынскай лініі. Часта згадваю поўныя місы мёду, якія ставіў перада мною мой дзядзька, — мамін брат. Ён і зараз жыве ў Запарожжы. На роднай Ровеншчыне засталіся мама і брат. Амаль кожны год бывала там раней, калі-нікалі маці прыязджае да мяне сюды. Яна, да слова, была вязнем канцлагера ў Аўстрыі. Часам чытаю і раздумваю над тым, што напісана ў розных бестселерах, і хочацца прапанаваць людзям перажытае і пражытае простымі людзьмі на самай справе. Збіраю матэрыял, думаю, вяду запісы. Але гэта толькі планы.

**— Ці дапамагаюць вам вершы ў рэальным жыцці? Можа, зварот да паэтычнага слова — гэта магчымасць збегчы ад рэальнасці?**

— Ад рэальнага жыцця, яго клопатаў і згрызот не збяжыш ніколі і нікуды. У мяне такі характар, што заўсёды шкада часу, асабліва, калі ён страчаны марна. Не магу сказаць, што напісанне вершаў — проста, як кажуць зараз, хобі. Гэта не зусім так. Зразумела, у жыцці хвіліны, часы, калі хочацца заняцца нечым прыемным для душы. Напрыклад, я вельмі люблю прыроду, часта хаджу ў горы, у лес, проста блукаю па ваколіцах нашага горада. Як некалі ў маладосці, і зараз люблю спяваць. Ведаю шмат украінскіх, рускіх і славацкіх (асабліва народных) песень. Люблю чытаць, танцаваць, шыць. З задавальненнем гатую і частую гасцей.

Думаецца мне, што перастань я вось так з любасцю ставіцца да прыроды, рабіць нешта добрае для людзей, для сваіх родных і блізкіх, то навошта тады наогул жыць на свеце? Аніякія вершы не ўратуюць...

**— Ніна Сцяпанаўна, ваша недалёкае мінулае, сучаснае жыццё і, безумоўна, будучыня звязаны са Славакіяй. У вас тут ёсць сваё асяроддзе: дзеці, сябры, суседзі. Вы верыце ў людзей?**

— Так, веру, усё яшчэ веру ў людзей, хаця неадноймы была ашукана ў сваіх лепшых да іх памкненнях. Чалавек не можа, не павінен быць сам па сабе.

***Жывеш — жыві, але б смерці памятай.***
***І мэту у жыцці ніколі не губляй.***
***Жыццё — страла. Умомант праімчыць,***
***За ім стралой і смерць ляціць.***

*(Вольны пераклад. — **В. М.**)*

У жыцці я стараюся знайсці аптымальнае выйсце з любога становішча. Калі да ўсяго, што адбываецца, падыходзіць разважліва, з розумам, то ўсе праблемы можна вырашыць. У гэтым я аптыміст. Калі чалавек здаровы душой і целам, ён заўсёды знойдзе выйсце з кожнай сітуацыі.

**— Напрыканцы гутаркі, Ніна Сцяпанаўна, вось пра што спытаю: якое цікавае для вас пытанне я не задаў? І як бы вы на яго адказалі?**

— Вы мне не задалі пытання аб месцы і прызначэнні ў чалавечым жыцці такога пачуцця, як Любоў. Менавіта яна, Любоў, правіць светам. Так я думала раней, у далёкім юнацтве, так думаю, і зараз. З вялікай Любові — Кахання — Ласкі (па-славацку), можа, часам і нешчаслівай — і нараджаецца паэзія. Асабіста я вельмі ўдзячна, што спазнала гэтае пачуццё. Калі навучышся любіць, тады многае ў жыцці разумееш ясней. Асабліва зараз, у наш пераломны час, на парозе новага тысячагоддзя.

Чалавеку трэба знаходзіць гэтую любоў у сабе і аддаваць яе іншым, калі ён хоча хоць трошкі спазнаць шчасце быцця.

**Гутарыў Віталь МАСЛОЎСКІ**

*Славакія, г. Прэшаў*

СЕМІНАРЫ

# Прэса і сацыялогія

***Дырэктар сацыяметрычнай лабараторыі "Новак" Андрэй ВАРДАМАЦКІ і эксперт Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў Надзея Яфімава сталі гасцямі клуба журналістаў пры Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры (ІВВ). Чарговы семінар клуба меў назву "Прэса ў люстэрку сацыялогіі".***

Лабараторыя "Новак" праводзіць у месяц не менш пяці апытанняў, якія ахопліваюць усе рэгіёны рэспублікі. А. Вардамацкі расказаў пра кухню сацыялагічных даследаванняў. Яе асабліва важна ведаць прадстаўнікам прэсы, бо журналісты — транслятары інфармацыі. Кожнаму, хто выкарыстоўвае сацыялагічныя дадзеныя ў сваіх матэрыялах, трэба ўлічваць і пазначаць наступныя моманты:

а/ якая колькасць рэспандэнтаў удзельнічала ў апытанні (пры тым, што колькасць не заўсёды азначае якасць);

б/ якім метадам здымалася інфармацыя (праз газетную анкету, паштовую рассылку, тэлефон і да т.п.);

в/ якая ўстанова праводзіла апытанне;

г/ наколькі свежыя па часе звесткі;

д/ ці меў месца ўплыў індывідуальнага псіхалагічнага вопыту;

е/ быць асцярожным у адносінах да ўсемагчымых рэйтынгавых паказчыкаў.

Пытанні журналістаў тычыліся рознай інтэрпрэтацыі адных і тых жа дадзеных. Напрыклад, 7 працэнтаў кваліфікаваных рабочых — гэта многа ці мала? Адны напішуць "усяго 7", а другія — "цэлых 7". А. Вардамацкі сказаў, што такая полівaрыянтнасць — звычайная з'ява ў СМІ, і пажартаваў: "Ісціны няма, ёсць яе інтэрпрэтацыі". Удзельнікі семінара даведаліся пра вынікі вялікага сацыялагічнага праекта "Еўрабарометр". Згодна з імі, грамадзяне Беларусі глядзяць у будучыню без усялякага аптымізму.

Н. Яфімава распавяла пра апытанне журналістаў, праведзенае ў канцы 97-га. У ім удзельнічала 91 чалавек, з іх 45 прадстаўлялі дзяржаўныя выданні і 46 — незалежныя.

Аказалася, што і тыя, і другія аддаюць перавагу неафіцыйным каналам атрымання інфармацыі. Асноўныя крыніцы інфармацыі — гэта адміністрацыя прэзідэнта, міністэрствы, КДБ, МУС, органы мясцовай улады. Афіцыйныя запыты прадстаўнікоў прэсы мелі наступны вынік: па дзяржаўных станоўчы адказ атрымалі 84 працэнты, па незалежных 73 працэнты — адмову. Найбольш закрытымі з'яўляюцца Міністэрства ўнутраных спраў. Ад яго дзяржаўныя выданні мелі адмову ў 14-ці працэнтах выпадкаў, незалежныя —у 70-ці. Па адміністрацыі суадносіны такія самыя: 14 і 78. Найчасцей хаваюць ад грамадскасці фінансавыя дакументы, акты праверак, матэрыялы судовых спраў. Даведнікі па правах чалавека раяць у такіх выпадках звяртацца ў суд. 4 працэнты апытаных рабілі такія спробы. Адмовы з судоў ім даваліся па тэлефоне і без належных тлумачэнняў.

Адно з даследаванняў інстытута тычылася нацыянальнага характару і абапіралася на матэрыялы "Свабоды", "Нашай нівы", "ЛіМа", "Народнай газеты", "Звязды" (кантэнт-аналіз 93-га года). Характарыстыка нацыі вызначалася па 37-і параметрах, з іх як асноўныя адзначаны 17. Сярод іх пераважалі такія рысы, як талерантнасць, дабрата, стараннасць. Дзеллівасць аказалася на адным з апошніх месцаў у ліку станоўчых якасцей беларусаў. Ініцыятыўнасць (творчы падыход да справы), актыўнасць, цвёрдасць характару, настойлівасць таксама не вельмі для нас уласцівыя. Што ж тычыцца характарыстыкі канкрэтных асоб, то ў іх падкрэсліваліся якраз тыя рысы і якасці, якіх не хапае нацыі. Такім чынам, назіраецца разыходжанне іміджу нацыі з эталонам асобы. Напрыклад, адзначаецца, што яркая асоба як бы супрацьстаіць агульнай масе.

Цікавыя звесткі прывялі Н. Яфімава і па прапагандзе каштоўнасцей свабоднай рынкавай эканомікі. Былі параўнаны тэлеперадачы "Эканамікст" і "Панарама" 97-га і 98-га гадоў (тэматыка, героі, відэарад). У першай з названых 25 працэнтаў удзельнікаў — спецыялісты-эксперты фінансавай і прамысловай сфер, у другой 20 працэнтаў — прадстаўнікі выканаўчай улады. Прадпрымальнікаў у першай — 43 працэнты, у другой — 0,3 працэнта. Цікава, што вучоныя-эксперты пазбягалі ацэнак у сваіх выказваннях, экспрэсіўна выказваліся толькі чыноўнікі і прадстаўнікі новай сацыяльнай групы — прадпрымальнікі. Адрозніваліся і візуальныя "карцінкі". У "Эканаміксе" — офіс, круглы стол (як сімвал дыскусійнасці), у "Панараме" звычайна — начальніцкі кабінет, дзяржаўная сімволіка, трыбуна. Як быццам усё ўжо вырашана, і нам выдаюць гатовыя рэцэпты.

Інстытут, які прадстаўляла Н. Яфімава, працуе ўжо 6 год, яго ўзначальвае прафесар А. Манаеў.

Наконт нацыянальных рысаў у клубе ўсчалася дыскусія. Журналісты гаварылі, што пад талерантнасцю часта хаваецца звычайная баязлівасць. А. Вардамацкі адзначыў расплывістасць, неадназначнасць паняцця "талерантны". Яно праяўляецца як цярпімасць (псіхалагічная аснова дэмакратыі), і як канфармізм, пакорнасць, паслухмянасць. Прадстаўнікі незалежнай прэсы не раз сутыкаліся з агрэсіўнасцю беларусаў у адносінах да іншых меркаванняў, коснасцю, непрыманнем новага.

Дзесяты па ліку семінар прайшоў цікава і ўзбагаціў удзельнікаў новымі ведамі.

**Г. К.**

ВЕЧНАЕ

# Пра Буніна

НЯДАЎНА БЫЛО 65 гадоў з таго часу, як Буніна І. А. ушанавалі Нобелеўскай прэміяй, і 45, як ён памёр.

Але не толькі гэтыя даты падштурхнулі, як кажуць, добрым словам памянуць такога незвычайнага чалавека і пісьменніка, не менш і іншае: паразважаць пра жыццёвы і творчы лёс своеасаблівай, таленавітай асобы ў пераломныя часы гісторыі і ў нейкай ступені зрабіць гэта праз прызму ўспрымання бунінскай творчасці Твардоўскім. Чаму для гэтага абраны менавіта Твардоўскі? Напомнім, па-першае, якраз ён напісаў вялікі артыкул да Збору твораў Буніна ў 9-ці тамах (М., "Художественная литература", 1965—1967), быў адным з першых, хто ў былым СССР паспрабаваў **справядліва** прааналізаваць усю творчасць рускага пісьменніка-эмігранта, а па-другое, усё ж у пэўных выпадках не пазбег і... *несправядлівасці*. У 60—90-ыя гады былі і іншыя артыкулы, даследаванні бунінскай творчасці і іншых аўтараў, пра многае напісана зычлівей, паўней, і сам Твардоўскі, каб жыў, канечне ж, тое-сёе перагледзеў бы ў сваіх ацэнках, але тым не менш хочацца спыніцца іменна на яго тым слове, што пазней, у 1987—1988 гадах, паўтарылі ў бунінскім шасцітомніку: у тых пахвале, закідах Буніну — тое, з чым апошняму прыходзілася сутыкацца ўсё ягонае немалое жыццё, ад чаго ён не засланіўся нават пасля сваёй смерці.

Здаецца, Бунін не паспеў яшчэ нарадзіцца, а на яго ўжо проста нахлынула тое, з чым пасля не зусім мог разабрацца сам, тым больш з чым не змаглі саўладаць іншыя. Твардоўскі іранічна падкрэсліў адмысловую бунінскую сітуацыю: "древний дворянский род и степной хутор", "оскудение". Зразумела нейкая доля праўды тут ёсць: Бунін, як выразна гучыць у яго творах (ды яшчэ ў дакументальна-аўтабіяграфічных), змалку адчуў, што ён не проста пыл на ветры альбо Іван, які не помніць, не ведае свайго кроўства: "Я происхожу из старого дворянского рода". І далей: "Род Буниных происходит от Симеона Бунковского, мужа знатного, выехавшего в XV в. из Польши к великому князю Василию Васильевичу". Дарэчы, гэтае, выпісанае Буніным з архіўных крыніц, вельмі цікава: а што значыць "из Польши"? Той Сіміяон (Сямён?) мог быць як з Кароны, так і з Княства, г. зн. наш зямляк.* Род Буніных даў нямала расійскіх дзяржаўных дзеячаў, паэтаў А. Буніну і В. Жукоўскага — незаконнага сына А. Буніна і палоннай турчанкі Сальмы. Але... "Может быть, — чытаем у "Жизни Арсеньева", — мое младенчество было печальным в силу некоторых частных условий? В самом деле, вот хотя бы то, что рос я в великой глуши. Пустынные поля, усадьба среди них..." Бунінаў бацька, якому ад продка "наследство осталось не бог весть какое и того не пощадил. Беспечен и расточителен он был необыкновенно". Зноў з вышэйзгаданага рамана: "Рос я, кроме того, среди дворянского оскудения..." Хоць Бунін рашуча пярэчыў, што яго герой Арсеньеў — ніколькі не ён сам, але ўсё ж... Для кожнага чалавека маленства, яго ўмовы, уражанні накладаюць свой глыбокі адбітак, фармуюць яго як асобу.

Бунінскіх думак, настрою, стылю паводзін не зусім разумелі і тыя, хто нарадзіўся, жыў у шыкоўных палацах, і тыя, хто пабачыў свет у папоўскіх, дробначыноўніцкіх будынінах ды сялянскіх хатах. Заможны Л. Талстой амаль усё жыццё адмаўляўся ад багацця і прывілей, імкнуўся да простасці (ва ўсякім разе шмат пра гэта гаварыў і пісаў, спрабаваў рабіць такія ўчынкі, за што, бывала, сям'я пагражала здаць яго ў вар'яцкі дом), іншыя пісьменнікі, "славянафілы" і "заходнікі", славілі даўніну, віцязяў альбо, наадварот, высміхоўвалі сваю як гісторыю, так і рэчаіснасць, Горкі апяваў "бродяг", "босяков" і "юродов" (задвукоссенныя словы бунінскія), дэкаданты рознай масці падкрэслівалі нуду, безвыходнасць ці словаблудничалі, а вось Бунін упарта сыходзіў з пазіцый "оскудевшего дворянства", як у вершах, так і ў прозе з самага пачатку стаяў толькі на рэалістычных пазіцыях і, у прыватнасці, услед за Чэхавым "пробил дорогу к маленькому рассказу" (чэхаўскі выраз), прывучыўшы тагачаснага чытача, што значная літаратура — гэта не толькі тоўстыя раманы, якія ён, чытач, звыкся чытаць доўгімі вечарамі, грэючыся каля каміна, а і невялікія апавяданні ды мініяцюры.

*Падказка для энтузіястаў, хто захоча праясніць гэта: Бунін называе крыніцу свайго радаводу ў "Автобиографической заметке" (М., "Художественная литература", 1986, т. 6, с. 545).*

Канечне, такому радавітаму чалавеку, як Бунін, не лёгка было задавальняцца роляй карэктара, бібліятэкара, бондара, дробнага гандляра, "талстоўца" ці вандроўніка (у дзевятнаццаць гадоў пакінуўшы абяднелую бацькоўскую сядзібу "С одним крестом на груди", больш ніколі не меў уласна свайго кутка, жыў у гасцініцах і пансіянатах), але чым болей бяднеў, тым мацней выяўляў свой гонар. Ды пры ўсім сваім гонары не апусціўся да таго, каб не любіць жыццё і чалавека, як не дазволіў сабе перапоўніцца тым, што па-сённяшняму можна назваць рускім нацыяналізмам альбо шавінізмам. У яго была натуральная **рускасць**, што не можа не выклікаць павагу, хоць нас, беларусаў і украінцаў, "славян-братьев", асабліва ўкраінцаў, ён ведаў добра, але нідзе ва ўсе часы свайго жыцця асабліва не падтрымаў (апроч Т. Шаўчэнкі). Але, па-мойму, нідзе асабліва і не абражаў ды не глуміў, як цяпер гэта робяць свае і прыезджыя "патрыёты" і "общеславяне", для якіх гэтыя тэзісы патрэбны толькі для прыкрыцця, як раней яны прыкрываліся тэзісам "интернационализма".

Буніна-паэта і празаіка заўважылі адразу, але ацанілі, як жартуюць, паляпваючы па плячы ("этот рассказ сделал бы честь и более крупному таланту"), праўда, раней першыя творчыя крокі Чэхава ўспрынялі яшчэ горш ("умрет под забором от пьянства, так как" у яго "искры божьей нет"), пазней Буніна доўга не спяшаліся ставіць упоравень не толькі з Талстым і прызнаным ужо Чэхавым, але і з Горкім, Купрыным і Андрэевым, нават забытымі сёння Патапенкам і Эртэлем. Л. Талстой не раз папікаў яго за "дождики", скажам, у апавяданні "Заря всю ночь" — гэта значыць, нібыта за самамэтнае апісанне прыроды і за празмерную дэталізацыю, што, на думку патрыярха, таксама несла пагрозу рускай літаратуры, бо яна, такая шматфарбнасць, магла засланіць галоўнае — думку, развагі пра сэнс жыцця і смерці, пра дабро і зло, пра сумленне і спачуванне, пачуццё грэху і адказнасці, увогуле маральна-рэлігійныя і эстэтычна-філасофскія прынцыпы і г.д., з чым ён, Талстой, нават са сваімі супярэчнасцямі, падняўся над усімі яго сучаснікамі ва ўсім свеце, аж да праведніка, які займеў права ажно на сваё Евангелле. Талстой заваяваў такі аўтарытэт, якога не было і, здаецца, няма да і пасля яго смерці. Бунін не стварыў сваёй такой сістэмы; шукаючы ў гэтым пуцяводнага, усё жыццё багавялеў перад Талстым, асабліва перад створаным тым у сферы думкі і мастацтва (іншых настаўнікаў рана-позна адхіляў), але і ён, Бунін, не проста сузіраў і маляваў, не быў пазбаўлены здзіўляюча глыбокіх і арыгінальных думак як у паэзіі, у прозе, так і ў гэтакіх сваіх рэчах, як у кнізе "Освобождение Толстого", ва ўспамінах і дзённіках. Урэшце збойся Бунін, не пішы так, як хацеў і мог, колькі б чаго страціла Яе Вялікасць руская літаратура! А мова! З тагачасных прызнаных, здаецца, найбольш цёпла адгукаўся пра Буніна Чэхаў (па прызнаннях самога Буніна і па пазней апублікаваных чэхаўскіх лістах) ды з рознымі абмоўкамі Горкі. Але калі ягоную працу адзначылі вышэйшай узнагародаю Расійскай акадэміі навук — прэміяй імя Пушкіна, а яго самога ў 1909 годзе абралі ў гэтай акадэміі ў лік дванаццаці ганаровых акадэмікаў, да яго прыйшла шырокая вядомасць, хоць зноў жа не ўсе з калег ды грамадскасці Буніна з гэтым шчыра павіншавалі ды парадаваліся за яго поспех — нават з-за папулярнага тады Горкага, якому акадэмічнае званне не зацвердзілі. Як не ўсе згадзіліся і з ягонай рашучай барацьбою з дэкадэнцтвам. Яшчэ ў 24 гады Бунін рэзка заўважыў: "Они сознательно уходят от своего народа, от природы, от солнца", пасля смерці Чэхава ён яшчэ мужней абараняў пазіцыю рэалізму, захіляючы ім рускую літаратуру ад пеністых мадэрніцкіх хваль. Хоць за многімі мадэрністамі ён прызнаваў талент, ікняе права на творчыя пошукі, але да канца дзён сваіх на іхнія бесцырымонныя выпады таксама не шкадаваў сваіх эмоцый, нават, як хтосьці зазначыў, "устроил им Варфоломеевскую ночь": ды яны — "истерики" і "помешанные"! Без ніякіх ваганняў не прымаў ён і надуманасці ды кніжнасці, адстойваў натуральнасць і духоўнае здароўе. Ён асудзіў рэвалюцыю як найвялікшае зло, пазней, ужо ў эміграцыі, не вельмі ладзіў з многімі з тых, хто апынуўся з ім побач, гэтым самым выклікаючы на сябе агонь крытыкі з усіх бакоў. Канечне, часамі быў ён рэзкі, нецярпімы, з тым, даўнім, гонарам (скажам, цяжка згадзіцца, як ён паблажліва, а то і непрымальна ацаніў іх, савецкіх: Маякоўскага, Ясеніна і Шолахава ды, мабыць, і таго ж Твардоўскага падняў не вельмі высока), але нельга адмовіць: ён, Бунін, меў непахісны характар, ясную і цвёрдую пазіцыю, ведаў сабе цану, а гэта значыць быў Асобаю!

І на радзіме, і за мяжой, як бачна, яго гняла думка: а што ўласна гэта такое родная, любімая **Русь**, яе **народ**. На радзіме ён гэта найбольш акрэслена даследаваў у "наиболее социально значимых" "Деревне" і "Суходоле", дзе дасталося ўсім: як "господам", так і "городовым", "извозчикам", "лакеям", "босякам" ды "мужикам!", за мяжой многія бліскучыя старонкі прысвечаны гэтаму ў рамане "Жизнь Арсеньева". У прыватнасці, чытаем там, безумоўна, шчырае, яму вельмі балючае: "Рос я, кроме того, среди дворянского оскудения, которого опять-таки никогда не понять европейскому человеку, чуждому русской страсти ко всяческому **самоистреблению** (тут і далей падкрэслена мной. — **Г. Д.**). Эта страсть присуща не



*Іван Бунін. Фотаздымак 1915 г.*

только дворянам. Почему, в самом деле, влачил нищее существование русский мужик, все-таки владевший на великих просторах своих **таким богатством**, которое и не **снилось** европейскому мужику, а свое безделье, дрему, мечтательность и **всякую неустроенность** оправдывающий только тем, что не хотели отнять для него **лишнюю пядь** земли **от соседа** помещика, и без того с каждым годом все скудевшего? Почему **алчное** купеческое стяжание то и дело прерывалось дикими размахами **мотовства** с **проклятиями** этому стяжанию, с **горькими пьяными слезами** о своем **окаянстве** и горячечными мечтами по своей собственной воле стать **Иовом, бродягой, босяком, юродом**? И **почему** вообще **случилось** ТО, что **случилось с Россией**, погибшей на наших глазах в такой волшебно краткий срок?"

Нямала прайшло ўжо часу з таго моманту, калі Бунін задаваў сабе і іншым гэтыя пытанні, але яны і сёння паўсталі з новай трывогаю. Зразумела, Расія не загінула і не загіне, рэч у іншым: як ёй стаць на ногі і якой быць далей. Пакольні Бунін добра ведаў, што і яго продкі з XV ст. памагалі ўтвараць "святую Русь" (ён не вельмі любіў гэты выраз, бо далёка не ўсё рабілася па-святому), падпарадкавалі больш сотні народаў і плямён з іхнімі агромністымі землямі і багаццямі, то ён не мог не знаць і іншае: утрымаць імперыю нялёгка ды калі ў ёй яшчэ шмат "неустроенности". Гістарычны факт: "Кацярына II задала ў Сенаце вельмі просценькае пытанне: а колькі, панове дзяржаўныя мужы, у нас гарадоў? Ніхто не змог на гэта адказаць, хоць усе, канечне ж, дзень і ноч дбалі толькі пра сваю Айчыну ды пра яе, царыцу-матулю! Ніхто не языкачосіў, не спажываў прывілеі і не краў, не паклёпнічаў адзін на аднаго, не трымаўся рукамі і зубамі за ўладу, не перагароджваў шлях сумленным і здольным! Не мог не асэнсоўваць Бунін, хто і як рэфармаваў імперыю. Пётр I, падвучыўшыся ў Заходняй Еўропе, Кацярына II — немка (праўда, яна, як і Аляксандр-вызваліцель, рабіла гэта не столькі кіем, колькі праз законы і ўказы), а таксама розныя замежныя хапугі і душыцелі тыпу Бірона ды бальшавікі, ухапіўшыся за Марксавы ідэі, якія сам той прысвячаў Заходняй Еўропе, але якія там, "неспособных к социальному перевороту" (Герцэн), не прыжыліся. не проста пажартаваў, здаецца, Бісмарк, калі сказаў прыкладна такое: прыгожыя, спакуслівыя вашы ідэі, панове сацыялісты, але каб іх ажыццявіць, выберце тую краіну, якую вам не шкада! Не мог не помніць Бунін і гэтых апетых у фальклоры "авось", "по щучьему веленью, по моему хотенью", "воля божья", Ямелю на печы ці лягушку, што пераўтвараецца ў царэўну, тчэ і варыць! "Такое богатство, которое и не снилось европейскому мужику", які даражыў кожным лапікам зямлі і шматком, "дикие размахи матовства", "горькие пьяные слезы о своем окаянстве" не маглі не ўзнікнуць на пэўнай глебе — як ад заваёўніцкіх паходаў, войн, захопу ўсё новых земель цароў ад Івана Грознага, Пятра I да Кацярыны II, так і ад рабаўнічых нападаў Ермака, Разіна ды Пугачова. Тое, што даволі лёгка "покорялась" не толькі еўрапейская, азіяцкая, але і амерыканская зямля, што столькі шмат ішло ў рукі здабычы, не магло не настроіць на пэўны лад як кожнага чалавека, так і імперыю ў цэлым. Ніхто не мог усяго злічыць — адпаведна, многім не было патрэбы вельмі клапаціцца пра заўтрашні дзень, працаваць, берагчы кожную капейку. Не проста ж так Дастаеўскі зазначаў, што рускі чалавек не вытрымлівае свайго "величия" — у тым сэнсе, што ў яго краіне ўсяго шмат ды што ў яго такія характар і эмоцыі, якія не ведаюць ніякіх абмежаванняў. Усё гэта можна было ўтаймаваць толькі моцнай уладаю і жалезнай рукою. А вось што да Гаспадара, то тут цяжэй, тут мала грубай сілы і спачатку катаржан, перасяленцаў, пасля мільёнаў рабоў-пасаджаных альбо запрыгоненых бедных калгаснікаў — г. зн. дармавых рабацяг: як пераканаліся, і дэспатызм, і паднявольная праца рана-позна таксама разбэшчваюць, падточваюць усё знутры, як пераўтварае ў труху шашаль дрэва. Трэба большае — уменне разважліва мысліць, кіраваць і працаваць. Не сказаць, каб у Расійскай імперыі, а затым і ў СССР не было мудрых галоў і залатых рук. Не, былі і ёсць. Ды... сядзіць Ваня на куфры з золатам і... галодны, плача, кляне, каецца, марыць пра чыюсьці "пядь земли", замест таго, каб паднішца, адчыніць вечка і цвяроза, па-гаспадарску распарадзіцца багаццем!

Многія рускія гісторыкі і пісьменнікі са скрухай пісалі, што зладжаная Русь з больш ранняй, чым у многіх еўрапейскіх сучасных краінах дэмакратыяй (веча), магла адбыцца на падмурку Ноўгарадскай Рэспублікі, ды яе ў XV ст. (і з дапамогай бунінскіх продкаў) літаральна знішчыла маладая, энергічная, выхаваная на мангола-татарскай дэспатыі Масковія. Як сагнула ў крук, зняволіла і іншыя даўнія рускія княствы, узяўшы на сябе місію "ІІІ-га Рыма". Канечне, тая місія была вялікім цяжарам, ён і ўзвысіў на ўвесь свет, ён і нямала выцягнуў жыццёвых сокаў свайго і паваяваных народаў: трэба было весці бясконцыя міжусобныя і міжнародныя знясільваючыя войны. Пазней — перавароты, рэвалюцыі, грамадзянская бойня, голад, эпідэміі, перапампоўванне люду ў гарады і на новабудоўлі, выкарчоўванне самых здольных і працавітых з вёскі, знішчэнне інтэлігенцыі, Вялікая Айчынная з яе новымі незлічонымі стратамі і ахвярамі, рассяленне рускіх па ўсіх абшарах СССР (ці не 20 мільёнаў?), своеасаблівы палітыка-эканамічны курс, калі на адзін завод працавала не менш сотні іншых заводаў краіны, каласальныя выдаткі на ядзерную дубіну і на спадарожнікі, на перамогу сацыялізму ва ўсім свеце, на ўтрыманне арміі ва Усходняй Еўропе, афганская авантура і г.д., і г.д. — усё гэта, мабыць, не магло стаць недабудаванай Вавілонскай вежаю і для СССР...

Далібог, часамі ўжо і шкада яго, рускага чалавека, розныя "интеграторы", "патриоты", "общеславяне", "государственники" зноў і зноў падбіваюць яго на "великость", не зважаючы, што яму, "старэйшаму брату", звычайна першаму небалазь. Ад яе, "великости", пацярпелі і манголы, і шведы, і французы, а пазней — творцы Асманскай, Аўстра-Венгерскай і Брытанскай імперый, немцы. Але тыя — кожны ў свой час — адмовіліся ад імперскіх амбіцый, сталі менш "великими" ды больш уладкаванымі, зажылі па-людску. Што ж, каб адрадзіць "великую державу", каб гэта прынесла дабрабыт, шчасце ўсім славянам, усім народам, так і быць, можна было б адмовіцца "от парада суверенитетов", пайсці на Галгофу, аддаць жыццё, г. зн. пазбыцца той жа нашай Беларусі, але хіба ў гэтым паратунак і ашчасліўленне іншых?! Будзьма рэалістамі: яны, многія іншыя, нават некаторыя славяне, ужо адмахваюцца: не чапайце, не лезьце да нас са сваімі абдымкамі, ад якіх у нас выскоквае дух! Не ўсіх вернеш, заманіўшы нафтай і газам ды заганяючы танкамі! Трэба ўжо новая геапалітыка, адрозная ад ідэй "ІІІ-га Рыма" — не на імпершчыне, а на супрацоўніцтве, на добраахвотным саюзе, з улікам **нацыянальных** інтарэсаў кожнай краіны, кожнага народа. Мы, адны з усходніх славян, не выключэнне, мы хочам жыць паўнакроўным жыццём на сваёй роднай зямлі, бо іншай у нас няма! Ды і не трэба! Ды і мы за сяброўскі рукапоціск, але супраць абдымання, калі звянеш, а то і загібееш! У гэтым сэнсе мы цярпліва чакаем, што і калі пачнуць рабіць тут "патриоты" і "общеславяне" сорыяльныя іменна для Беларусі, яе гістарычнай памяці, мовы і культуры, будучыні!

*(Працяг на стар. 14—15)*



ЧАСАПІС

## "Журавінавы востраў"

На творчым рахунку Генадзя Пашкова — некалькі паэтычных кніг (выступае, як вядома, таксама ў галіне мастацкай дакументалістыкі і публіцыстыкі, піша для дзяцей). Сярод іх — "Кляновік", "Дыстанцыя небяспекі", "Гравюры дарог", "Люблю, спадзяюся, жыву" і іншыя. Сёлетняя кніга "Журавінавы востраў" — кніга выбранага. Але можна сказаць, што гэта ў пэўнай ступені і новая кніга. Г. Пашкоў адмовіўся ад традыцыйнага размяшчэння твораў, калі кожны з ранейшых зборнікаў прадстаўлены аднайменным раздзелам.

Аднак без падзелу на раздзелы не абышлося і ў "Журавінавым востраве". Але яны новыя і скандэнсавана выражаюць сутнасць таго, што заклаў паэт у кожны з іх, засяродзіўшы ўвагу на канкрэтных праблемах.

А пачынаецца гэтая гаворка пра час і пра сябе са звароту да чытача: "Кажуць, паэзія — госця нябесная. Цяжка аспрэчыць. Але ж трапяткое слова запальвае і далёкая зорка ў выстылым космасе. І зіхоткая сястра яе зямная на спалымнелай калінавай гронцы. Адкуль жа слова ў паэта — ад яркага колеру, ад




рытму, ад трапяткога пачуцця? А можа, ад іншага нечага, ад таго, што нябачна збіраецца ў душы і там тоіцца да пары, каб аднойчы выкрасаць слова?"

Пытанні пастаўлены. А адказ на іх у далейшых развагах Г. Пашкова "Майму чытачу", у якіх гучыць прызнанне ў любові да Бацькаўшчыны і адданасці ёй, а яшчэ больш у вершах.

Першы раздзел, як і ўся кніга, называецца "Журавінавы востраў". У найбольш ранніх сваіх вершах піша паэт пра зямлю, якую палюбіў. Вось як і ў гэтым, датаваным 1972 годам. Шчыра, хораша: "Зямля мая, зялёная расінка, чую я, акрылены вясной, — пчалой гудзе світальная галінка і пахне дзень праталінай лясной". І так пісалася год за годам... Тое, што выспеліла сэрца, на што адгукнулася душа, знаходзіла ўвасабленне ў радках, якія гаючым бальзамам кладуцца на душу кожнага, хто гэтаксама любіць бацькоўскі край, каму дарагія і блізкія краявіды, што запомніліся з маленства, дзе куды няма на свеце і быць не можа лепшай зямлі.

І кожным разам Г. Пашкоў знаходзіць новыя словы, каб перадаць тое, што яго хвалюе. Як у гэтым вершы, напісаным параўнальна нядаўна, у 1991 годзе:

*Іду крутою сцяжкай*
*з абрыву да вады.*
*Страсае ельнік снежкі*
*з кудлатай барады.*

*А потым шахне гурбай*
*цяжэзнаю*
*смялей.*
*— Ты што,*
*рыхтуеш згубу,*
*яловы дуралей?!.*

*Успыхне у палонцы*
*карасік залаты,*
*як вылузнецца сонца*
*усмешкай*
*з барады.*

Раздзел "Снегапад вяртання" — гэта ўжо не толькі прызнанне ў любові, а і трывожны роздум над тым, што было і што ёсць. Лірычны герой Г. Пашкова выказвае і сваё, асабістае. Ён задумваецца над тым, ці так жыў, як трэба, ці рабіў толькі тое, чаго нельга не рабіць. Але адначасова гэта і роздум пакалення, да якога належыць.

Такім роздумам яшчэ ў большай ступені прасякнуты раздзел "Мая любоў, мая трывога", змест якога склалі паэмы "Трывога", "На ласіных картах", "Дзяўчынка з блакітным мячыкам", паляўнічае апавяданне (паводле вызначэння жанру аўтарам) "Легенда Прыпяці".

Кніга паэзіі "Журавінавы востраў" выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Лявон ЮРЧЫК

***Колькі ўжо народу перабывала ў лімаўскім салоне-"гарбатні"! Якіх толькі вучоных размоў не вялося за кубкам гарбаты! Мужчыны пераўзыходзілі адзін аднаго ў палёце думкі і смеласці лагічных пабудоў. Бралі ўдзел у гутарках і прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва. І вось у гаспадыні салона, пісьменніцы Людмілы Рублеўскай, якая якраз да згаданай паловы чалавецтва і адносіцца, паступова выспела задума размовы, на якой прысутнічалі б толькі жанчыны. Задума здзейснілася незадоўга перад Калядамі, у завейны снежаньскі вечар. "Жаночая творчасць і жанчына ў творчасці: беларускі кантэкст" — так акрэслена была тэма гутаркі, у якой узялі ўдзел пісьменніца Валянціна КОЎТУН, мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" пры Белдзяржфілармоніі Галіна ДЗЯГІЛЕВА, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна ЗАПАРТЫКА, пісьменніца, мастацтвазнаўца Галіна БАГДАНАВА, паэтэса, перакладчыца Аксана ДАНІЛЬЧЫК.***

ЗА ГАРБАТАЙ

# Салон на беразе Калядаў

**Людміла Рублеўская.** Калі пра праблему не гаворыць, гэта не значыць, што яе няма. Тэма "Жаночая творчасць і жанчына ў творчасці: беларускі кантэкст" далёка не ва ўсіх аматараў філасофска-літаратурных дыскусій выклікае энтузіязм. Нават ужо тое, што на самым пачатку задумвання гэтай "гарбаты" прагучала меркаванне, што абавязкова трэба запрасіць на яе хоць аднаго мужчыну, каб гутарку не назвалі "бабскімі пасядзелкамі", сведчыць, што праблема існуе, і існуе ўнутры нас саміх. Нямецкія псіхолагі Біргіт Білен і Элен Шэп-Вінтэр канстатуюць: "Жанчынам прыносіць задавальненне змагацца з мужчынамі і ўступаць з імі ў спаборніцтва...У супрацьлегласць гэтаму канкурэнцыя між жанчынамі не ўспрымаецца як радасная і прыемная... "І далей"...Жанчыны, якія прасоўваюцца наверх і робяць кар'еру, рэдка атрымліваюць падтрымку іншых жанчын... Чаму жанчынам так цяжка прызнаць кампетэнтнасць іншых жанчын?...Прызнанне жанчыны атрымліваюць амаль заўсёды толькі ад мужчын".

Не толькі нам сёння прыйшла ў галаву "геніяльная" думка разабрацца ў сабе і адніць сваё становішча ў соцыуме. Паола Ламброза, дачка знакамітага фізіягнаміста, прадстаўніца феміністычнага руху, спрабавала зрабіць гэта ж у другой палове мінулага стагоддзя. Вось што яна пісала пра літаратурныя здольнасці жанчын: "...жанчыну ніколі не прываблівала да сябе вобласць казачнай літаратуры; падставай таму — беднасць яе фантазіі. ..Жанчына ніколі не стварала нічога — па меншай меры нічога выбітнога — у вобласці драматычнай паэзіі...Яна цалкам у сваёй сферы толькі ў такім родзе літаратурнай творчасці, які дазваляе ёй не засяроджвацца, а распасцірацца, аналізаваць, а не сінтэзаваць...

Узвышаная паэзія таксама дае вельмі малы кантынгент жанчын, якія могуць раўняцца з мужчынамі...Жанчына піша кепскія вершы таму,...што яна занадта паэтычная, занадта ўражлівая, тады як для паэтычных твораў, акрамя пачуцця і паэтычнага тэмпераменту, патрэбна яшчэ шырокая адукацыя, эстэтычнае выхаванне і строгія адносіны да працы..."

Канечне, калі гэтыя радкі пісаліся, не было яшчэ ні Астрыд Ліндгрэн, ні Наталі Сарот, ні Віславы Шымборскай. Але ... Этолагі сцвярджаюць, што ў прыродзе роўнасці палоў не бывае. Генетычна закладзена так, каб адзін з іх перамагаў. Дарэчы, калі гаварыць пра свет прыроды, у тых відаў, дзе палы роўныя, у час, калі трэба, скажам, наседжваць яйкі, між птушкамі-сужонцамі ўсчынаецца барацьба: хто ж мусіць гэта рабіць. У частцы выпадкаў перамагае сужонец, дзе-калі — сужонка. Хто з бацькоў будзе гадаваць будучых птушанят, на лёсе апошніх не адбіваецца. Але ў тых выпадках, калі між бацькамі дасягаецца нічыя, кладка гіне. Мусіць, інстынкт перашкаджае нам настолькі, што мы вымушаныя гаварыць сёння на тэму, на якую гаворым. Хаця як гэта недарэчна гучыць: жаночая творчасць, жаночая паэзія, жаночая драматургія... Ніхто ж не гаворыць: мужчынская творчасць, мужчынская паэзія і г.д.

**Галіна Багданава.** Прыродай учынена так, што жанчына болей звязана з Космасам, чым мужчына. Нездарма ў цяжкія часы менавіта жанчыны-манашкі, жанчыны-падзвіжніцы былі маліточніцамі за свой народ, суцяшальніцамі і выратавальніцамі. У нас, на Беларусі, калі на вёску нападала пошасць, збіраліся жанчыны — дзяўчаты да 12 гадоў і старыя ўдовы — і ткалі ручнік-абярог ,які мусіў быць ахвярай вышэйшым сілам, мусіў адвесці ад вёскі бяду. Падобныя ж традыцыі існуюць ва ўсіх народаў. Рускі філосаф Бярдзяеў гаварыў, што жанчына — зямля, а мужчына — сейбіт. Мужчына дае антрапалагічны пачатак, а жанчына — касмічны.

**Валянціна Коўтун.** Беларусь — патрыярхатная краіна. Менавіта не толькі патрыярхальная, але і патрыярхатная. Нягледзячы на тое, што яе гістарычным сімвалам і выказніцай яе духоўнай сутнасці была менавіта жанчына.Маю на ўвазе, вядома, Еўфрасінню Полацкую — першую беларускую жанчыну-асветніцу, якая заклала асновы беларускай дыпламатыі, бібліязнаўства, беларускага школьніцтва.Назаву імя яшчэ адной цудоўнай жанчыны. Гэта Уршула Радзівіл, якая спрыяла нараджэнню беларускага тэатра. Не лішне згадаць і знакамітую Эмілію Плятэр, якая кіравала атрадам паўстанцаў падчас вызваленчага паўстання 1963 года і якой Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Смерць палкоўніка". У дзевятнаццатым стагоддзі менавіта жанчына, Алаіза Пашкевіч, наша Цётка, падняла на сваім высокім сцягу нацыянальную ідэю, стварыла беларускую нацыянальную педагогіку. Значна пазней сярод жанчын пасіянарнага складу з'явілася магутная Ларыса Геніюш, захавальніца нацыянальнай ідэі ў самы жорсткі для нашага народа сталінскі перыяд. Яшчэ пазней, у 60-я гады, калі з'явіліся пісьменнікі, што прыцягнулі ўвагу сусветнага грамадства да Беларусі, — Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, яркай зоркай успыхвае таксама імя Святланы Алексіевіч. Дарэчы, гэта быў час разбурэння савецкай свядомасці, эпоха ўсведамлення самакаштоўнасці жыцця. Побач з наступальнай публіцыстыкай у гэты час узнікла і магутная лірычная плынь. Лірыка стала адным з дзейсных сродкаў барацьбы за чалавека.Адразу ж узнікае на гарызонце імя Яўгеніі Янішчыц, іншых паэтэс. Магчыма, як асобы , яны не дацягвалі да высокага ідэалу жанчыны-змагаркі, але праз закладзены ў іх талент гэтыя беларускія паэткі знайшлі вельмі даверлівы, тонкі тон, дзякуючы якому паэтычнае беларускае слова пачало новы дыялог з народам. Часта думаю: каб Яўгенія Янішчыц была жывая і працягвала развіваць творча, многія б з нашых сучаснікаў, якія аддалі сёння перавагу фестывальнасці або прыгодніцкаму гістарызму, адышлі б на другі план. У гэтай сувязі давайце падумаем і вось над такім пытаннем. Калі прырода раздзяліла нас, жанчын і мужчын, па полу, то грамадства раздзяліла нас па нашых правах, па нашым статусе, і, калі хочаце, па нашым маральным выбары. Сёння гэта асабліва актуальна.

**Л.Рублеўская.** Хаця мужчыны, па-мойму, шчыра верацъ у нашы прывілеі.Памятаю, раней на восьмага сакавіка ў многіх часопісах было прынята — дый цяпер яшчэ такое ёсць — друкаваць ледзь не адных жанчын, даваць ход тым падборкам паэтэс, што назапасіліся за год. Надрукаваць па два вершы кожнай— вось нібыта і ўсіх ушанавалі. Суцешылі.

**В. Коўтун.**Паступова гэтая традыцыя пераадольваецца.Тое, што ў мужчыны ёсць нейкая ўнутраная зайздрасць да жанчыны, заканамерна. Але ж ёсць нямала прыкладаў, калі мужчыны ўжо не могуць не прызнаць магутнага таленту , носьбітам якога з'яўляецца тая ці іншая жанчына. Узяць хоць бы ўкраінскую паэтэсу Ліну Кастэнку, нядаўна ў нас перакладзеную. Згадайма Лесю Украінку, хоць яна і належыць да суседняй славянскай культуры, але дастаткова вядомая, папулярная на Беларусі.

**Галіна Дзягілева.** Назавём імя вядомага драматурга з Беларусі Алены Паповай.

**В. Коўтун.** Мы сёння шмат працуем. І наша патрыярхатная краіна паступова мяняецца, разгортваецца нацыянальная свядомасць.І часта — дзякуючы цудоўным публікацыям жанчын апошняга часу, якія выклікаюць агульнае прызнанне. Але ж колькі і негатыву мы сустракаем на сваім шляху. Прывяду хоць бы такі прыклад. У сваім рамане "Крыж міласэрнасці" я намалявала вобраз жанчыны, якая стварыла нацыянальную школу, якая ішла ў першых шэрагах беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя. Але ж які моцны пратэст у некаторых паважаных дзяржаўных мужоў, якое непрыманне і Цёткі, і ўсяго нацыянальнага руху! Вось чаму сёння, ведаю, многія з шаноўных мужчын выступаюць не проста супраць мяне, як аўтара "Крыжа міласэрнасці", але — супраць Цёткі, супраць носьбітаў самой ідэі беларускасці, якая неаддзельная ад постаці вялікай адраджэнкі Цёткі. І ўсё ж — будзем аптымістычнымі. Пагледзіце, якая магутная генерацыя ідзе сёння за намі ў літаратуру. І калі наша грамадства хоча ўзысці да еўрапейскага ўзроўню мыслення, яно павінна вырашыць і жаночыя праблемы. Энергія жанчыны — гэта энергія нацыі. Менавіта яна,- жанчына, валодае магутнай гістарычнай інтуіцыяй і асаблівымі здольнасцямі да міжнароднай дыпламатыі. Вось чаму я так чакаю тую хвіліну, калі да дзяржаўнага руля падыдзе велічная беларуская жанчына, якая здолее адстаяць і нашу незалежнасць, і нашу нацыянальную годнасць, усё тое, што ў сучасных мужчынскіх гульнях мы можам, на жаль, страціць!

**Л.Рублеўская.** Але ў рэаліях нашага патрыярхатнага грамадства ці не давядзецца жанчыне, каб заняць высокае месца ў соцыуме, набыць нейкія мужчынскія якасці, гуляць па мужчынскіх правілах гульні?

**Г. Дзягілева.** Не, я лічу, што зусім не трэба. Жаночая сутнасць у іншым.Жанчынам даводзілася быць змагаркамі. Але ўсе нашыя вялікія паэты, пісьменнікі былі прывязаны да зямлі, да Радзімы праз сваіх маці, ад маці атрымлівалі паэтычны пачатак.Канешне, у сучасным нашым грамадстве жанчыне вельмі цяжка стварыць нешта сваё — фірму, тэатр, узначаліць установу. Усё яшчэ дзейнічае —можа, на ўзроўні падсвядомасці — прынцып для нямецкіх жанчын: царква,- кухня, дзеці. Але хай так думаюць мужчыны. Мы не павінны так думаць. Кожны чалавек можа выявіць сябе, пачуць сваю песеньку. Канешне, справа, якой кіруе жанчына, будзе выклікаць сумненні ў мужчын, нейкую паблажлівасць. Ну і няхай.

**Аксана Данільчык.** Дык не кожны мужчына здольны стварыць сваю справу, самавыявіцца. Не кожны мужчына можа кіраваць, скажам, тэатрам. Тое, што ён — мужчына, яшчэ не сведчыць, што ён дастаткова кампетэнтны ў сваёй прафесіі.

**Г. Дзягілева.** Як і не сведчыць аб тым, што мужчына заўсёды імкнецца нешта стварыць і нечым кіраваць.

**А.Данільчык.** Мне здаецца, што сёння выклікае сумненне больш сацыяльная роля жанчыны, чым яе кампетэнтнасць. Думаецца, ніхто не будзе ставіць пад сумненне творчы патэнцыял жанчыны, але ў любога кіраўніка ўзнікае пытанне: ці не пакіне яна гэтую справу дзеля чагосьці асабістага — замуства, нараджэння дзіцяці і гэтак далей?

**Ганна Запартыка.** У грамадстве існуюць сферы, так званыя бюджэтныя, — медыцына, адукацыя, гуманітарныя навукі, якія аплачваюцца проста па-жабрацку. І вось там працуюць у асноўным жанчыны.

**А.Данільчык.** А кіруюць мужчыны.

**Г.Запартыка.** Так, кіруюць мужчыны. А жанчыны — рабыні: грошы малыя, праца зачастую руцінная. І мы яшчэ гаворым пра роўныя правы. А няроўнасць закладзеная ўжо ў тым, што нізкааплачваемыя сферы абслугоўваюць амаль адны жанчыны.

**Г.Дзягілева.** Жанчына часам можа выконваць нейкую працу бясплатна, проста таму, што ёй цікава.

**Г.Запартыка.** Жанчыне прабіцца на кіруючую пасаду амаль немагчыма. Але я не прымаю тэрміна "прабіванне". Я не "прабівалася". Я прызнаю толькі адзін шлях: трэба быць працаўніцай, нават не на сто працэнтаў. На дзвесце. Жанчына павінна сапраўды зіхацець — розумам, інтэлектам, талентам, здольнасцю арганізоўваць людзей. Тады мужчыне нічога не застаецца, як прызнаць жанчыну кампетэнтнай у той справе, якой яна займаецца, і падпарадкавацца ёй, як кіраўніку.

**А.Данільчык.** Гэта тое, што называецца ўменне сябе падаць?

**Г.Запартыка.** Зусім не. Я сябе ніяк "не падавала". Я проста працавала.

**А.Данільчык.** Але ўсё роўна павінна прысутнічаць пэўная самаацэнка, упэўненасць у сваіх сілах, у сваёй кампетэнцыі.

**Г.Дзягілева.** Трэба ставіць мужчын перад фактам — калі жанчына зрабіла сваю справу на дзвесце, на трыста, чатырыста працэнтаў, ну куды ж яны дзенуцца? Давядзецца прызнаваць гэта.

**Л.Рублеўская.** Тыя ж самыя нямецкія псіхолагі Білен і Шэп-Вінтэр заўважаюць, аднак, што , на жаль,нярэдкія выпадкі, асабліва ў навуковай, вытворчай кар'еры, калі жанчына дабіваецца свайго месца сярод мужчын, ужываючы, так бы мовіць,"традыцыйную жаночую зброю". Што кампраметуе ўсе нашыя дзвесце-чатырыста працэнтаў працаздольнасці.

**Г.Дзягілева.** Кожны сам выбірае свой шлях.

**В.Коўтун.** Мне здаецца, што за апошняе дзесяцігоддзе мы здорава змянілі нашых мужчын, у першую чаргу гэта тычыцца жанчын інтэлектуальных. У выніку нашай каласальнай працы дэмакратычны статус грамадства змяніўся, і мужчыны ўжо не тыя. Мы сваёй творчасцю прымушаем іх быць з намі на "вы". Канешне, ідзе нейкая барацьба між жанчынамі і мужчынамі, але калі ў нас з'яўляюцца ворагі, гэта ворагі вельмі сур'ёзныя. Канцэптуальныя ворагі. Я ведаю сваіх нядобразычліўцаў. І я шчаслівая, што мяне, маіх гераінь не прымаюць менавіта тыя мужчыны, якіх я не паважаю за іх прадажнасць, шэрасць і антыбеларускасць.

Г.**Дзягілева**. Калі нас гоняць, калі нас хочуць скрыўдзіць, мы павінны ратавацца хрысціянскай любоўю. І таму мы даруем.

**В.Коўтун.** Тэрміна "крыўдзяць" я не прымаю. З намі змагаюцца часам як з носьбітамі ідэі — напрыклад, ідэі нацыянальнай, дэмакратычнай. Бачыце,ужо дайшло да таго, што ў суседніх краінах годных жанчын нават забіваюць.Нас таксама спрабуюць часам забіць , асабліва словамі, забіваючы тое, што мы ўвасабляем сваёй грамадскай дзейнасцю і сваёй творчасцю.

**Г.Багданава.** Тут згадвалі Ларысу Геніюш. А мне, акрамя яе "Споведзі", згадваецца раман, які друкаваўся ў "Нашем современнике" — "Пераможаныя" Галоўкінай (Рымскай-Корсакавай), прысвечаны грамадзянскай вайне і пачатку рэвалюцыі. Абедзве аўтаркі гаворaць пра здольнасць жанчын у пераломныя, брудныя эпохі ўмець сябе "не кінуць", захавацца як асоба. У мужчын гэта атрымліваецца горш. Можа, спрацоўвае той антрапалагічны пачатак, пра які гаварыў Бярдзяеў. Можа, тое, што яны служаць у арміі. Грамадства ломіць мужчын. Нягледзячы на тое, што яны нібыта больш моцныя. А жанчына, дзякуючы сваёй больш гнуткай, звязанай з космасам прыродзе, можа ў "брудныя эпохі" не забрудзіцца, і яе слова стане на бок пераможаных. Яна ўбачыць у нацыянальнай ці палітычнай ідэі зерне, якое цяпер памірае, але з яго можа прарасці колас. Жанчына прызваная падтрымліваць слабейшых. Таму пра пераломныя часы ніхто мацней за жанчын не напісаў. А ўспомнім, якую рэвалюцыю ў літаратуры зрабілі творы Набокава — менавіта дзякуючы таму, што ён успрымаў жанчыну як нейкі самакаштоўны пачатак.Тыя мужчыны, якія дасягнулі нечага ў творчасці, таксама ўспрымаюць жанчыну як самакаштоўны пачатак. Мне ўяўляецца, што на сённяшні дзень задача творчых жанчын — паказаць мужчынам, што ў творчасці не можа быць канкурэнцыі. У творчасці існуе толькі дыялог. Калі побач з табою нехта пачынае пісаць, гэта не твой канкурэнт, гэта чалавек, якому прырода, Бог — называйце, як хочаце — нешта дыктуе. Гэта чалавек, які таксама асэнсоўвае час, у якім вы жывяце. Калі мы — і жанчыны, і мужчыны — навучымся ўспрымаць творчасць як дыялог — у нас будуць чысцей адносіны. Што далёка хадзіць... Вось і раман Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў", і ваш, Валянціна , "Крыж міласэрнасці" выводзяць вобраз самаахвярнай жанчыны, які праходзіць праз усю нашу гісторыю.Яна, жанчына Беларусі, была прызвана яднаць, мірыць і служыць пакрыўджаным.

**В.Коўтун.** Творчы дыялог — гэта добры тэрмін. Але калі вы гаварылі пра яго, вы ўвесь час мелі на ўвазе лепшых прадстаўнікоў творчай прафесіі.Гэта натуральна. Нам заўсёды хочацца думаць і гаварыць пра лепшых, пра зорак. Але побач з жанчынамі, якія сёння ўзвышаюцца, я заўважаю жанчын іншага плана. Якія нараўне з мужчынамі вядуць дыялог з д'яблам. Канешне, кожны мае права на выбар. І я не бяру на сябе права судзіць і асуджаць, але...Але гаварыць пра ўсё, што адбываецца, — трэба!

**Г.Дзягілева.** Мы размаўляем тут між сабою шчыра, з даверам да думкі адна адной. Гэтак жа трэба размаўляць і з калегамі-мужчынамі, канешне, тымі, хто нам цікавы, як прафесіянал, творца. І не думаць нават пра тое, што між намі могуць быць нейкія непаразуменні толькі з-за таго, што ён — мужчына, а мы — жанчыны, што адны ставяць другіх з-за гэтага ніжэй.

**Г.Багданава.** Мяне дзівіць, што мужчыны сёння вельмі лёгка адступаюць. Асабліва тыя, хто займае кіруючыя пасады. Папросяць іх кагосьці звольніць — звальняюць, папросяць нешта не надрукаваць — здымаюць матэрыял. А назаўтра звальняюць яго самога. Між тым, у дзяцінстве кожны з іх умеў сказаць сябру па гульні: "Не хачу. Не буду". Усе палітычныя і сацыяльныя трагедыі пачынаюцца з таго, што дарослыя мужчыны не могуць рашуча сказаць "Не", абараніць сваю годнасць. У які момант нашых мужчын так ломяць? У арміі, у кампаніі падлеткаў?

**Г.Дзягілева.** Мужчыны больш ранімыя, чым жанчыны.

**Л.Рублеўская.** Так было заўсёды. У інстынктыўнай прыродзе мужчын закладзена барацьба за выжыванне і імкненне да іерархічнай будовы соцыуму. І пры двары Людовіка XIV маркізы і графы адзін на аднаго даносілі і адзін аднаго адпраўлялі ў Бастылію, і пры двары якога-небудзь Аменхатэпа, і пры двары Жыгімонта ...

**Г.Багданава.** Можа быць, гэта маці, жанчыны, якія сёння выхоўваюць хлапчукоў, не закладаюць у іх праграмы годнасці?

**Г.Дзягілева.** Гэта немагчыма закласці, магчыма — захаваць, абараніць.

**В.Коўтун.** Калі я на пачатку размовы гаварыла пра патрыярхатнасць нашай нацыі, я мела на ўвазе і тое, што ў сённяшняй сітуацыі вінавата і нашая патрыярхатная жаночая забітасць. Бо мы, гаворачы пра беларускіх жанчын, гаварылі пра лепшых з іх. Але ёсць і іншыя, тыя, хто аплёўваюць уласныя карані. І іх, на жаль, большасць.

**Г.Багданава.** Я гляджу на хлапчукоў — аднакласнікаў майго сына, і бачна, што калі мама — дыктатар, то хлапчука ўжо лёгка ламаць. А калі маці саступае, паводзіць сябе, як жанчына, у яе сына ёсць пакуль мужчынская годнасць.

**В.Коўтун.** Таму мы і адкінуты цяпер так далёка ў сваім развіцці. Беларускія жанчыны, на жаль, проста не выхоўваюць у сваіх сынах грамадзянскай і нацыянальнай годнасці. І дзяржаўнай — таксама.

**Л.Рублеўская.** Цікава, як з гэтым у іншых краінах.

**А.Данільчык.** Мне даводзіцца часта бываць у Італіі. Паўднёвая Італія і Паўночная — вельмі розныя па традыцыях.Паўднёвая — гэта такі патрыярхат, што беларусам і не сніўся. А Паўночная Італія — гэта Еўропа. Там развітая прамысловасць, жанчына працуе нароўні з мужчынам. На поўдні жанчына часта застаецца дома, тым больш, што там вялікае беспрацоўе ўвогуле.

**Л.Рублеўская.** А жанчыны творчых прафесій ці там ёсць?

**А.Данільчык.** У сучаснай італьянскай літаратуры ёсць вельмі значныя жаночыя імёны.

**Г.Багданава.** Але, даруйце, паўднёваітальянскі патрыярхат -- гэта не наш патрыярхат. Там, наколькі я разумею, жанчына, якая не працуе, даглядае сваіх дзяцей, забяспечаная ўсім.

**А.Данільчык.** Не заўсёды.

**Г.Багданава.** Але яна можа дазволіць сабе не працаваць, калі яна замужам.

**А.Данільчык.** У нас такое ўяўленне аб замежных краінах, быццам бы там усё ёсць ва ўсіх. Простаму насельніцтву і там вельмі складана. Так, у рабочага ўсё неабходнае ў доме ёсць, але ён лічыць грошы ад зарплаты да зарплаты. Ды й інтэлігентная сям'я на поўначы таксама лічыць свае грошы — як заплаціць за газ, святло. Ніколі не будуць так проста траціць іх. І вельмі баяцца страціць працу.

**Г.Багданава.** А вось жанчыны, якія займаюцца там літаратурай, могуць дазволіць сабе жыць толькі з гэтага занятку?

**А.Данільчык.** У мяне няма такіх знаёмых.

**Г.Багданава.** Дзяржава павінна ахоўваць свой духоўны патэнцыял. У самым дзікім племені, дзе патрыярхат — на ўзроўні "джунгляў", самыя паважаныя людзі — тыя, хто могуць лячыць і вучыць. Тое ж самае — у высокаразвітых краінах. Чаму ж гэтага няма ў нас? Таму, што мы адышлі ад прыроды, ад натуральнага ладу і яшчэ не дайшлі да цывілізацыі. Я яшчэ магу зразумець, што некаму можа падасца, што можна абысціся без культуры — хоць без гэтага таксама немагчыма, — і таму культуру так па-жабрацку фінансуюць. Але няўжо можна ўявіць, што магчыма абысціся без тых, хто лечыць і вучыць?

**А.Данільчык.** У Італіі ў кожным муніцыпалітэце ёсць чалавек, які адказвае за культуру. І гэта значная асоба ў грамадстве, якую ведаюць і слухаюцца.

**В.Коўтун.** Нядаўна я была ў двухтыднёвай паездцы па Амерыцы. Мне было вельмі цікава паглядзець на тамтэйшых жанчын. Амерыканскі народ не мае сваёй шматвекавой гісторыі, не мае сваёй культуры. Гэта народ, які прыняў, як сваё, лепшае з усіх культур. Аднак, як вядома, амерыканскі народ дасягнуў незвычайнай вышыні ў сваім касмалогасе. Я сустракалася з жанчынамі — грамадскімі дзеячкамі, якія займаюцца абаронай сваёй зямлі і жыцця ўвогуле, і мне было сорамна за тое, што мы якраз пастаянна забываем пра праблему самакаштоўнасці чалавечага жыцця. За час, праведзены намі за кратамі савецкай улады, само гэтае паняцце знішчалася. Аддавалі жыццё за ідэю ці нават за нечыя палітычныя амбіцыі . Разумееце, ідэя зрабілася вышэй чалавечага жыцця, вышэй Боскага! Падчас размоў з простымі амерыканскімі жанчынамі да мяне прыйшло разуменне: на аснове ўспрымання лепшага з усіх культур, на аснове жорсткай барацьбы за прагрэс там выпрацавана якраз вельмі важнае ўсведамленне каштоўнасці чалавечага жыцця. І таму я ўспрымала амерыканцаў менавіта як нацыю, як вялікі народ. Калі б вы бачылі, якая ў іх самапавага, і якая неверагодная павага да свае краіны. Ці не таму сустрэтыя мною жанчыны здзівілі мяне сваёй вышынёй. А як умеюць змагацца за кожную травінку, за кожнае дрэва, за жыццё ва ўсіх яго праявах! Нам бы такой мужнасці і дзяржаўнасці. Праўда, мы ўсё ж больш лірычныя, мяккія.

**Л.Рублеўская.** Ці не таму амерыканскія мужчыны апошнім часам стараюцца ўзяць за жонку славянку з патрыярхатнай краіны?

**В.Коўтун.** Я ведаю іншае: што ўзяць у жонкі амерыканку не ўдаецца амаль нікому з нашых. Бо, здаецца, той, хто жэніцца на грамадзянцы ЗША, мае права на амерыканскае грамадзянства.

**Г.Дзягілева.** Таму атрымліваецца, што не ён яе бярэ, а яна яго.

**Г.Багданава.** Сёння так склалася, што мужчына не можа забяспечыць сваю сям'ю. Дык няхай бы ён хоць прыслухаўся да жанчыны, паспрабаваў зразумець жаночую творчасць, у якой сцвярджаецца гэтая самакаштоўнасць чалавечага жыцця і гаворыцца пра магчымасць знікнення самога жыцця на зямлі.Дэмаграфічна мы вымiраем. Сёлета ў ВНУ быў вялікі конкурс, таму што школу скончылі дзеці дэмаграфічнага выбуху. А што будзе, калі падрастуць нашыя дзеці? Яны наўрад ці змогуць хаця б армію забяспечыць.

**Л.Рублеўская.** Мы жывём у свеце, створаным мужчынамі. І яны стварылі яго для сябе, а не для нас. Увесь соцыум, усе грамадскія інстытуты адпавядаюць мужчынскаму разуменню жыцця . І калі жанчына хоча нечага ў гэтым соцыуме дасягнуць, яна вымушана прымаць правілы мужчынскай гульні.

**Г.Багданава.** Ну не хочуць яны гуляць "у бальнічку" і "сям"ю", а хочуць гуляць у "казакоў-разбойнікаў".

**Л.Рублеўская.** Адна з мужчынскіх гульняў, якая закранае і жанчыну, якая займаецца творчасцю, — багема. У прынцыпе гэта для пэўнага перыяду маладосці — нармальная з'ява. Праз цэнтр багемы, ці праз яе ўскраек праходзіў некалі кожны творца. Некага такі своеасаблівы лад існавання "закручвае" надоўга, некага ламае. Прычым з жанчынамі, якія туды трапляюць, гэта адбываецца часцей. Багема — гэта воля ад сацыяльных установак, вызваленне ад сацыяльнай ролі, калі адзінай каштоўнасцю прызнаецца творчае самавыяўленне канкрэтнай асобы. Жанчына, між тым, ад прыроды цесна звязаная з сацыяльнай роллю — маці, дачкі, жонкі. І, адмаўляючыся ад гэтых роляў ці не надаючы ім належнага значэння, яна страчвае больш, чым пэўныя абавязкі, яна страчвае сябе, сваю сутнасць.

**Г.Дзягілева.** Калі прыгожая маладая дзяўчына прыходзіць вучыцца "на актрысу", суровыя педагогі кажуць: ну, гэтая закруціцца... І сапраўды, шмат было ў мяне на памяці прыкладаў. Маладыя думаюць, што, калі яны патрапяць у тое рамантычнае жыццё, яны шмат спазнаюць. Што яны змогуць быць і верным прафесіі, займацца трэнінгам,рэпетыцыямі, дасягаць вяршыняў прафесіі, і адначасова заставацца ў багеме. Але гэта немагчыма. Трэба выбіраць ці тое, ці другое. Усё-ткі вельмі важна самаабмежаванне. Таму, відаць, цяпер і ў майго тэатра такая складаная жанравая форма. Усё няпроста, мне яшчэ педагог мой гаварыў:" Ну чаму ўсе такія калектыўныя, а ты такая "зацiснутая". А як я сябе за гэта дакарала. Мне было цяжка з-за гэтага. І пасля, падчас працы ў тэатры. Ну не ўмею я матам лаяцца... Магу, калі патрабуецца па ролі, але гэта — не маё.

**Л.Рублеўская.** Дык які шлях самавыяўлення для жанчыны больш натуральны — шлях аскезы, адмовы ад звычайных побытавых радасцяў — шлях Еўфрасінні Полацкай, Эмілі Дзікенсан, — ці шлях жанчыны-вамп, якая па-над законамі маральнасці, якая мае права жыць так, як жыве творца-мужчына, калі перадусім — творчае самавыяўленне?

**Г.Дзягілева.** "Служенье Муз не терпит суеты". А багема — гэта ж і ёсць мітусня.

**А.Данільчык.** Мітусня, якая, аднак, дае натхненне.

**Г.Багданава.** Можна, канешне, надаваць слову "багема" нізкі сэнс. А можна параўнаць багему з багемскім шклом. Мне здаецца, што маладзейшаму пакаленню якраз не хапае тых зносінаў між людзьмі творчых прафесій, якія былі ў нас. Калі збіраліся мастакі, акцёры,пісьменнікі— Зоя Белахвосцік, Саша Гарцуеў, Віктар Манаеў, Саша Лабуш, Слава Паўлавец , Рыгор Сітніца, я з маім мужам, мастаком Пятром Багданавым. Здаралася, мы садзіліся ў машыну Славы Паўлаўца і ехалі ў восеньскі лес, хадзілі і размаўлялі, пасля ехалі да кагосьці ў госці.

*(Працяг на стар. 12)*

## ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА

**Напрыканцы II тысячагоддзя ў мітусні штодзённых клопатаў нам здаецца, што ўсё навокал рухаецца разам з намі: разбураецца і наноў узнікае. Адзінае, што застаецца статычным і нязменным, гэта — літаратура і наш літаратурны працэс. А між тым і яны ў меру магчымасцяў сучаснага жыцця спяшаюцца за часам. То тут, то там у розных гарадах Беларусі і па-за яе межамі ўзнікаюць разнастайныя літаратурныя выданні, у друкарнях нязнаных раней выдаўцоў выходзяць новыя кнігі...**

**Узнікае патрэба азірнуцца і паглядзець, што адбываецца: сапраўдная актывізацыя літаратурнага працэсу, ці толькі імітацыя руху.**

**Таму рэдакцыя і прапаноўвае ўвазе чытачоў новую рубрыку "Чытацкі дзённік крытыка", дзе будуць змяшчацца своеасаблівыя крытычныя мініяцюры пра кнігі і творы розных пісьменнікаў, выбар якіх будзе цалкам падпарадкаваны суб'ектыўнаму густу — Галіны ТЫЧКІ.**

# Мера мастацкасці

*Леанід Галубовіч.*
***Зацемкі з левай кішэні.***
*Менск. БГАЦК, 1998.*

"Зацемкамі..." Л. Галубовіча можна захапляцца, можна іх не прызнаваць, але не заўважаць іх немагчыма. Сярод твораў сучаснай літаратуры гэта, бадай, самы чысты прыклад дзённікава-мемуарнага жанру. Максім Танк і Пімен Панчанка пісалі дзённікі нібыта толькі для асабістага ўжытку, але ў іхніх запісах ёсць усё, апрача сапраўднага вобліку Танка ці Панчанкі.

Леанід Галубовіч таксама піша свой дзённік, але ўсвядомлена напаказ. Ён расказвае чытачу, пра што думае, што чытае, чым займаецца дома і на працы. Расказвае пра сваіх блізкіх, сваякоў, аднавяскоўцаў з Вароніна і сяброў-літаратараў. І часам гаворыць тое, аб чым лепей было б і памаўчаць...

Часам яму не хапае мастацкага густу:

"Ноччу выйшаў на балкон папаліць... Цяплынь, ціша, зорная бездань... І ўспомніўся міжвольна Кант з яго агульнавядомым філасофскім пастулатам... ёсць дзве неаспрэчныя рысы — зорнае неба нада мной і маральны закон ўва мне...

...Як бы бачыцца нават: сядзіць гэты геніяльны карлік у Кёнігсбергу ноччу на каменных прыступках дома, а зверху, з далёкіх зорных вышыняў апускаецца да яго, свецячы німбам, убелены вечнасцю Гасподзь і шэпча яму тыя словы..."

Часам ён залішне натуралістычны:

"Іду раніцай па малой патрэбе. Натыкаюся соннымі вачыма каля дзвярэй парніка на скрываўленае лязо сякеры... Яшчэ не ачоўмаўшыся ад сну, — раптам, цвяроза халадзею нутром..."

Часам ён проста банальны:

"Не ўсякае слова — ісціна, але ўсякая ісціна слова".

Альбо:

"Сумная сітуацыя з беларускай мовай... Але яшчэ больш сумная сітуацыя з самім беларускім чалавекам..."

Але як у недахопах, так і ў вартасцях дзённікавых запісаў пісьменніка — жывы, натуральны, непрыхарошаны прыродны чалавек Леанід Галубовіч, які жыве напрыканцы II тысячагоддзя ў сваім занядбаным краі.

І ёсць у яго мастакоўскае права гаварыць пра іншых тое, што думае, бо і пра сябе ён гаворыць з гранічнай шчырасцю, на якую здольныя нямногія:

"Так, я -- вясковы, грубы, малаінтэлігентны, але з дастаткова пэўным чалавечым гонарам..."

А шчырасцю, між іншым, у пэўнай ступені ў літаратуры вымяраецца і мера мастацкасці.

**Галіна ТЫЧКА**



ЧАСАПІС

## Віталі Алеся Савіцкага

**У музей Якуба Коласа на традыцыйны літаратурны чацвер быў запрошаны Алесь Савіцкі, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў. Невыпадкова Алеся Ануфрыевіча ўшаноўвалі ў Коласавым доме. Ён працаваў тут у 60-я гады вучоным сакратаром.**

Нялёгкі жыццёвы шлях прайшоў юбіляр: удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне (пачынаў партызанам у атрадзе "Смерць фашызму"). Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, затым аспірантуру, працаваў у рэдакцыі, у выдавецтве "Ураджай", у 1969—1973 гг. быў загадчыкам сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ.

Павітаць Алеся Савіцкага прыйшлі пісьменнікі, музейцы-коласаўцы, вучні СШ N 98 г. Мінска.

Першымі павіншавалі юбіляра і ўручылі сувеніры і кветкі дырэктар Аб'яднання літаратурных музеяў Л. Хадкевіч, яго намесніца Т. Аніскавец і дырэктарка музея Я. Коласа З. Камароўская.

Шчыра віталі А. Савіцкага сябры-пісьменнікі Э. Скобелеў, М. Зарэмба, В. Лукша, В. Грышановіч, М. Пратасевіч — супрацоўнік Літаратурнага музея П. Броўкі, М. Жыгоцкі — супрацоўнік музея Я. Коласа, якія нагадалі пра некаторыя жыццёвыя і творчыя шляхі юбіляра. У. Скарынкін і Б. Спрынчан прачыталі свае вершы, прысвечаныя А. Савіцкаму.

Вучні СШ N 98 г. Мінска прачыталі ўрыўкі з твораў юбіляра.

Алесь Ануфрыевіч выказаў усім падзяку за добрыя словы, згадаў некаторыя падзеі са свайго жыцця і падараваў кожнаму школьніку сваю кніжку, якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва", — аповесць-казку "Прыгоды Муркі".

Напрыканцы вечара выступіў ансамбль "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам І. Раманчука.

Вёў вечарыну, як звычайна, старшы навуковы супрацоўнік музея Я. Коласа І. Курбека.

Святлана СУБАТ

## Плюс 1654 падпісчыкі

По-ранейшаму знаходзіцца нямала ахвочых сцвярджаць, што слабай папулярнасцю ў падпісчыкаў і чытачоў карыстаюцца беларускамоўныя газеты і часопісы. Практыка ж паказвае адваротнае. Усё залежыць ад таго, наколькі выданне адпавядае інтарэсам чытача. Пацвярджэнне таму — грамадска-палітычная газета "Народная трыбуна", заснавальнікамі якой з'яўляюцца Брэсцкі абласны савет дэпутатаў і абласны выканаўчы камітэт. Колькасць падпісчыкаў яе сёлета, у параўнанні са студзенем мінулага года, узрасла на 1654 чалавекі. Найбольш прыхільнікаў "НТ" у Іванаўскім, Камянецкім, Кобрынскім, Пружанскім, Драгічынскім раёнах. Дарэчы, газета выдаецца са снежня 1990 года і спачатку выходзіла на дзвюх мовах, але са студзеня 1993-га стала толькі беларускамоўнай. Прыхільнікі беларускасці па суботах з нецярпеннем чакаюць чарговы нумар любімага выдання. Яны ведаюць, што ў ім абавязкова будуць матэрыялы, якія не пакінуць іх абыякавымі. "НТ" вялікую ўвагу ўдзяляе і пытанням літаратуры, мастацтва, культуры. І ў гэтым, канечне ж, заслуга галоўнага рэдактара Расціслава Пратасевіча.

## "Вялікі пясняр Бацькаўшчыны"

Так называлася літаратурна-тэматычная вечарына, якая прайшла ў Магілёўскай абласной бібліятэцы напярэдадні 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Пра жыццё і творчасць вялікага паэта расказалі старшы выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя А. Куляшова Сяргей Украінка, навуковы супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея Людміла Томчык. У мастацкім выкананні навучэнкі педагагічнага каледжа Настассі Жлобіч, загадчыцы пастановачнай часткі народнага тэатра Магілёўскага гарадскога Дома культуры Раісы Ануфрыевай, рэжысёра гэтага тэатра заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Ермаловіча прагучалі вершы Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Якуба Коласа.

Працавала кніжная выстава, агляд кніг якой зрабіла супрацоўніца бібліятэкі Зінаіда Украінка. Вёў вечарыну сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Дуктаў.

У. САСНОЎКІН

ПАЭЗІЯ

Казімір КАМЕЙША



Рай, заціішша, нядзеля

## Жніўны прыпамін

*Спякотны дзень у дымнай смузе,*
*Аж цень у прысадах спагады просіць.*
*А мама серп на плячы нясе,*
*На ім гуляе паўдзённы прамень.*

*Сярпом надрэзаны дзень папалам.*
*Круціцеся, колы.*
*Прыспешвай, ляйчына,*
*Пакуль той князь Снапавіцкі сам*
*Сярпом свой вус не падкруціць чынна.*

*Як світкі бацькавай рукаво,*
*Такое доўгае тое жніво.*

*Я ў світцы бацькавай следма бягу,*
*Збіваю да болю свае калені.*
*Ну хто прыдумаў тую сцягу?*
*Хто першы яе так карэннем?*

*Запаліць на небе свой серп маладзік,*
*Дыхне сухім халадком з надрэчча.*
*Чуеш, мама, дадому ідзі,*
*Бо едзе на воўку здалёку вечар.*

*Чакае цярпліва пусты засек.*
*А мама серп на плячы нясе.*

*Востра-востра назублены серп...*
*Яны ж і не сыдуцца ніколі:*
*Маладзік насерплены на страсе,*
*І серп назублены пад страхою.*

●

*Лясное паўсонне адталай зямлі,*
*Нязвыклая слодыч на вуснах.*
*Казычуць мурашкі бярозам камлі,*
*Аж тыя прымлелі спакусна.*

*Лагчыну блакітам густым заліло,*
*І стрэльнула ў стрэлкі*
*зялёным цяплом.*

*Пакуль што два колеры*
*цешаць душу —*
*Блакітны і гэты, зялёны.*
*І лепшых хвілін я сабе не прашу,*
*Сказаўшы вясне "Пахвалёны".*

*З вядзерцам і сэрцам прыйшоў да яе*
*І промні хапаю ў прыгоршчы.*
*Хай сонейка свеціць,*
*Хай Божа дае,*
*Хай трохі вяшчуння яшчэ напяе*
*Гадоў,*
*ды каб толькі не горшых.*

*Шукаю вачыма за лесам раку,*
*І менее ніткі*
*ў жыццёвым клубку.*

*А ў полі, як бегла, бяжыць баразна,*
*Няма ў баразны блытаніны.*
*А ў той, у маёй, невядомасць адна,*
*У той, што завецца сцяжынай.*

●

*Пад цёплай згняздованай*
*кронаю*
*У люстэрка блакітнае Кромані,*
*Праз галіны,*
*карэнні,*
*гады,*
*Прыйду,*
*пагляджуся.*

*Няўжо я той,*
*яшчэ ўсё малады, —*
*О, як я сябе, маладога, баюся.*

*Маршчыны кругамі сплывуць*
*ад вачэй,*
*Што кругам бяды маё ціснулі сэрца,*
*І станецца старасць мая*
*далячэй,*
*Але не далей ад самое смерці.*

*Дык, што ж вы з гаданнем сваім,*
*гады?*
*Хто будзе спрачацца,*
*што будзе дарога?!*
*Было ў маладосці ўсяго дурнога.*
*Баялася ты мяне маладым,*
*Баяўся і я сябе, младога.*

*Крона...*
*Кромань...*
*Думнасць і дым.*
*Вяроўкай — дарога,*
*Вузламі — сляды...*

●

*Развод і дзяліцьба —*
*Як прывід свабоды.*
*— А колькі наліць вам?*
*— А колькі не шкода.*

*Ён вып'е,*
*закурыць,*
*Слязіну аброніць.*
*І дым, нібы кучар,*
*Заўецца на скроні.*

*Ён будзе він̄ом,*
*І слязою давіцца,*
*І столькі дурнот*
*Яму ноччу прысніцца.*

*Блудзіць, бедаваць —*
*А ці гонар высокі?!*
*З карчомкі ўдава*
*Падміргне яму вокам.*

*Пайсці б і прыкленчыць*
*За той удавою.*
*Ці, можа, з парэнчы —*
*У вір галавою?*

*Ах, ціша якая —*
*Нідзе анікога.*
*Давай пачакаем*
*Збавення якога.*

●

*Яшчэ не запрэжаны коні,*
*Дарога якім — у зіму.*
*І толькі падумаў я сёння,*
*А што я ў дарогу вазьму.*

*Ёсць многа ў мяне ад былога,*
*Ад той, безнадзейнай пары.*
*А просіць,*
*а моліць дарога:*
*— Рыштункаў старых не бяры!*

*Бяры весялосці паболей*
*І спрыту што некалі меў,*
*Віна маладога і волі,*
*Бо сумна без іх у зіме.*

*Бяры і чарнявую тую,*
*З якою па вёсных блудзіў.*
*Сяброўку яе маладую*
*Таксама ў дарогу будзі.*

*Як быццам усё спакавана,*
*А іншае грэх пакаваць.*
*Воз поўны.*
*І досыць для пана,*
*І можна далей векаваць.*

*Вуздэчкі гараць залатыя,*
*Вясёлкай страляе дуга.*
*Ну, што ж, у аглоблі, гнядыя!*
*Падказвае час запрагаць!*

●

*Ці той амшар?*
*Прыгледжуся здалёк:*
*Прыспаў яго падлесачак маленькі.*
*І клямкі адзічэлае апёк*
*Баліць маленствам.*

*Стаптаўся ты,*
*знаёмы мой парог.*
*А колькі іх стапталася, абцасаў.*
*Што зберагаў,*
*нічога не збярог,*
*Усё-усё пакінута за часам.*

*А я ўсё той,*
*Хоць час зусім другі.*
*Жыццё мае, якія твой прысмак горкі.*
*Ніколі не аплацяцца даўгі,*
*І памяць наша тут не крэдыторка.*

●

*Нехта ў шыбу барабаніць,*
*Толькі твару не відаць.*
*Але хто там добры зойдзе*
*Пад мой цёмны сумны дах?!*

*А як зойдзе,*
*што ён скажа?*
*Будзе, як і ноч, маўчаць.*
*І трываць мы будзем разам*
*Цёмных думак сумны чад.*

*Я лісты лаўлю рукамі,*
*Што мне сыплюць з ветрам град.*
*Зноў, ты зноў з нядобрай весткай,*
*Лістаноша-лістапад.*

●

*Было нядаўна гэта ці даўно?*
*Мы ў леце каля Нёмана сядзелі.*
*Было заціішша, як перад вайной.*
*Была нядзеля.*

*Была такая ціхая вада.*
*Такой і ў кубку нават не бывае.*
*Было далёка ў глыбіні відаць,*
*Як млее ў небе*
*хмарка дажджавая.*

*Кружылася ад хмелю галава.*
*То ляжа цень,*
*то раптам светла стане.*
*Тваім дыханнем дыхала трава,*
*І нават час стаіў сваё дыханне,*
*Калі мы патанулі ў тым стажку,*
*Што два буслы на ранку прытапталі.*
*Рука лавіла ціхую руку,*
*І травы нешта змоўнае шапталі.*
*А Нёман хітраваў ля берагоў,*
*Хоць плыні не драмалася ад хмелю.*
*Я вып'ю потым чарку за яго.*
*Ён даў мне рай,*
*заціішша*
*і нядзелю.*



Фота В. МАЙСЮКА

ПРОЗА

# ЛАЎРОВАЯ ЛІСЦІНКА АД ПАНА НОБЕЛЯ

Сяргей РУБЛЕЎСКІ



АПАВЯДАННЕ

АПОШНІМ часам я гавару сваім сябрам:

— Многія заўважаюць, што я не зусім дурны чалавек, а некаторыя нават лічаць разумным. Ніхто не абвяргае мае здольнасці намацваць тонкае асацыятыўнае падабенства, нават па драбніцах рабіць арыгінальныя абагульненні. Я схільны да назіранняў і аналізу. Да таго ж няблага танцую, а мая мама гаварыла: "Калі няма парадку ў ножках, няма і ў галоўцы..." Выходзіць, ёсць!

І з уласцівай мне паслядоўнасцю працягваю падводзіць іх да лагічнага вываду:

— Паколькі недурны чалавек павінен быць і нябедным, мяне ўсё больш і больш пачынае турбаваць неадпаведнасць змесціва партманета мазгавой патэнцыі. Хацелася б прывесці ўсё гэта да гарманічных суадносінаў. Тым больш, што ў кнігарнях горада з'явілася шмат даволі цікавых кніг, у прыватнасці — пра вучэнне Лао Дзы, а я не магу іх набыць. Гэта раздражняе нават больш, чым няспраўджанае жаданне з'есці варанага амара, разломваючы яго жорсткі панцыр звычайнымі пласкагубцамі, а не спецыяльнымі, як заведзена ва ўсходніх рэстарацыях, шчыпцамі.

Я яшчэ многа чаго даводжу, і сябры, што вельмі дзіўна, даволі ўважліва слухаюць. Перад тым, як паведаміць вам аб іх рэакцыі на мае захады, зраблю невялікае адступленне, таксама звязанае з маімі стасункамі з сябрамі.

Гады два таму я даволі часта цешыў, а хутчэй за ўсё стамляў іх слых роспаведам пра Акапульку, пра даўнюю мару пабудаваць у гэтым дзівосным краі вялізную хаціну, пісаць у ёй вечарамі, на заходзе сонца, доўгія эсэ і запрасіць калі-небудзь на каву лаўрэата Нобелеўскай прэміі Габрыэля Гарсія Маркеса. І дзіўна, што сябры ў гэты час абсалютна спакойна глядзелі на мяне сваімі шэрымі вачыма, нібыта расказваю я пра паездку ў Бешанковічы. І толькі аднойчы знайшоў я сэрца, якое пачало ўсхвалявана біцца ў такт маім словам.

На адной вечарыне ў знаёмага мастака выпадкова аказаўся серб, бізнесовец з Югаславіі. Калі ўсё папілі ды паелі і размова неўпрыкмет пачала затухаць, а нехта з гасцей ужо выклікаў таксі, я і распавёў пра далёкую Акапульку на далёкім акіяне і мацерыку. Па вачах, якія ў серба ў адно імгненне пакруглелі, я спазнаў у ім доўгачаканага суразмоўцу і, вядома ж, слухача. Немаведама адкуль у маім расповедзе з'явіліся новыя дэталі. Напрыклад, пра тое, што лес для хаціны мы з бразільскімі сялянамі (ці аргенцінскімі) насячом у сельве — абы дзялянку далі. А зрубіць у "чысты" вугал могуць і нашы віцебскія мужыкі. Што ніякай электрычнасці мне не трэба, і пісаць вечарамі я буду пад звычайную смаркачку ці лямпу са шклом або ліхтар, з якім нашы бабы ходзяць звычайна зімовымі вечарамі ў хлеў глядзець, ці целіцца карова. Але гэтыя падрабязнасці былі ўжо абсалютна няважнымі, другаснымі для майго слухача. Кодавым словам для яго была Акапулька.

— Як Акапулька, як Акапулька, — забалбатаў ён. — Чаму Акапулька? Адкуль ты ведаеш? У мяне там сябра жыве...

Я не стаў тлумачыць разгубленаму сербу, што вольны звязваць сваю мару з любым словам, што, уласна кажучы, і раблю. І Акапулька для мяне гучыць не менш мілагучна, чым Шаркоўшчына... Хутка пад'ехала таксі, і растрывожаны жыхар Адрыятыкі падаўся на вуліцу. Узрушэнне скончылася гэтак жа раптоўна, як і пачалося. Можа, па дарозе мой новы знаёмец усё яшчэ дзівіўся знітаванню свету, калі ў непрасунутай на край мора дзяржаве яе насельнікі звязваюць свае планы з цёплым акіянскім узбярэжжам. А я думаў пра тое, якую пыху і гонар маюць перад намі людзі, у якіх далягляд з маленства атаясамляецца з тонкай шэрай нітачкай паміж сінім і блакітным, там, дзе хвалі дакранаюцца да нябёсаў. Неабмежаваны прасцяг, як на крылах, узносіць іх над нашай штыкетнікава-гародчыкавай абмежаванасцю, а лепш сказаць — камернасцю.

Я не ведаю, як гэта задоўжанае адступленне звязана з асноўнай лініяй майго аповеду. Вы ўжо самі разбэрсаеце гэты вузельчык асацыяцыі. Пазней. А я пакуль раскажу, як сябры адказваюць на мае захады-памкненні ўзбіцца на грошы.

— Андрэй, ты з глузду з'ехаў, — гавораць яны. — Ты што, не ведаеш: вялікія грошы зарабляць вельмі сумна! Трэба шчэрыць зубы, ды так, каб гэта было падобна на ўсмешку. Прыгінацца, лісліва глядзець у вочы людзям пры чыне, умець рабіць падарункі. І май на ўвазе: у тым, што твой тавар, паслугі, розум найлепшыя, трэба яшчэ пераканаць. Дзе схлусіць, дзе парупіцца, хутчэй паспець. А галоўнае — не мець ніякіх ілюзій. Цеста багацця ўзыходзіць на пазычаных ці скрадзеных дрожджах, сваіх, як правіла, не хапае. Значыць, табе трэба будзе перахітрыць канкурэнтаў, а яшчэ — дзяржаву. Той, хто напоўніцу плаціць падаткі, ніколі заможным не стане. А што значыць утойваць падаткі — гэта значыць недадаваць нямоглым інвалідам, пенсіянерам, сіротам. Ты зможаш жыць з такім верадам твайго чуллівага сэрца?

І сапраўды, сэрца пачынае ныць ад прадчування невыносных выпрабаванняў.

— Ты ж па прыродзе сваёй сузіральнік, — працягваюць даводзіць мне сябры. — Ты ж толькі і робіш, што сочыш за метамарфозамі сваёй душы, толькі і спрыяеш яе ўзвышэнню, а ў гэтым руху спаборніцтва не бывае. Між тым бізнес — гэта спаборніцтва, рэальнае. Навыперадкі да небакраю і ўвышкі на самае верхняе куросадне. У цябе няма абвостранага пачуцця лідэрства, жадання апранацца ў найлепшы касцюм, ездзіць на шыкоўнай, якіх, можа, толькі дзве-тры ў горадзе, машыне. Ты не любіш стандартаў, вышукваеш сваю заблытаную сцяжынку, а займацца бізнесам — гэта значыць ісці бойкай дарогай, разам з усімі, толькі шпарчэй. Ну падумай сам: ты ж нават гальштукі не любіш насіць і, сорам на ўвесь свет, па сённяшні дзень не ўмееш іх завязваць. Грэбуеш такімі статнымі вірлавокімі, як бухарскія газелі, дзяўчатамі дзеля адной сумніўнай маладзіцы, якая ў рэшце рэшт не пацвердзіць твае ўяўленні аб сардэчнай і духоўнай блізкасці.

Тут я пачынаю адчуваць, што маё сэрца ўжо не ные, а шчыміць, нібы хто заціскае яго ў сцюдзёны куток безвыходнасці. Але набіраюся мужнасці і захоўваю на твары будыйскую маску. Мне нават цікава даведацца што-небудзь яшчэ пра сваю неадпаведнасць уз'юшанаму свету.

— Вялікае багацце, як правіла, звязана з вялікай авантурай, рызыкай, — зноў заводзяць свой грамафон сябры. — А ты не схільны. Многа думаеш пра вечнае, імкнешся да грунтоўнага, а трэба вучыцца жыць на балотных плывунах. За імгненне ўзводзіць лубяную хатку, а то і палац. Да таго ж ты не любіш рэвалюцыі, прачухоны розныя, войны, сутычкі, рэйды ўглыб той ці іншай краіны і ўсё падобнае. А менавіта ў гэтых варунках, калі жыццё чалавека губляе цану і вісіць на валаску, самыя вынаходлівыя і смелыя маюць тысячу і больш працэнтаў прыбытку. Трэба толькі злаўчыцца выхапіць з агню падсмажаны каштан. А ёсць людзі, якія самі раскладаюць вогнішча, самі ці чужымі рукамі выхопліваюць ласунак. Ты і блізка не стаяў ля гэтых людзей. І не мець табе ніколі такога апетыту...

Пры гэтых словах хлопцы мае мякчэюць, становяцца маркотна-задуменнымі, відаць, і самі ўсведамляюць, што і яны куды драбнейшыя ягады, зусім іншага поля. А я ўдала карыстаюся гэтай замінкай, каб уставіць хоць слоўка ў гэтую бруістую плынь матэрыялістычнага досведу.

— Вам вельмі цяжка запярэчыць, — гавару сябрам з лёгкай, ледзь прыкметнай усмешкай на вуснах. — Я ведаю, што шлях да вялікіх грошай адзін. Адзін на ўсіх. Але самыя лоўкія ідуць і ўзбоч яго, сваёй сцяжынай.

Голас мой пачынае гучаць усё больш упэўнена і таямніча.

— Я, напрыклад, думаю скарыстаць на пражыццё ўсю суму сваёй Нобелеўскай прэміі. Пры поўнай павазе да традыцыі мінулых гадоў не буду перадаваць грошы ў які-небудзь інтэрнат. І нават на барацьбу са СНІДам не ахвярую. Пашкадую. І вось тады вы ацэніце мой цынізм і стойкі эгаізм. Тады вы зразумееце, што і я вашай пароды, звычайны, вялікі і звычайны, як усе, і ні на каго непадобны.

Я ўжо прыкмячаю, як мяняюцца, нібы надвор'е ў восеньскі дзень, выразы твараў маіх сяброў. Здзіўленне, недавер, усмешка палёгкі, маўляў, жартуе, а потым — парушынка маркоты ў сумных вачах. Я ведаю: усе гэтыя метамарфозы закончацца адным трывалым і шчырым, непадробным, як камень, сумам. І таму стараюся як мага хутчэй выкласці ўсе свае козыры.

— Гледзячы па тым, як сёлета праплацілі партугальскаму літаратару, сума будзе вагацца ад дзевяцісот тысяч да мільёна дзвесце, мільёна трыста долараў. Дастаткова, каб завяршыць усе свае распачатыя праекты.

Успомніўшы размову з сербам, я пачынаю з даўнейшай мары: будаўніцтва хаты, дома-крэпасці, у якой атабарыцца талент і дзе кожнае бервяно будзе спеўнай жалейкай натхнення.

— У Акапульцы я расчараваўся, — крыху ганарліва (і адкуль гэта!) гавару сваім сябрам. — Адзін мой знаёмы куды толькі ні хаваўся ад кухоннай пары ды буркатлівай жанчыны ў цыратовым фартуху. І ў раённыя гарадкі з'язджаў, у заседжаныя мухамі пакоі гатэляў, а больш дакладна гасцініц: і ў дамы адпачынку, і сыходзіў да знаёмых мастакоў у іх падвалы-майстэрні, калі на выхадныя там заставаліся толькі мышы, і нават у запаведнік, у егерскую хату, куды можна дайсці толькі пешкам па балоце... нічога не дапамагала. Патрэбна адчуванне дому. Вечнае не пішацца ў шалашы, а толькі дома, за сталом, які прапах самруч молатай і самруч гатаванай кавай, прэзентаванай любімай жанчынай парфумай і нават слінкай ад ранішняй чохаўкі, якая наляцела з незакрытай форткі.

Адным словам, пра Акапульку не можа быць і гаворкі. Толькі Лепельшчына, толькі ўзгорак на Бабчанскім возеры! Не ведаю, праўда, ці адкуплю ў калгаса зямлю з садам, які садзіў разам з вясковымі мужчынамі яшчэ мой бацька. Калі не ўдасца, вазьму пляц, як і ўсе, але толькі тут. Двухпавярховы зруб са струганых бярвенняў і саламяны дах. Уявіце сабе: залацісты саламяны дах і над страхой — срэбна-металёвага колеру тэлевізійная талерка. Лепельшчына — край кантрастаў! Хоць ты ў раённую газету пішы.

Ад ганка дома, з самага пагорка ў нізіну, да берага возера, а гэта метраў трыста, не меніш, у мяне будзе забетанавана даволі шырокая дарожка, а на яе паверхню ляжа размаітая мазаіка — грабеньчыкі марскіх хваляў, дзівосныя хвастатыя рыбіны, васьміногі (ледзь не сказаў каракаціцы. Ні ў якім разе!), крылатыя скаты, вядома, конікі, вожыкі глыбінныя — цікава будзе па іх ступаць басанож, зоркі, дзенідзе імклівыя дэльфіны, празрыстыя сетачкі мядузаў, зробленыя з асаблівага "малочнага" шкла і многа многа чаго яшчэ... А па гэтым лузе, дарэчы, ходзяць нашы вясковыя каровы. Уяўляеце: на галаву дэльфіна ляціць зверху важка цёмна-зялёная ляпёха. Спуджаны такой неспадзяванкай, дэльфін рэзка б'е пругкім магутным хвастом па блакітна-сініх квадрацікахсмальты і праз колькі імгненняў ужо вынырвае ў возеры, ля чаратоў, непадалёк ад чоўна заядлага на рыбу дзеда Рыгора. І стары, не зразумеўшы, што да чаго, б'е дэльфіна па дзюбе-лычы сваім арэхавым вудзільнам. Смех дый годзе...

Я ўжо завёўся і апошнія словы вымаўляю з асаблівым уздымам, раз-пораз набіраючы поўныя лёгкія паветра. Але з уласцівай мне пільнасцю сачу за тварамі сяброў, каб не прапусціць на іх нават цень хмурынкі. Бо гэты цень — своеасаблівы знак да змены гаворкі. І я яго прыкмячаю.

— Цяпер паўстала праблема з выбарам тэмы і асабліва жанру для маючага адбыцца інтэлектуальнага штурму, — голас у мяне становіцца мілагучным і спакойным, як нораў удава.

— Бытапісанне не па мне. Усе гэтыя "...пані прысела на зэдлік з філіжанкай духмянай кавы" ці "ён узяў у прыгоршчы свежую раллю, расцёр камякі і..." Не буду і пра дзеда з бабай. Колькі можна! Нават пра аднаго дзеда не буду. Дзядзька Хэм усё сказаў у аповесці "Стары і мора"...

Я ўжо непадуладны сабе. Мяне ўжо распірае, як паветра гумавы шарык, фанабэрыя і ўнутраны смех. Мне ўжо ўсё адно, цень якога пачуцця прамільгне па тварах сяброў.

— І ведаеце што яшчэ? — нахабна звяртаюся я да іх з пытаннем. — Не магу спыніцца ў пошуку стылёвай пераканаўчасці. Вагаюся. То мне падабаецца імпрэсія пачуццяў, неўтаймоўная плынь свядомасці, ледзь прыкметныя мантажныя швы асацыяцый. Вечнае ў трапяткім віхлянні мятлікавых крыльцаў, рух як найпершае абагульненне сусвету, яго галоўны кодавы знак. І ты адчуваеш сябе паветрам, якое бруіцца і дрыжыць ад вібрацыі тых самых карункавых крыльцаў мятліка, і ў гэтым узрушэнні ўсвядоміш велічнасць драбніцы, сугучча сваёй душы з дыханнем касмічнага прадоння.

А бывае, душа раптам адцураецца ўсіх повязяў і дапасаванняў, зменлівасці і пераўтварэнняў, якія зноў і зноў абяцае нам пульсуючы ток пачуццяў. І тады ты, як ластаўка слінай драбкі глебы, мацуеш цвікамі сказаў канструкцыю сюжэта, падмурак метафізічных суадносін свету і асобы. І хочацца паверыць у сваю самадастатковасць, у сваю значнасць, нарэшце...

Адчуць сябе, напрыклад, Месяцам, калі Сонца згасла навекі і цябе ніхто не бачыць, а ты ёсць і, як і раней, выклікаеш прылівы і адлівы, улпываеш на рост раслін і нават падыходу хлебнага цеста. І забіць сабе цвік у руку, каб зразумець, як мацуюцца звёны сюжэта, вядомага толькі беларусам і больш нікому...

Пяю заплюшчыўшы вочы, нібы ў самазабыцці, але мяне ўжо мала хто слухае. Сябры асалавелі, нажлукціліся віна ды кавы і паціху збіраюцца дадому. І я задаволены. Бо горш за ўсё пачуць мне цяпер якое-небудзь пярэчанне ці, наадварот, словы згоды, падмацаваныя адабральным хітаннем галавы. Я хачу быць адзінокім у сваіх пачуццях і думках. Сябры, відаць, гэта разумеюць. Мы развітваемся, і толькі Віктар, як заўсёды, застаецца са мною, каб прагуляцца па горадзе.

— Паслухай, што я вычытаў днямі ў аднаго паэта, — з уласцівай яму далікатнасцю пачынае Віктар наш змоўніцкі вячаровы шпацыр. — Усяго чатыры радкі:

***Быццам бы манах, стаю маўкліва***
***Прад табой, прыгожай і зямной.***
***Ты магла б зрабіць мяне шчаслівым,***
***Я ж цябе — няшчаснай і маёй.***

Вось табе і плынь свядомасці, і цвікі метафізікі. Паглядзі, якія простыя, па сутнасці банальныя словы і якое спазнавальнае спалучэнне — на матыўчык гарадскіх басякоў. А як нечакана дакладна і праўдзіва! Сапраўды, яны нас могуць зрабіць шчаслівымі...

— Не могуць, — бурчу я.

— Могуць, могуць! А вось мы... Хаця быць чыёй-небудзь, можа, гэта і ёсць асноўная прыкмета жаночага шчасця?

— Не ведаю, — гавару я і адбягаю да шапіка купіць цыгарэт.

Калі наганяю Віктара, наша размова, нібы тэкст пасля абзаца, пераскоквае на новы прыступак.

— Паслухай, Андрэй, — гаворыць мне сябра, — навошта табе высільвацца дзеля гэтай Нобелеўскай прэміі? Ты падумай, колькі начэй трэба недаспаць, сядзець крукам над паперай замест таго, каб з'ездзіць на рыбалку ці ў падарожжа. А як яшчэ да цябе паставіцца Нобелеўскі камітэт? Ты ж ведаеш, што і там можна прайсці па блаце. Ты ж сам гаварыў, што славалюбства — апошняя справа на зямлі. Ды і што можна дадаць да Святога пісання? Не марнуй час. Як сябра кажу.

— Я ж ведаю, што не ў грашах справа, — працягвае Віктар. — Калі хочаш, куплю я табе Лао Дзы ў якасці падарунка да дня нараджэння. Хоць сёння. Прызнайся: сваім лаўрэацтвам ты хочаш скарыць Людку? Усё ж робіцца дзеля жанчыны. І гэты медалёк будзе адліты са сплаву тваёй крыўды і гордасці. Вось, маўляў, Людка, які я знакаміты, як многа я зрабіў для чалавецтва. Дурненькі, ты нават не ведаеш, як яна сумуе, маркоціцца па табе, як не знаходзіць месца ў новым горадзе. Можа, яна і не зрабіла б цябе шчаслівым, а ты яе няшчаснай і сваёй — цалкам. І марыць яна аб адным: каб ты належаў не чалавецтву, а толькі ёй, толькі ёй адной. І яна пакутуе не без тваіх мудрых кніг, а без дурманячага паху тваёй скуры, таямніцы блізкасці...

Я спыняюся, прыпальваю цыгарэту ад цыгарэты, раблю доўгую зацяжку і выкашліваю ў каўнер.

— Грошы мне патрэбны, грошы...

Бяру Віктара подручкі і кірруюся ў завулак, дзе месціцца кнігарня з аб'ёмнай і глыбокасэнсоўнай назвай "Глобус".

## Ёсць такія справаздачы...

**Добра, калі музыкант сумленна працуе, штодзённа, руплівa, але ж аднойчы трэба падводзіць вынікі. Такой нагодай сталася для старшага выкладчыка Беларускай акадэміі музыкі піяністкі Ірыны Неўскай 30-годдзе яе творчай дзейнасці. У канцэртнай зале акадэміі адбылася справаздачная вечарына. Дапамаглі зладкаваць праграму вядомыя музыканты: народная артыстка Беларусі спявачка Любоў Каспорская, саксафаніст Аляксей Хрушчоў, фагатыст Аляксей Аўраменка, спявак Уладзімір Громаў, альтыстка Лючыя Ластаўка, скрыпачы Людміла Ушэніна ды Вячаслаў Зяленін, віяланчэліст Андрэй Варламаў, кларнетыст Дзяніс Парэчын. Выконваліся творы Г. Ваняўскага, Ф. Крэйслера, С. Пракоф'ева, Ё. Гайдна, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, Ф. Шуберта ды інш.**

**А. М.**

## Тузін калядных гісторый

**Творчае аб'яднанне праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага тэлебачання завяршыла першы ў гэтым годзе цэласны праект — цыкл перадач "Калядныя гісторыі". На працягу двух тыдняў гасцямі тэлебачання былі як вядучыя дзіцячыя пісьменнікі нашай рэспублікі, так і больш маладыя літаратары. Але ўсіх іх аб'яднала адно жаданне — падарыць гледачам штосьці адметнае, незвычайнае. Выверана, літаратурна дакладна па тэме прагучалі творы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціна Лукшы, вядомых дзіцячых пісьменнікаў Артура Вольскага, Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Ліпскага, Міхася Пазнякова, а таксама Сяргея Булыгі, Уладзіміра Мацвеенкі, Яўгена Церахава, Алеся Сілецкага, Барыса Зяленскага, Наталлі Новаш, Яўгена Дразда. Аўтар тэлеверсіі і рэжысёр-пастаноўшчык Андрэй Леўчык прафесійна справіўся са сваёй задачай і падарыў нам тузін арыгінальных і цікавых сустрэч з казкай.**

**Міхась МІКАЛАЕЎ**

## Прэміі імя землякоў

**У Гомелі названы першыя лаўрэаты літаратурных прэмій абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, якія ўстаноўлены з мэтай ушанавання памяці пісьменнікаў-землякоў, што нядаўна пайшлі ад нас, і для заахвочвання лепшых літаратараў. Дапамаглі сродкамі НВА "Машынабудаўнік" (дырэктар — М. Афанасьеў), Жлобінскі гарвыканкам (старшыня — У. Ерафееў), абласное тэлерадыёаб'яднанне Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Беларусь" (старшыня — В. Маючы), Рэчыцкі гарвыканкам (старшыня — М. Заразака). Устаноўлены літаратурныя прэміі ў чатырох намінацыях.**

**У галіне паэзіі лаўрэатам прэміі імя Анатоля Грачанікава стала Соф'я Шах (кнігі "Вучым гаварыць і думаць" і "Ад імгнення да стагоддзя" — вершаваныя вучэбна-метадычныя дапаможнікі для лагапедаў, настаўнікаў і выхавальнікаў дзіцячых садкоў; шматлікія публікацыі вершаў у перыядычным друку). Старэйшы пісьменнік вобласці Міхась Даніленка стаў лаўрэатам прэміі ў галіне прозы і публіцыстыкі імя Аляксандра Капусціна (публікацыі ў газетах і часопісах), а Уладзімір Верамейчык адзначаны прэміяй у галіне дзіцячай літаратуры імя Івана Сяркова — за вершы і аповесць "Дай лапу, Жук", а таксама за артыкулы па праблемах сучаснай школы. Паэт і навуковец Віктар Ярац стаў лаўрэатам прэміі імя Мітрафана Доўнар-Запольскага, якая прысуджаецца за лепшыя творы крытыкі і літаратуразнаўства (публікацыі ў часопісе "Полымя", у газетах "Літаратура і мастацтва" і "Гомельская праўда").**

**Лаўрэатам будуць уручаны дыпломы і грашовыя прэміі.**

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

МУЗЫКА

# Непаўторны "вердзіеўскі" бас

ДЛЯ ВЯДУЧАГА САЛІСТА беларускай оперы Алега Гардынца сёлетні тэатральны сезон — юбілейны. Мінула 10 гадоў, як ён упершыню выйшаў на падмосткі сцэны Вялікага тэатра.

Шлях спевака ў высокае мастацтва быў даволі неардынарны. Пасля заканчэння сярэдняй школы Алег Гардынец паступіў у Мінскі радыётэхнічны інстытут і, атрымаўшы дыплом, застаўся працаваць там на кафедры мікраэлектронікі. Яго прыродная музыкальнасць і прыгожы голас выявіліся ўжо ў інстытуцкай мастацкай самадзейнасці. Там ён браў удзел у канцэртах і конкурсах, і ўрэшце на таленавітага юнака звярнула ўвагу піяністка Л. Коркіна, якая працавала ў той час канцэртмайстрам у класе народнай артысткі СССР Т. Ніжнікавай. Яна прывяла Алега ў Беларускую акадэмію музыкі. Там яго праслухаў вядомы ў свой час оперны спявак, а цяпер педагог, прафесар А. Генералаў і адразу прапанаваў займацца ў сваім класе.

**— Алег прыйшоў да мяне без музычнай падрыхтоўкі, — успамінае Анатоль Міхайлавіч. — Яго прыгожы голас і фактура адразу прыемна ўразілі мяне. З першых заняткаў я ўбачыў у ім разважлівага і дапытлівага вучня і адчуў, што з цягам часу ўсё добра атрымаецца.**

І сапраўды, паспяхова прайшоўшы курс падрыхтоўчага навучання, А. Гардынец быў залічаны на першы курс вакальнага аддзялення. Гэта ўжо, можна сказаць, гісторыя. Але па-ранейшаму з вялікай павагай і шчырай удзячнасцю ставіцца Алег да свайго педагога, які сфарміраваў яго як опернага спевака, перадаў свой творчы вопыт, сумленнае стаўленне да прафесіі і самааддананасць у працы. "Я лічу, мне пашчасціла займацца ў класе Анатоля Міхайлавіча Генералава, — прызнаецца Алег. — Усе мае творчыя поспехі, безумоўна, звязаны з ім. Гэта мой адзіны настаўнік, мудры і прынцыповы". Невыпадкова, што творчыя і сяброўскія адносіны паміж педагогам і вучнем працягваюцца і па сённяшні дзень. І, нягледзячы на тое, што вучань ужо мае статус майстра сцэны, ён прыслухоўваецца да творчых парад і заўваг свайго мудрага настаўніка.

Малады спявак атрымаў высокапрафесійную вакальную школу, і гэта дае плён. На II Нацыянальным конкурсе імя Л. П. Александроўскай (1991 год) ён атрымаў другую прэмію і званне лаўрэата. Значнай падзеяй у творчым жыцці А. Гардынца быў удзел у I Міжнародным конкурсе оперных спевакоў, які праходзіў у Пермі (1993 год). У ім бралі ўдзел 180 выканаўцаў, сярод якіх былі вакалісты са сталым сцэнічным вопытам. Прыгожы аксамітны бас Алега Гардынца і добрая вакальная падрыхтоўка былі адзначаны кампетэнтным журы на чале з М. Аміранашвілі. У Мінск ён вярнуўся з поспехам: другая прэмія і званне лаўрэата міжнароднага конкурсу.

У трупу Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі ён быў залічаны яшчэ студэнтам II курса. Спяваў спачатку ў хоры, але праз нейкі час яму ўжо даручалі сольныя партыі. Дэбют адбыўся ў ролі Тома ў оперы Дж. Вердзі "Баль-маскарад". Потым былі Малюта і Сабакін у "Царскай нявесце", Сальеры ў "Моцарце і Сальеры" М. Рымскага-Корсакава, Грэмін у оперы П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін"... Сёння галерэя вобразаў, створаных А. Гардынцом на акадэмічнай сцэне, даволі разнастайная. Гэта паклёпнік дон Базіліё ў "Севільскім цырульніку" Дж. Расіні і разважлівы мудрэц Пімен у "Барысе Гадунове" М. Мусаргскага, жудасны бандыт Спарафучыле і помслівы граф Мантэронэ ў "Рыгалета" Дж. Вердзі, разбэшчаны князь Галіцкі, наравісты хан Канчак у "Князі Ігары" А. Барадзіна.

Варта адзначыць адну асаблівасць А. Гардынца: ён не падзяляе оперныя партыі на вядучыя і эпізадычныя. На беларускай опернай сцэне ён выконвае ўсе басовыя партыі бягучага рэпертуару, і ў працы над музычнымі вобразамі для гэтага артыста не існуе дробязей. Яму ўласціва тонкае пранікненне ва ўнутраны свет, настрой і пачуцці сцэнічных герояў, уменне знайсці выразныя нюансы і перадаць стыль кампазітара.

У яго выканаўчых вартасцях я пераканалася і падчас аднаго з сольных канцэртаў А. Гардынца ў Зале камернай музыкі. У праграме былі арыі з опер Дж. Вердзі — "Трубадур", "Дон Карлас", "Макбет", "Эрнані", "Сімон Баканегра". Адзначу, што менавіта музыка славутага італьянскага кампазітара найбольш блізкая творчаму амплуа Алега Гардынца і з'яўляецца яго своеасаблівай візітоўкай. Слухаючы гэты голас, гэты сапраўдны "вердзіеўскі" бас, перажываеш хвіліны ўзнёсласці і яднання з вялікай музыкай.

Вызначаючы творчы дыяпазон А. Гардынца, варта згадаць яго прыхільнасць да камернай музыкі. Гэты жанр даволі складаны, ён вымагае ад выканаўцы іншага падыходу і тонкай нюансіроўкі. На думку канцэртмайстра Л. Максімавай, з якой спявак плённа супрацоўнічае, голасу Алега Гардынца падуладна камерная музыка розных эпох і стыляў, ад Гендэля да твораў сучасных амерыканскіх кампазітараў.

**— З гэтым спеваком вельмі цікава працаваць, — расказвае Ларыса Паўлаўна. — Ён вельмі патрабавальны да сябе. Мае сваё творчае бачанне, добра арыентуецца ў музычным матэрыяле, удумліва асэнсоўвае тэкст перакладу і суаднось яго з моваю арыгінала. Гэта сведчыць пра яго высокі інтэлект і эрудыцыю.**

Дарэчы, многія запісы опернай і камернай музыкі ў выкананні Алега Гардынца знаходзяцца ў фанатэцы Нацыянальнага радыё. Ёсць яны і ў фондах Дзяржаўнага музея гісторыі тэатра і музыкі Беларусі.

Апошнім часам плённа супрацоўнічае спявак з Мінскім абласным камерным хорам і аркестрам "Sonorus". На думку мастацкага кіраўніка калектыву А. Шута, у Гардынца голас рэдкай прыгажосці, яму падуладна выкананне царкоўнай музыкі, ён умее перадаць стыль, па-філасофску асэнсаваць кананічныя тэксты і данесці іх да слухачоў. З гэтым калектывам саліст падрыхтаваў праграму духоўнай музыкі (творы Струмскага, Часнакова, Равенскага ды інш.).







Праца ў тэатры не замінае творчым вандроўкам. Напрыклад, у 1993 г. у Гамбургу ў складзе інтэрнацыянальнай групы салістаў Алег Гардынец выконваў "Рэквіем" А. Дворжака, а праз год удзельнічаў у фестывалі духоўнай музыкі, які праходзіў у Італіі. Разам з трупай Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі гастраляваў па Іспаніі, Партугаліі. Апошнія гастролі ў Швейцарыі былі адметныя да ўсяго і тым, што даваллося выступаць побач з такімі сусветна вядомымі спевакамі, як Людміла Шамчук ды Паата Бурчуладзе. Мяркуючы паводле рэцэнзій, якія выходзілі там падчас гастроляў беларускай опернай трупы, Алег Гардынец звярнуў на сябе ўвагу як яркая творчая індывідуальнасць.

І сапраўды, гэта неардынарны чалавек. Значнае месца ў яго штодзённым жыцці займае спорт. Ён бярэ актыўны ўдзел у чэмпіянатах па паўэрліфцінгу, нават мае званне майстра спорту.

**— Спорт у маім жыцці, — тлумачыць Алег, — гэта не проста хобі. Заняткі спортам дапамагаюць асвяжыць цела, мышцы, мозг і нават галасавыя звязкі. У маёй прафесіі гэта надзвычай важна.**

Днямі я завітала ў тэатр і з прыемнасцю даведалася, што неўзабаве адбудзецца першае выступленне Алега Гардынца ў партыі Нортана ў оперы Дж. Расіні "Шлюбны вэксаль". Гэта саракавая прэм'ера спевака на опернай сцэне. Хочацца верыць, што творчыя поспехі, кветкі і аншлагі будуць суправаджаць Алега Гардынца яшчэ доўгі час.

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

*На здымках: лаўрэат міжнароднага конкурсу Алег ГАРДЫНЕЦ і яго ролі: Зараcтра ("Чарадзейная флейта" В. Моцарта), Спарафучыле ("Рыгалета" Дж. Вердзі).*

З нагоды

# Будзе і тэатральная энцыклапедыя

Істотнай адметнасцю тэатразнаўства ад крытыкі (гэтыя прафесіі могуць сумяшчацца ў адной асобе, што на практыцы найчасцей і бывае) з'яўляецца рознасць іх "жыцця" ў часе. Крытыка, найперш яе самы распаўсюджаны і мабільны жанр рэцэнзія публікуецца адзін раз. Яна можа з'яўляцца на старонках друку назаўтра пасля прэм'еры спектакля (што было цвёрдым правілам у дарэвалюцыйных газетах), можа друкавацца праз паўгода і нават пазней, што стала ледзьве не правілам у савецкія гады (пасля адпаведных дырэктыў, указанняў і розных узгадненняў). Але, так ці інакш, яна публікуецца адзін раз і, саслужыўшы сваю аператыўную службу, адыходзіць у гісторыю.

Тэатразнаўчыя ж працы, у якіх аператыўная крытыка выкарыстоўваецца як грунтоўная крыніца, але ўжо як "будаўнічы матэрыял", ствараюцца зноў і зноў. У тым ліку па адных і тых жа тэмах і праблемах. Кожны этап жыцця ставіць свае задачы і патрабаванні. Тут не маецца на ўвазе кан'юнктура, хаця, як паказвае гістарычны вопыт, часам і яна ўплывае, як, дарэчы, і на крытыку.

Што мы сёння маем у галіне тэатразнаўчай навукі і якія яе перспектывы і задачы?

У сваіх развагах я буду абапірацца на "Гісторыю беларускага тэатра", у якой у найбольшай меры сфакусіраваны як дасягненні, так і пралікі нашага тэатразнаўства. Напачатку яна задумвалася ў пяці тамах — два першыя меркавалася прысвяціць дарэвалюцыйнаму перыяду, тры наступныя — савецкаму. Кожны з тамоў павінен быў мець прыкладна 25 друкаваных аркушаў. Але калі план дайшоў да кіраўнічых органаў — а дзеелася гэта ў сямідзесятыя гады, акурат у поўдзень так званага застойнага перыяду, — то натыкнуўся на моцны заслон. Па-першае, чаму ў пяці тамах? "Гісторыя Беларусі" выдадзена ў пяці тамах, а тут толькі пра тэатральнае мастацтва — столькі ж? Па-другое, не задавальнялі суадносіны дарэвалюцыйнага і савецкага перыяду: лічылася ж, што культурнае жыццё пачалося ледзьве не з кастрычніцкай рэвалюцыі.

Пасля шэрагу захадаў і актыўных высілкаў дамагліся кампраміснага рашэння: выдаць "Гісторыю беларускага тэатра" ў трох, але павялічаных тамах. За пяць гадоў (1983—1987) выйшлі тры тамы ў чатырох кнігах. Замест планаваных 125 друкаваных аркушаў атрымалася каля 150. Давялося крыху "зразаць" матэрыялы па дарэвалюцыйным перыядзе, якія трэба было ўціснуць у адну кнігу, астатнія ж па ходзе падрыхтоўкі, наадварот, яшчэ й пашырыліся.

Уся гэта гісторыя, так бы мовіць, — дзеля каларыту часу, дзеля характарыстыкі тых абставін, у якіх даводзілася працаваць.

А цяпер — па сутнасці. "Гісторыя беларускага тэатра", якая ўбірае ў сябе папярэднія напрацоўкі аўтараў, здабыткі навукі аб нацыянальным сцэнічным мастацтве, стваралася на працягу дзесяці гадоў у сектары тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Узначальваў працу аксакал у нашай тэатральна-навуковай справе У. Няфёд, які, акрамя ўсяго іншага, валодае і выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі. Яму ўдалося аб'яднаць амаль усе тэатразнаўчыя сілы Беларусі, а таксама прыцягнуць да справы асобных літаратуразнаўцаў. Вось спіс аўтараў раздзелаў па парадку іх размяшчэння ў "Гісторыі беларускага тэатра": М. Каладзінскі, А. Мальдзіс, І. Ягорава, Я. Усікаў, Г. Барышаў, Ю. Пашкін, У. Дзянісаў, А. Сабалеўскі, Т. Гаробчанка, А. Семяновіч, С. Пятровіч, К. Кузняцова, У. Няфёд, Ю. Сохар, А. Лабовіч, Д. Стэльмах, А. Бутакоў, Э. Герасімовіч, Р. Смольскі, В. Ракіцкі, Г. Вавула. Акрамя таго, над падрыхтоўкай матэрыялаў да друку працавалі У. Раманоўскі, В. Шымановіч, В. Навуменка, В. Іваноўскі, А. Савіцкая, В. Козел, Л. Ляонава, Г. Сяўковіч, Рэцэнзавалі рукапіс выдання А. Фядосік, К. Хромчанка, К. Губарэвіч, В. Нячай, Ю. Чурко, А. Лабовіч, У. Рошчын.

Па маштабнасці задумы і яе рэалізацыі (гісторыя тэатра разглядаецца ад першапачатковых фальклорных элементаў і форм да апошняга часу ў непарыўнай цэласнасці і адзінстве) выданне няма аналагаў ва ўсім былым СССР. Каштоўнасць яго перш-наперш заключаецца ў багацці і разнастайнасці фактaлагічнага матэрыялу, у тым ліку і ўпершыню ўведзенага ў навуковы ўжытак. Да яго мы звяртаемся зноў і зноў, да яго, несумненна, будуць звяртацца і новыя пакаленні, нашы нашчадкі.

Ці ёсць недахопы ў выданні? Ёсць, вядома. І яны, хоць прайшло параўнальна нямнога часу, сёння асабліва відавочныя.

Па-першае, маюцца істотныя прагалы ў асвятленні падзей, фактаў. Пропускі выйшлі па розных, але ўвогуле зразумелых і вытлумачальных прычынах. Нейкія з'явы на час выдання ўсё яшчэ знаходзіліся пад забаронай, як, скажам, постаць Францішка Аляхновіча, "Тутэйшыя" Янкі Купалы, набыткі беларускіх эмігрантаў. Пра гэта можна было гаварыць блага або нічога, што звычайна і рабілася. Некаторыя матэрыялы, звесткі, да прыкладу — пра дзейнасць Менскага беларускага тэатра і яго творцаў пад фашысцкай акупацыяй, знаходзіліся пад сямю замкамі і пра іх даследчыкі проста не ведалі.

Значны шэраг мастацкіх з'яў, асабліва з нашай даўняй гісторыі, выяўлены і ўведзены ў навуковы ўжытак пасля выхаду ў свет "Гісторыі беларускага тэатра", таму, зразумела, і не маглі патрапіць на старонкі выдання.

Цяпер, кідаюцца ў вочы і паасобныя вытлумачэнні, трактоўкі гістарычных падзей і фактаў. Узняцца вышэй тымчасовай палітыкі, выйсці з кола аднадзённых задач удавалася не ўсім і не заўсёды. Цяпер мы сталі цверазейшыя, больш, хоць яшчэ далёка і не ўсё, ведаем, што дзеелася, і таму на некаторыя рэчы глядзім па-іншаму. Тое, што раней здавалася светлым, часам успрымаецца шэра-змрочным, як і наадварот. У гэтым плане даводзіцца рабіць асобныя пераацэнкі каштоўнасцей.

Але нельга ўпадаць у крайнасці, што нярэдка цяпер здараецца. Тут патрэбны ні шашкі ці сякеры, а тонкія скальпелі, каб далікатна счышчаць наноснае ці непатрэбнае, не пашкоджваючы сутнаснага, жыццядзейнага. Наша задача — ашчадна захаваць усё добрае, што ствралася ў розныя, у тым ліку і ў самыя цяжкія часы існавання, і ў чысціні перадаць нашчадкам.

У звязку са сказаным узнікае пытанне: ці гатовы мы сёння пераглядаць і перапісваць нанова тэатральную гісторыю? Адказ, мне ўяўляецца, можа быць толькі адназначным: не. Прытым па шэрагу важкіх прычын. Адна з іх тая, што капітальныя даследаванні, кшталту "Гісторыі беларускага тэатра", ствараюцца далёка не ў кожным перыядзе нашага вельмі зменлівага жыцця. А сёння мы бедныя не толькі эканамічна. Не павялічыліся, а, на жаль, паменшыліся шэрагі тэатразнаўцаў, ды і іх у сучасны момант наўрад ці ўдасца аб'яднаць у адзін навукова-творчы калектыў, як гэта было зроблена ў папярэднія дзесяцігоддзі.

Далей. Стабільныя рэчы звычайна ствараюцца ў стабільныя перыяды жыцця. Таму яны ў сілу пастаянства поглядаў, адносін могуць мець доўгае існаванне. Цяпер разлічваць на гэта мы не можам. Сёння, выпраўляючы адны памылкі, лёгка можна нарабіць другіх. Прытым і не па сваёй волі, несвядома.

Да таго ж яшчэ і на сённяшні дзень далёка не ўсё высветлена і асэнсавана. Мы і да гэтага часу не ведаем пра цэлы шэраг з'яў, падзей, фактаў з айчыннай тэатральнай гісторыі, усё яшчэ не зліквідаваны істотныя прагалы.

Дык вось — пра задачы беларускага тэатразнаўства, якія ўяўляюцца на бліжэйшыя гады, а можа, і на значна большы перыяд.

Нам трэба працягваць распрацоўваць асобныя тэмы, прытым менавіта на сённяшнім, г. зн. больш высокім навуковым узроўні, і звяртацца да новых, да якіх па тых ці іншых прычынах раней рукі не даходзілі. Выяўляць і асэнсоўваць з'явы, падзеі, факты забытыя і невядомыя, прагальныя. Сітуацыя моманту вымагае весці тэатразнаўчы рэй у рэгіянальных накірунках. Гэта будзе перыяд працягу назапашвання банка ведаў, матэрыялаў, выпрацоўкі і навуковых абгрунтаванняў новых поглядаў, ідэй, маючы на ўвазе ясную мэту — на аснове і фундаменце напрацаванага стварэнне ў будучым абагульняючых прац па гісторыі і тэорыі беларускага тэатра, даследаванняў на найноўшым навукова-эстэтычным узроўні.

Дзеля гэтага нам сёння зноў даводзіцца, як будзе даводзіцца і ў далейшым, звяртацца да першакрыніц, у тым ліку і друкаваных, да тагачаснай крытыкі. Не спрабуючы паставіць пад сумненне раней зробленае, адназначу, што яно часам рабілася, часам вялося аднабакова: тое, што адпавядала ідэалагічным установкам, бралася і цытавалася, тое, што не падыходзіла, апускалася, нібыта і не існавала ўвогуле.

Цяпер жа, на новым этапе даследчыцкай працы трэба не толькі падаваць звесткі поўна і ўсебакова, але і высветліць усе акалічнасці, узважыць, прааналізаваць абставіны, у якіх адбывалася тая ці іншая падзея.

У ліку асноўных праблем сённяшняга тэатразнаўства ў арганізацыйным плане — павелічэнне, умацаванне і аб'яднанне нашых сіл. Час імкліва бяжыць: усё жывое старэе і пакідае рубяжы. Цяпер мы маем істотныя страты сярод аўтараў, якія стварылі шматтомную "Гісторыю беларускага тэатра". Папаўненне ж шэрагаў ідзе надзвычай марудна.

Прафесія крытыка, тэатразнаўцы і раней не была "цёплай", прыбыльнай і прэстыжнай. Для тых, хто вырашаў звязаць з ёй жыццё, патрэбен быў моцны зарад веры ў сваю абранасць, энтузіязм, гатоўнасць да самаахвярнасці. Як ні парадаксальна, але калісь гэта знаходзілася. Цяпер жа былы ідэалізм няшчадна душыць халодны разлік і практыцызм. Гэта вельмі адмоўна адбіваецца на нашай прафесіі, адданасці ёй і служэнні. Да ўсяго мы раскіданы па розных установах, прафесійна і духоўна раз'яднаныя.

У такіх варунках нельга пераацаніць значэнне навукова-творчых канферэнцый апошніх гадоў, якія ладзяцца пад кіраўніцтвам Р. Смольскага. Да ўдзелу запрашаецца шырокае кола аўтараў, іхнія напрацоўкі публікуюцца, да таго ж пад агульным дахам спецвыпускаў, выконваючы, апрача ўсяго іншага, і аб'ядноўваючую ролю.

Аднак нашы цікавыя і змястоўныя канферэнцыі з-за сваёй эпізадычнасці ўсё ж не могуць вырашыць усіх задач, якія востра стаяць перад тэатразнаўствам. У пэўнай меры садзейнічаць гэтаму можа падрыхтоўка і выданне "Тэатральнай энцыклапедыі Беларусі". І тут колькі слоў пра задуму і намеры, ды і ўвогуле пра нашу энцыклапедычную справу.

Цяпер Беларусь воляю лёсу стала самай энцыклапедычнай краінай на абшарах былога СССР. Мы абышлі нават Украіну, хаця там праца пачалася раней — першая універсальная энцыклапедыя была выдадзена яшчэ да падрыхтоўкі нашай беларускай.

У 1997 годзе ў Беларусі адзначалася трыццацігоддзе заснавання энцыклапедыі. За гэты час выпушчана ў свет каля пяцісот розных выданняў — згадзіцеся, гэта вельмі і вельмі нямала. Акрамя універсальнай, апублікавана значная колькасць галіновых энцыклапедый, даведачнай літаратуры. Час прыспешваў прыступіць асобна да асвятлення сцэнічнага мастацтва.

Падрыхтоўка "Тэатральнай энцыклапедыі Беларусі" (уключэнне ў план, складанне слоўніка, напісанне і рэдагаванне асобных артыкулаў) пачалася амаль дзесяць гадоў таму, пасля завяршэння працы над "Гісторыяй беларускага тэатра". Зразумела, праца грунтавалася на здабытках гэтага выдання. Увогуле, як любая іншая энцыклапедыя, яна павінна ўбіраць, канцэнтраваць у сабе ўсе дасягненні, знаходкі даследчыкаў за час развіцця тэатразнаўства. Вялікай падмогай у працы з'яўляецца пяцітомная "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва", выдадзеная ў 1984—1987 гадах.

Разам з тым будзе ўведзена і шмат новых фактaлагічных і аналітычных матэрыялаў пра драматычнае і музычнае сцэнічнае мастацтва, — энцыклапедыя ёсць энцыклапедыя, яна павінна па магчымасці ахопліваць усе аспекты, падзеі, з'явы. Вялікая ўвага надаецца як гістарычнай, так і сучаснай тэматыцы, творчасці дзеячаў тэатра, драматургаў, крытыкаў. Усё гэта павінна быць асветлена ў шырокім кантэксце сусветнага развіцця сцэнічнага мастацтва, у цесных сувязях і ўзаемадачыненнях.

Выданне плануецца ў адным томе агульным памерам прыкладна 100 друкаваных аркушаў.

Зараз ідзе завяршальны этап падрыхтоўкі "Тэатральнай энцыклапедыі Беларусі" — у наступным годзе трэба закончыць напісанне ўсіх артыкулаў і правесці рэдпадрыхтоўку, зрабіць неабходныя ўдакладненні, папоўніць матэрыялы найноўшымі дадзенымі. Усю работу павінны весці з тым разлікам, каб не пазней 2000-га года "ТЭБ" выйшла з друку.

Як вядома, у 1961—1967 гадах у Маскве была выдадзена пяцітомная (з дадаткам) універсальная "Театральная энциклопедия". З нацыянальных энцыклапедый сярод краін СНД і Балтыі наша, мабыць, будзе першай. Само сабой зразумела, якая ўскладаецца вялікая адказнасць.

Карыстаюся выпадкам і запрашаю ўсіх калег да актыўнага плённага супрацоўніцтва.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

Тэатр

# Рух па крузе

Лацінскае Reversio — рухацца па крузе. Летась ідэя круга, круга жыцця, з'яднала розныя спектаклі: "Reversio" В. Іназемцава (тэатр пластычнага гратэску "Жэст") і "Вечнага Фаму" У. Савіцкага (Нацыянальны тэатр імя Я. Купалы). Першая частка новага спектакля "Reversio" з'явілася пасля трохгадовай рэпетыцыі. Зноў на сцэне ТЮГа — блазны, маскі камедыі дэль-артэ. Арлекін у трохвуголцы — крывавы тыран. Яго дапаможцы — гарбуны ў чорных мантыях з доўгімі птушынымі дзюбамі. У драматычным тэатры — спачатку словы. У тэатры пластычнага гратэску — жэст, маска. Спектакль "Reversio" складаюць дыханне акцёраў, уздыхі парыкоў і бутафорыі, музыка, якая нараджае міміку.

У новым спектаклі "Жэста" жыццё чалавецтва пачынаецца з хаатычнага руху кола. На сцэне — кола-рулетка, дзе круцяцца стагоддзі, культуры, традыцыі. Круг — момант бясконцасці. Круг — імгненне гульні з сусветам. Кожнаму выпадае свой час, выпадае пэўная Бацькаўшчына. Спыняецца рулетка — нараджаецца чалавек, глядзіць у зменлівыя жаночыя маскі традыцый, дакранаецца да бутафорыі часу. Супраціўляецца немаўля (В. Іназемцаў), а вядзьмаркі часу (Г. Яроміна, А. Вівякова, Т. Цурко) ужо накідваюць на яго свае вяроўкі: рабіся, як усе, — вінцікам вялікай і магутнай савецкай дзяржавы (першая частка спектакля распавядае пра пэўны гістарычны прамежак — ад пачатку ўсяго і да 30-х гадоў XX стагоддзя). "Я — птушка, я — ветразь", — маўклівы акцёр стварае на драўляным коле пластычныя фігуры. Але час вальнадумства нядоўгі, на авансцэне — забойца Арлекін. Спыняецца рулетка — нараджаецца чалавек, нараджаюцца пакорлівыя пакаленні. Бясконца круціцца крывавае кола.

Reversio — значыць, рухацца па крузе. Re — зноў. Сцэна Купалаўскага тэатра — у выглядзе чорнага бліскучага круга (сцэнаграфія Б. Герлавана). "Што было, тое і будзе; і што рабілася, тое і будзе рабіцца", — пісаў Эклезіяст. Круг жыцця. Хутка, на пэўным яго вітку, з'явіўся новы Фама Апіскін (Г. Аўсяннікаў). Плюгавы тыран, нядбайны гаспадар, ды яшчэ — у чужым доме. "Я ведаю народ і народ мяне ведае", — разважае Фама, нікчэмны нахлебнік Растанёва (В. Філатаў), чалавека слабога і пакорлівага (сумная маска нашай нацыі). "Дык як жа вы, дзядзюхна, у сваім доме такое дапушчаеце?" — не разумее Сяргей (А. Гарбуз), пляменнік Растанёва. А Фама, кат, зноў нешта выдумляе: "А называйце мяне ваша правасхадзіцельства!" На аванцэсе ў лакейскім парыку плача Растанёў — "Ваша правасхадзіцельства, Фама Апіскін". І паклон. Каму — блазну?

Reversio — значыць, рухацца па крузе. Versio — перайначванне. Бясконца рухацца па адзіным крузе жыцця. А калі сапраўды перайначыць ці разарваць яго? Смелыя пастаноўкі В. Іназемцава і У. Савіцкага, рэжысёраў розных стылістычных падыходаў, натхняюць аднолькава. Іх спектаклі — імпульс для гледача, падстава для духоўнай перабудовы, мажлівасць паразважаць над сучаснасцю.

**В. Б.**

 ЧАСАПІС

## “Полымя”, N 11

Нумар адкрываецца апавяданнем В. Быкава “Мальбара”. Змешчаны вершы Ю. Голуба, Р. Баравіковай, Х. Гурыновіча, С. Явар, заканчэнне рамана-містэрыі Т. Бондар “Благаслаўленне Мары”, апавяданне Н. Рыбік “Пакутніца Лісавета”. У раздзеле “Спадчына” ёсць магчымасць далучыцца да невядомай старонкі з жыцця і творчасці Я. Коласа. Пра гэта можна даведацца ўжо з уступнага артыкула А. Гарон “Вершы да Былінкі”, а Былінкай народны песняр называў намнога маладзейшую за яго жанчыну, у якую закахаўся. Тут жа прапануюцца і вершы-прысвячэнні Я. Коласа, адрасаваныя ёй. “Полымя” робіць чарговы крок па пашырэнні літаратурных абсягаў. У рубрыцы “Галасы свету”, якая на старонках выдання з’яўляецца не ўпершыню, змешчана інтэрв’ю са старшынёй Саюза славацкіх пісьменнікаў В. Шыкулам “Мы працягваем руку...” і творы славацкіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову. У нумары чытач знойдзе працяг нарыса В. Стомы-Сініцы “Маё мястэчка”, артыкулы А. Ліса “Лірыка Хведара Ілляшэвіча”, І. Багдановіч “Пераемнік змагарнага духу” (пра К. Каганца), Д. Бугаёва “Летуценніца на скразняках эпохі” (пра Я. Янішчыц), З. Мельнікавай “Крылатаму суджана збыцца” (пра М. Пракаповіча), П. Сцяцко “З чужой моўнай практыкі”. Е. Лявонава рэцэнзуе кнігу А. Кірвеля “Ласінае крэда” — “Каб не згасла жыццё”, А. Васілевіч дзеліцца ўражаннямі ад зборніка паэзіі Э. Агняцвет “І смутак, і святло” — “Душой маліцца...”

## Трэці выпуск “Скрыжаляў “Спадчыны”

1998 годам пазначаны чарговы, трэці выпуск грамадска-асветніцкага альманаха “Скрыжалі “Спадчыны”, выдаўцом якога з’яўляецца мінскі клуб “Спадчына”. Папярэдні выпуск называўся “Спадчына “Спадчыны”. І гэтым разам аўтарамі выдання з’яўляюцца тыя, хто ўваходзіць у згаданую творчую суполку, а яна, як вядома, аб’яднала навукоўцаў, мастакоў, пісьменнікаў, журналістаў, педагогаў, ветэранаў вайны і працы, вучняў, студэнтаў, пераважная большасць якіх займаецца творчасцю, у тым ліку і літаратурнай. Са сваімі матэрыяламі яны і выступаюць на старонках альманаха. А паколькі ў кожнага ёсць пэўныя меркаванні наконт падзей, што адбываюцца ў краіне і за яе межамі, у кожнага ўласны погляд адносна далейшых шляхоў развіцця грамадства, па-рознаму яны ставяцца да творчасці іншых, дык асобныя матэрыялы маюць востры, палемічны характар, а часам сустракаецца і празмерная суб’ектыўнасць у ацэнках. Але ж шлях да ісціны і нараджаецца, як правіла, у спрэчках. Тым самым відавочна, што гэтыя публікацыі актывізуюць грамадскую думку, спрыяюць магчымасці лепш зарыентавацца ў складаных сучасных працэсах. У альманаху прадстаўлены раздзелы “Мая родная, маці-краіна”, “Артыкулы не гараць...”, “Погляд праз гады”, “Развагі над былым, сённяшнім і будучым...”, “Слова пра “Спадчыну”, яе сяброў”, “Крытыка нашых крытыкаў”, “Радком прозы, верша”, “Храналогія “Спадчыны”. А адкрываецца альманах вершам-прысвячэннем Р. Барадуліна старшыні клуба “Спадчына” А. Беламу. Сярод аўтараў альманаха — сам А. Белы, а таксама Л. Мірачыцкі, А. Саламонаў, В. Чаропка, Л. Лыч, Я. Гучок, Г. Штыхаў, Я. Ціхановіч, Л. Налівайка і іншыя.

## Ствараецца літаратурны музей

Гомельскі аблвыканкам выдзеліў абласному аддзяленню Саюза пісьменнікаў памяшканне пад літаратурны музей.

Звяртаемся да ўсіх пісьменнікаў-землякоў, да іх сваякоў і блізкіх з просьбай накіроўваць матэрыялы на адрас Саюза пісьменнікаў: 246034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5, каб. 309, Яўгену Іванавічу Каршукову, а таксама на адрас абласнога аддзялення СП: 246003, г. Гомель, Цялегіна, 17.

САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

ЮБІЛЕІ

***Вядомы рускі паэт Мікалай Шумакоў — даўні і шчыры сябра Беларусі. У свой час у выдавецтве “Советский писатель” ён рэдагаваў кнігі самых славутых нашых майстроў мастацкага слова, прысвячаў прачулыя радкі нашаму азёрнаму краю і яго слаўным людзям. І сёння ён цікавіцца сучасным днём нашай краіны, творчасцю яе выдатных паэтаў.***

***Напрыканцы мінулага года Мікалаю Шумакову споўнілася 70 год. Віншуючы яго з гэтай значнай датай, жадаючы яму шчасця і натхнення, прапаную чытачам “ЛіМа” некалькі яго новых вершаў у сваім перакладзе.***

**Генадзь БУРАЎКІН**

## Мікалай ШУМАКОЎ



### Курскі край

*Нікнуць пасмы дыму.*
*Кліча ўдаль даліна.*
*Край ты мой радзімы,*
*Край мой салаўіны.*
*Тут маё дзяцінства*
*Хутка праляцела.*
*Спяць бярозы ціха*
*Пад завеяй белай.*
*Купкаю пасталі*
*Вербы і ракіты.*
*Над палямі далі*
*На ўвесь свет адкрыты.*
*Будзе ў сэрцы дзівам*
*Поўня заставацца.*
*Недзе тут хадзіла*
*Мілае юнацтва.*
*...Гай ускіне кроны*
*У трывозе нейкай.*
*І ручай зазвоніць*
*Свірыдаўскай жалейкай!*

### Старыя сцежкі

*Перада мною баравыя сцежкі,*
*Дзе я калісьці стомлена блукаў.*
*Даруйце мне, сунічнікі і ўзмежкі,*
*Што доўга час сустрэчы*
*я чакаў.*

*Тут да вайны дзікоў хавалі шаты,*
*Ды загубіла і дзікоў вайна.*
*На твар кладзецца цень*
*галін кашлатых,*
*Нібыта незабытая віна.*

*Тут воіны лясной легендай сталі,*
*Навек пайшоўшы*
*ў родную зямлю,*
*Крыжамі лёсу рукі распласталі,*
*Самотны кліч аддаўшы жураўлю.*

*Грымяць над імі*
*навальніцы грозна,*
*Маланкі хрысцяць шэры небасхіл.*
*Маўклівымі матулямі бярозы*
*Схіліліся да сынавых магіл...*

### Слухай, восень!

*Ліст пажоўклы на плячо злятае,*
*Серабрацца ніткі павуцін.*
*Слухай, восень, восень залатая,*
*Як і ты, сягоння я — адзін...*

*Развялі сяброў маіх вандроўкі,*
*Быццам аблачыны ў вышыні.*
*Слухай, восень, добрая сяброўка,*
*Ты мне іх хаця б на міг вярні!*

*Маладосць у вырай адлятае,*
*Я вярнуць яе ўжо не змагу.*
*Слухай, восень, восень залатая,*
*Раздзялі са мной маю тугу!*

### Страта

Брату
Уладзіміру Пятровічу КАЦЮКОВУ

*Спіць над крыжом тваім поўня,*
*Сон сцеражэ цішыня.*
*Помніць мне ўсё гэта, помніць*
*Аж да апошняга дня.*
*Гасне зара залатая.*
*Воран ляціць на куп’ё.*
*Снегам густым замятае*
*Горкае гора маё...*

# Салон на беразе Калядаў

*(Працяг. Пачатак на стар. 6—7)*

Шмат размоў “ні пра што”, але вельмі сутнасных. І не мела значэння: ці пілі, чым закусвалі... Гэтак жа было і ва ўсіх паэтаў срэбнага веку. І ў Жорж Санд, і ў Ахматавай, і ў Цвятаевай. Гэта пошукі дыялога. Пошукі адпаведнага біяполя, калі цябе чуюць і разумеюць. Іншая справа, што наша “багема” ў двукоссі часам зводзіцца да такой сітуацыі — сядзяць два “стукачы” і спойваюць трэцяга — паэта. Мы сёння сабраліся тут, жанчыны, якія нечага дамагліся ў гэтым жыцці, нешта стварылі, перадалі ў вобразах. А колькі хлопцаў нашага ўзросту, якіх я вельмі цаніла як мастакоў, як пісьменнікаў, не ствараюць, не слухаюць музыку, не ходзяць у тэатры, а, кажучы папросту, толькі п’юць. І не шампанскае. У свой час я прачытала пра Жорж Санд, як тая захаплялася адной сваёй сучасніцай-актрысай, як захаплялася ігрой Шапэна. Значыць, гэта, напэўна, заканамерна, калі я іду на спектакль Зоі Белахвосцік, і ў яе ігры адчуваю тое, што не магу выказаць у сваіх творах, і гэта мяне глыбока кранае. Іду на выставу габеленаў Вольгі Дзёмкінай, і бачу тое, што сама выказаць не магу. Ёсць у мяне таксама дзве знаёмыя піяністкі, выпускніцы рэспубліканскага каледжа мастацтваў Святлана Лагачова і Вольга Дамарацкая. Я слухаю ў іх выкананні Шапэна і Шумана і плачу. І дзякуючы таму, што я маю такія духоўныя кантакты, я сябе ў літаратуры адчуваю вальней. Вось гэта — сапраўдная багема.

**Г.Дзягілева.** Я — за такую багему.

**А.Данільчык.** Узаемапранікненне мастацтваў, зразумела, моцна ўзбагачае творцу.

**Г.Дзягілева.** Мы гаворым пра цудоўную з’яву. Гэта тыя ж салоны дзевятнаццатага стагоддзя, праз якія прайшлі ўсе вядомыя творцы тае пары.

**В.Коўтун.** Багема заўсёды была апазіцыяй да ўсяго афіцыйнага — афіцыйных уладаў, афіцыйнага мастацтва. Калі мы былі студэнтамі, мы трымаліся асобна, сваёй кампаніяй. Мы былі далёкія ад афіцыёзу. Хаця і сярод нашых равеснікаў былі афіцыёзныя асобы. Мы сцвярджалі сябе. Чыталі вершы, слухалі музыку, стваралі планы на будучыню. Гэта было ў 60-70-я гады, калі пачалі раздавацца званні і дзяржаўныя прэміі, каб падначаліць пісьменнікаў. У кантэксце другіх краін, другіх народаў гэтыя званні і рэгаліі былі б смешныя. Асабліва смешныя цяпер, калі прэміі і званні становяцца цацкамі для закамплексаваных мужчын, прадметам апантанай барацьбы. І каб у нас існавала нармальная багема, можа, не існавала б і гэтага афіцыёзнага паскудства.

**А.Данільчык.** У майго пакалення няма такога асяродка. Быў, калі збіраліся на літаб’яднанні пры “Чырвонай змене”. Туды хадзілі Вітаўт Чаропка, Сяргей Вераціла, іншыя людзі, цікавыя і менш цікавыя. Шмат гаварылі і пра тую ж самую класічную багему. Пасля ўсіх раскідала па свеце.

**Л.Рублеўская.** Баюся, што ў цяперашні прагматычны час творчыя людзі гуртуюцца толькі вакол нечага матэрыяльнага, пэўнай “кармушкі” — выдавецкай фірмы, выдання, фонду. І таму ўсе такія згуртаванні “закапсуляваныя”, і нікога “чужога” ў сваё кола не прымаюць.

**А.Данільчык.** Цікавыя сходы бываюць у Доме дружбы.

**Г.Запартыка.** Там многія мерапрыемствы носяць афіцыйны характар.

**Л.Рублеўская.** Табе, Аксана, там цікава, бо ты задзейнічана ў тых мерапрыемствах, ведаеш людзей, якія туды таксама рэгулярна ходзяць.

**В.Коўтун.** Пытанне пакаленняў у літаратуры дастаткова спрэчнае. Мяне насцярожвае, калі гавораць пра пакаленні, бо я, скажам, хутчэй знаходжу агульную мову з тым жа маладым Федарэнкам, чым з некаторымі са сваіх равеснікаў.

**Г.Дзягілева.** Галоўнае — цікавасць адно да аднаго, інтэлектуальнае і проста чалавечае разуменне.

**Г.Багданава.** Не хапае не столькі багемы, колькі не хапае салонаў. Біяполе ў нас вялікае, і нам патрэбен вялікі дом, дзе можа стаяць раяль, дзе ёсць працоўны кабінет, у мастака — майстэрня. Тады ў адзін дзень мы будзем збірацца да Шніпоў, у другі дзень — да Коўтун, у трэці дзень — да Дзягілевых. Дзягілева, праўда, шчаслівы чалавек, бо ў яе і цяпер можна збірацца — у яе тэатры. Ну, што тычыцца Ганны Запартыкі, то да архіва-музея я ўвогуле стаўлюся з трымценнем. Калі дзеці вучацца музыцы, ім часам хочацца, прачнуўшыся ў шэсць гадзін раніцы, пайграць. І гэта натуральна.

**Л.Рублеўская.** Гэта чыста жаночая мара — мець свой асобны дом. Дарэчы, гаспадынямі ўсіх салонаў былі менавіта жанчыны.

**Г.Багданава.** У мяне ёсць знаёмая, якая паўтарае: менавіта жанчыны сфарміравалі гуманную дэмакратычную дзяржаву ў сваіх салонах. У гэтых салонах выхоўваліся годныя мужчыны, бо яны прыходзілі не на папойку, яны прыходзілі да свецкай дамы, і яны мусілі ў гэтым салоне выглядаць так, каб яго запрасілі і наступны раз.

**Г.Дзягілева.** Часта бывае ў гісторыі так, што калі мужчына пачынае нейкую справу, завяршае яе жанчына. Жонка Янкі Купалы, цёця Уладзя, стваральніца яго музея; Юліяна Мэнке, нявеста Івана Луцкевіча, пра лёс якой я іграю спектакль у сваім тэатры, у Нямеччыне напісала на беларускай мове ўспаміны пра Луцкевіча, пасля — пра Вітан-Дубейкаўскага, жонкай якога была.

**Л.Рублеўская.** Савецкі фантаст Яфрэмаў у адным са сваіх гістарычных раманаў напісаў, як мне падаецца, вельмі жорсткую фразу: “Жанчына, якая народжаная быць музай, а выконвае ролю хатняй гаспадыні, жыве пад знакам самагубства”.

**Г.Багданава.** Што ж, калі падумаць, большасць з нас сапраўды не можа па максімуму стварыць свой вобраз, як маглі жанчыны даўніх часоў. Духоўны свой вобраз мы можам стварыць у сваіх творах, але не можам фарміраваць густ нашага грамадства. Калі мастачка, актрыса, паэтэса не можа схадзіць да краўца, пашыць сукенку, такую, якая адпавядала б яе запатрабаванням. Грошы сёння ёсць у тых людзей, якія ў пераважнай большасці па сваім нізкім духоўным узроўні не валодаюць адчуваннем эстэтычнага.

**Г.Запартыка.** Як бачым на практыцы,- наведнікі сучасных салонаў адрозніваюцца ад наведнікаў даўнейшых салонаў тым, што гавораць пра грошы. Дакладней, пра іх недахоп.

**А.Данільчык.** Думаю, і тады сярод творчых людзей — наведнікаў салонаў былі небагатыя людзі...

**Л.Рублеўская.** У іх былі ўсяго адна кухарка і адзін лёкай.

**Г.Багданава.** Усё-ткі мы жывём у цікавы час. Памятаю, неяк трапілася мне ў рукі кніжка аповедаў пра каханне. Палова яе напісаная шведскімі аўтарамі, палова — савецкімі. Савецкія аўтары апісваюць такія страсці, каханне, злітае з нянавісцю. Шведы апісваюць, як шведская сям’я прыходзіць з раніцы на кухню, націскае на адну кнопку, на другую. Жонка фарбуе пазногці, пакуль ціснецца сок. Яны з мужам абмяркоўваюць, якую лепш пакласці дахоўку на дах іхняга дома. І я падумала — якія шыкоўныя раманы, асабліва гістарычныя, могуць пісаць менавіта нашы пісьменніцы, якія ведаюць, як мыць бялізну без пральнага парашку, паласкаць цэлафанавыя мяшэчкі... Пасля гэтага побыт перастаў мяне прыгнятаць. І калі на працы чую, як нехта гаворыць:”Мне б кухарку, я б напісала больш, чым Жорж Санд”, я кажу:”Затое ты напішаш тое, што ніколі б не змагла напісаць Жорж Санд”.

**Размова скончылася, яе ўдзельніцы разышліся да сваіх сямейных агменяў, каб зноў і зноў спалучаць у сабе, на думку некаторых, неспалучальнае — вырашэнне нялёгкіх побытавых праблем сённяшняга нашага жыцця і ўзнёслае служэнне мастацтву. Праблемы засталіся, але , можа быць, некаторыя з іх удалося хаця б намеціць падчас гэтай перадкаляднай гутаркі.**

## Чуйны да сучаснасці

**Глыбокі след ў жыцці Уладзіміра Дадзіёмава пакінула вайна. Паспеў скончыць толькі першы курс Камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. Кірава ў Мінску, а пасля пачаліся баявыя шляхі-дарогі — радавы-пехацінец, карэкціроўшчык батарэі, супрацоўнік вайсковай газеты "Гвардейский натиск". Прымаў удзел у баях на Доне, Курскай дузе, у фарсіраванні Дняпра, у вызваленні Польшчы, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі, Аўстрыі, Югаславіі. Пасля Перамогі вучыўся завочна ў Гродзенскім педагагічным інстытуце, а ў 1958 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў карэспандэнтам газеты "Чырвоная змена", рэспубліканскага радыё, літсупрацоўнікам часопіса "Калгаснік Беларусі", быў уласным карэспандэнтам "Литературной газеты" па Беларусі.**

**І хоць з першымі апавяданнямі У. Дадзіёмаў выступіў яшчэ ў франтавым друку, а першай кнігай стала "Жлобінскія маладагвардзейцы", найбольшага поспеху дасягнуў у асэнсаванні сучаснасці. Напісаў шэраг нарысаў, у тым ліку "Белаазёрскі дзённік" і "Даярка Лідзія Асіюк", што выйшлі асобнымі кнігамі, а таксама раман "Над Нёманам".**

**З дня нараджэння У. Дадзіёмава споўнілася 75 гадоў. Памёр 25 лістапада 1983 года.**

## Рупнасць на крытычнай ніве

**Мікола Луфераў, з дня нараджэння якога споўнілася 70 гадоў (памёр 28 лістапада 1994 года), як крытык і літаратуразнаўца выступаў у друку з 1952 года. Найбольш значныя набыткі — у асэнсаванні творчасці аднаго з класікаў беларускай літаратуры — брашура "Кузьма Чорны" і манаграфія "Проза Кузьмы Чорнага". М. Луфераў — сааўтар кнігі "Праблемы сучаснай беларускай прозы", напісанай сумесна з П. Дзюбайлам і В. Жураўлёвым, адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", падручніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў педінстытутаў "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917—1940".**

## Паэзія, гартаваная ў барацьбе

**Іван Івашэвіч — адзін з актыўных удзельнікаў нацыянальна-рэвалюцыйнай барацьбы на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Праўда, найбольш вядомы ён пад сваёй партыйнай клічкай, якая адначасова стала і псеўданімам — Пятрусь Граніт. Нарадзіўся 24 студзеня 1909 года ў вёсцы Зачэпічы Цяперашняга Дзятлаўскага раёна. З 1927 па 1939 год працаваў бухгалтарам, уступіў у рады КПЗБ, з'яўляўся ўдзельнікам нелегальнага з'езда пісьменнікаў, што праходзіў у Вільні ў 1933 годзе. У гэтым жа годзе дэбютаваў на старонках "Беларускай газеты". Неадназразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Пасля аб'яднання Беларусі працаваў старшынёй сельсавета, у вайну быў сувязным партызанскай брыгады "Барацьба", што дзейнічала на тэрыторыі Гродзеншчыны, з вершамі выступаў у партызанскім друку. Пасля вайны настаўнічаў, а затым быў загадчыкам пачатковай школы ў сваёй роднай вёсцы. Памёр 14 студзеня 1980 года. Першай кнігай паэзіі П. Граніта павінен быў стаць зборнік "Над хвалямі Нёмана", але, падрыхтаваны да друку, у сувязі з акупацыяй ён так і не пабачыў свет. Асобныя творы П. Граніта можна прачытаць у калектыўных зборніках "Сцягі і паходні", "Ростані волі", у якіх прадстаўлена заходнебеларуская паэзія. У 1978 годзе выйшла кніга вершаў Г. Граніта для дзяцей "Сцяжынка".**

## Напісанае працуе на сёння

**Шмат і плённа працаваў у галіне літаратуразнаўства Міхась Ярош, з дня нараджэння якога споўнілася 70 гадоў (памёр Міхась Рыгоравіч 10 ліпеня 1987 года). Упершыню ён выступіў у друку ў 1955 годзе, калі вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Праз год стаў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута і працаваў ім да апошніх сваіх дзён. М. Ярош даследаваў нацыянальную паэзію, хоць і не абмяжоўваў сябе гэтым накірункам. Аўтар кніг "Драматургія Янкі Купалы", "Міхась Чарот", "Янка Купала і беларуская паэзія", "Пятрусь Броўка", "Пясняр роднай зямлі", "Янка Купала і Якуб Колас. Паралельны аналіз жыцця і творчасці". Разам з В. Бечыкам напісаў кнігу "Беларуская савецкая лірыка". З'яўляецца сааўтарам шэрагу прац, а за ўдзел у двухтомным даследаванні "История белорусской дооктябрьской литературы" і "История белорусской советской литературы" быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.**

ПАМЯЦЬ

# Прэзідэнт з Такароў

Ёсць у нашым Камянецкім раёне невялікая вёска Такары, якая знаходзіцца ў глухім куточку паблізу мяжы з Польшчай. Хто ведаў калісьці пра гэтую беларускую вёсачку? І толькі ў 1991 годзе аб ёй загаварылі на ўвесь голас радыё, тэлебачанне, друкаваныя выданні. У рэспубліцы тады шырока адзначалася 110-я гадавіна з дня нараджэння Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага — першага прэзідэнта Акадэміі навук БССР...

У гэтай вёсцы ён нарадзіўся 19 красавіка 1881 года ў сям'і сельскага настаўніка. У 1911-ым закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Юр'еўскага (Тартускага) універсітэта. У 1914—1920 гадах быў выкладчыкам і рэктарам Мінскага настаўніцкага універсітэта, а ў 1921—1926 гадах з'яўляўся наркамам асветы БССР, а потым стаў старшынёй Інстытута беларускай культуры, быў ініцыятарам пераўтварэння яго ў Акадэмію навук рэспублікі. У 1929-ым стаў яе першым прэзідэнтам, працаваў ім да 1931 года, адначасова займаў высокія пасады ў ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР, а таксама ўваходзіў у састаў ЦВК СССР.

Сапраўды, цікавае і багатае на падзеі было жыццё У. Ігнатоўскага...

Мне давялося прыняць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных юбілею нашага славутага земляка ў Мінску. Я выступаў на мітынгу ў час адкрыцця мемарыяльнай дошкі У. Ігнатоўскаму на былым будынку Інбелкульта па Рэвалюцыйнай вуліцы. Менавіта тут працаваў першы прэзідэнт нашай Акадэміі навук. Трымаў таксама слова на навуковых чытаннях у акадэміі, прысвечаных Усеваладу Макаравічу. Пасля гэтых урачыстасцяў работнікі музея і перадалі мне дакументальныя матэрыялы пра Ігнатоўскага.

...У лістападзе 1924 года ЦК КП Беларусі прыняў спецыяльную пастанову адзначыць 20-гадовы юбілей "культурна-педагагічнай і рэвалюцыйнай дзейнасці" У. Ігнатоўскага, звязаўшы яго з гадавінай утварэння БССР і праведўшы пад "лозунгам дасягненняў нацыянальнай палітыкі рабоча-сялянскай дзяржавы...

У чацвёртым нумары часопіса "Полымя" за 1924 год у раздзеле "Хроніка беларускай літаратуры" паведамлялася, што "ў снежні Беларусь святкуе 20-ю гадавіну рэвалюцыйнай і 15-годдзе беларуска-грамадзянскай дзейнасці прафесара Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага. Да юбілею будуць выданы партрэты т. Ігнатоўскага і яго жыццёпіс. Інбелькульт арганізуе вечар, ахвяраваны яму". Дарэчы, вечар, прысвечаны Ігнатоўскаму, адбыўся 31 снежня 1924 года.

З гэтай нагоды Янка Купала напісаў верш "Наш летапісец", прысвечаны Усеваладу Макаравічу. Верш, як і артыкул "Этапы рэвалюцыйнай чыннасці т. У. М. Ігнатоўскага", быў надрукаваны ў гэтым жа нумары часопіса. Вось яго поўны тэкст:

*Пад нашэпты пушчаў-бораў,*
*Пад напевы завірухаў*
*Летапісец творыць творы,*
*А ты слухай, шчыра слухай.*
*Беглі вехі, як ручаі*
*Паміж нашых сцежак, межаў, —*
*Чужаніца байкі баіў,*
*А ён толькі праўду рэжа,*
*Як жылі, як вечавалі,*
*Як пасля былі ў прыгоне,*
*Адаб'е, як у крышталі,*
*Летапісец наш сягоння.*
*Думкі мудрыя ён піша,*
*Нібы пацеркі з бурштынаў, —*
*Як пазбыцца лішніх крыжаў,*
*Як падняць дабро краіны.*
*Вызначае шлях наперад —*
*Дзе, куды ісці нам лепей*
*Каб не палі зноў у нерат,*
*Каб палон не ашчарэпіў.*
*І ўзбуялі нашы людзі,*
*Пачалі ўвысь голас высіць...*
*Зручна жыць па свеце будзе,*
*Калі ёсць свой летапісец.*



Гэты верш Янкі Купалы, як і нарыс "У. М. Ігнатоўскі", змешчаны ў раённай кнізе "Памяць", якая выйшла ў Мінску ў 1997 годзе.

У часопісе "Маладняк" (N 6 за 1925 год) быў надрукаваны артыкул З. Жылуновіча "Будаванне Савецкай Беларусі: роля ў гэтым У. М. Ігнатоўскага", а таксама тры вершы, прысвечаныя навукоўцу, — А. Александровіча, А. Якімовіча і А. Гурло...

Першая палова дваццатых гадоў была для нашага земляка надзвычай плённая і ў творчым плане. Ён напісаў трыццаць навуковых прац па гісторыі Беларусі. Па выдадзе-

# Пра Буніна

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

"Великая держава", СССР, трэба быць і справядлівым, нямала чаго дала належнага, карыснага тым грамадзянам, якім захавала жыццё, дык і не варта толькі ганіць усё былое. Але калі не ўдалася мяккая перабудова таталітарнай сістэмы ў дэмакратычную, калі на настальгіі па былым (ва ўсе часы ўсюды лічылі, што раней лепш было) пэўныя сілы, што хочуць перахапіць уладу, клічуць туды, назад, у СССР, то нельга не задаць пытанне: а што там, каля разбітага карыта, будзе? Яшчэ большае бязладдзе? Новая, яшчэ больш жорсткая тыранія? Зноў выхад на новы круг распраў спачатку з няўгоднымі, а затым з "инакомыслящими" і для перастрахоўкі з тымі, хто можа інакшай думаць? Выратуе гэта яе ж, Расію, на якую зноў будзе ўсклаздзены той, даўні місіянскі цяжар?

У далейшым, зусім нелірычным адступленні хочацца выказаць адну крамольную думку, што, зрэшты, не давала спакою і ў бунінскія часы: а ці па тым шляху пайшлі пасляпятроўская, пазней ліберальная, г. зн. "передовая" руская інтэлігенцыя і яе, можна сказаць, авангард — "передовая" літаратура? Нават "залатога веку" — XIX стагоддзя? Ці спрыялі яны ўмацаванню Расіі ўвогуле? Ці, наадварот, і яна, літаратура, памагла з'яўіцца "инакомыслию", бунтарам, што ажыццявілі рэвалюцыю "в такой волшебно краткий срок"? Адкуль такія грэшныя думкі? Ды паглядзіце, таленты і геніі: Пушкін, Грыбаедаў, Лермантаў, Гогаль, Бялінскі, Дастаеўскі, Някрасаў, Чарнышэўскі, Салтыкоў-Шчадрын, Ганчароў, Чэхаў, урэшце Талстой — усе па запатрабаванні "передовой" інтэлігенцыі не прызнавалі "общепринятого", "обличали" яго, трэслі расійскае дрэва так, што не толькі хісталася крона, але і надрываліся карані! Хто не "обличал", быў "за искусство для искусства", тым пагарджалі, нават такімі паэтамі, як Цютчаў і Фет, нават Гогалю за яго "Выбранные места из7 переписки с друзьями", дзе ён паспрабаваў абараніць пэўныя гістарычныя, дзяржаўныя і маральна-этычныя асновы, не даравалі. Тыя, хто спажыў "обличение", утварыў пераварот і атрымаў перамогу (дзеля справядлівасці трэба сказаць: іх, будучых пераможцаў, усё ж чуйна разгледзеў Дастаеўскі і перасцярог грамадства ад іх раманам "Бесы"), — дык вось, узяўшы ўладу і ведаючы моц літаратуры, тыя, "бесы", як кажуць, адназначна звялі ўсякае "обличение", паставілі справу так, што метадам "сацрэалізму" пісьменнікі павінны былі не толькі падтрымліваць, але і хваліць узахлёб! Не толькі "обличители", але і непажаданыя, падазроныя, а то на ўсякі выпадак і зусім адданыя былі кінутыя пад кулі альбо на лесапавалы!

Той жа Дастаеўскі "обличение" апраўдваў наступным чынам: "Народ наш с беспощадной силой выставляет на вид свои недостатки и пред целым светом готов толковать о своих язвах, беспощадно бичевать себя; иногда даже он несправедлив к самому себе, — во имя негодующей любви к правде, истине..."

Л. Талстой пайшоў далей: бачачы "недостатки" і "язвы", у лістах цару, у артыкулах выказваў свой варыянт рэформ дзяржаўнага ладу, апарату, арміі, народнай асветы, царквы і г. д., хоць часта зазначаў, што літаратура і мастацтва пайшлі, ідуць не зусім тым шляхам. Ды... адбылося тое, што адбылося. Ніхто, нават і з самых вялікіх, і сам не разабраўся, і іншым не падказаў, у чым жа праўда і ісціна, да якіх у рускага чалавека такая "негодующую любовь". Мабыць, і немагчыма знайсці такі адказ, бо на яго ў свой час не даў і Хрыстос (Пілату), а толькі мякка ці "блаженно" ўсміхнуўся! Вось і людскія пакуты з-за той загадкавай усмешкі! Сказаў бы, у чым жа ва ўсім яна, ісціна, дык, можа, жыло б чалавецтва ладна і мірна!

Як помнім, Бунін цягу да "негодующей любви к правде, истине" назваў інакшай, у больш трагічнай форме: "русской страстью ко всяческому самоистреблению". Але ён, здаецца, не заўсёды "обличал", ён шукаў іншы, свой шлях. Дзеля гэтага часамі не замахваўся на глабальнасць, а "звужваўся" да ўвагі да кожнага асобнага чалавека, да "дождиков", каб не заводзіць у тупік, а паказаць нейкае святло ды характво, падняць, умацаваць чалавечае ў чалавеку.

Зноў успомнім Твардоўскага. Ён не мог не ацаніць Буніна высока, але, бясспрэчна, у тым артыкуле дазволіў сабе і прыніжаць таго: маўляў, цяпер многія бунінскія "идеи, проблемы и самый материал действительности, послуживший основой его стихов и прозы, уже принадлежат истории"... "пессимистические настроения"... "эмиграция не только убила его творческие силы, но и само его литературное имя понесло известный моральный ущерб и подернулось ряской забвения"... "что же касается вновь написанного в эмиграции, помимо общеизвестных крупных произведений, как "Жизнь Арсеньева", "Митина любовь", "Дело корнета Елагина" с общеизвестными достоинствами и изъянами, помимо таких превосходных рассказов, как "Солнечный удар", там есть вещи настолько принижающие талант Бунина, что славное литературное имя его **обязывает** нас (падкрэслена мною. — **Г. Д.**) оставить их **за бортом** даже такого вместительного издания, как нынешнее собрание сочинений..." Ух, гэтае — "за борт!" Як яно многім да душы! Як і ў той жа песні пра Разіна, які пасля грабяжу ў чужых краях вёз-вёз з сабой чужаземную княжну-красуню, мілаваўся з ёю, а пасля, перад домам, шпурнуў яе "за борт!" Гэта ж — звычайнае душагубства, але ў песні яно — "удаль молодецкая!" З бунінскай творчасці, апроч іншага, бартанулі "Окаянные дни", бо там "выплеснулась злоба его превосходительства, почетного члена Академии наук..."

Пакінем "злобу" гэтую, як кажуць, без каментарыяў, хоць нельга не ўбачыць і іншага: "злобы мужика на барина". Ды сёння не трэба асуджаць Твардоўскага строга: ён, несумненна, мусіў падстрахоўвацца, каб паспрыяць выдаць хоць **той** бунінскі Збор твораў, які яму даручылі апекаваць. Але не зусім зразумела, калі ёсць несправядлівыя нападкі на бунінскую творчасць зусім не за палітычнае, а за творы на... любоўную тэматыку. Без іх ва цяжка ўявіць ужо не толькі рускую, але і сусветную літаратуру! Ды... "тема любви, при всем мастерстве и отточенности стиля, приобретает порой у Бунина уж очень прямолинейный чувственный характер и выступает в форме эротических мечтаний старости". Затым — папрок, што ў Буніна зашмат паўтораў аднаго і таго ж. А вось гэта: "Странно видеть и даты написания некоторых вещей, что они написаны в такие сложные, полные драматизма периоды в жизни поэта, а посвящены порой бог весть каким далеким от всякой жизни темам: "таинственным" любовным причудам, "странным случаям..." Такие темы немало занимают места в книге "Темные аллеи" и других рассказах последних лет..."

Праўда: час — найлепшы суддзя. Бунінская творчасць не толькі яшчэ далёка да утылізацыі, але, наадварот, ажывае, узрастае ў сваіх моцы і харастве. Нават са сваім "уходящим" і "вновь приходящим". Скажам, Бог ведае калі і дзе ехала тая ж, здаецца, іспанская цыганка з апавядання

ным у 1919 годзе "Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" вучыліся як настаўнікі, так студэнты і вучні. Напісаная проста, даступна, гэтая праца выдатна адлюстроўвае педагагічную здольнасць аўтара. Кніга вытрымала некалькі выданняў.

Акрамя клопатаў аб развіцці навукі і адукацыі вучняў і студэнтаў, выкладання прадметаў ва ўсіх школах і навучальных установах выключна на беларускай мове, Ігнатоўскі меў шэраг іншых даручэнняў, працуючы ў вышэйшых партыйных і савецкіх органах, уваходзячы ў састаў Прэзідыумаў ЦВК БССР і ЦВК СССР. Не ведаў ён стомы і аддаваў усяго сябе высакароднай справе беларусізацыі. Менавіта пры Ігнатоўскім справаводства паўсюдна вялося на роднай мове, у тым ліку і ва ўсіх партыйных, дзяржаўных, грамадскіх арганізацыях, пачынаючы з ЦК КП(б)Б, ЦВК і Саўнаркама рэспублікі.

У трыццатыя гады я жыў у розных кутках Беларусі, і ўсюды, ад Случы да Дняпра, чуў гаворку людзей толькі па-беларуску. Ды і ў час Вялікай Айчыннай, знаходзячыся ў Пінскім партызанскім злучэнні, у якім было 15 тысяч байцоў амаль з усіх рэспублік былога СССР, ніхто не выказваўся ў нас супраць выхаду беларускамоўных выданняў. А працаваў я тады пры штабе ў падпольнай рэдакцыі і друкарні. Да нас, каб атрымаць і прачытаць на беларускай мове свежы нумар абласной газеты "Палеская праўда" або лістоўку ці зводку інфармбюро, аднолькава спяшаліся як беларусы, так і рускія, грузіны, казахі і партызаны іншых нацыянальнасцяў.

Цяпер мы ведаем усё пра У. Ігнатоўскага. Менавіта паходжанне з "сацыяльна чужога" асяроддзя з'явілася адным з абвінавачванняў, прад'яўленых яму ў 1931 годзе. Чалавеку, які ажыццяўляў дзяржаўную палітыку беларусізацыі, ставілася ў віну тое, што ён групуе вакол сябе нацыяналістычна настроеных асоб, допускае нацыянальны ўхіл у сваёй навуковай дзейнасці. Пасля выключэння яго, члена Бюро ЦК КП(б)Б з партыі, Ігнатоўскі, не маючы магчымасці апраўдацца і глыбока перажываючы гэты круты паварот свайго лёсу, застрэліўся.

Трагічна склаўся лёс і яго сям'і. Жонку Марыю Севасцьянаўну арыштавалі ў 1937 годзе. Была яна асуджана на 8 гадоў. З канцлагера ўдалося вырвацца толькі ў 1943-ім. Прыехала жыць у Кемераўскую вобласць, дзе ў гэты час знаходзіўся старэйшы сын Міхаіл. З-за невыносных умоў яна памерла тут у 1951 годзе. Курапацкі лёс напаткаў у 1937 годзе малодшага і сярэдняга сыноў Ігнатоўскага — Валянціна і Юрыя, якім было тады крыху больш за 20 гадоў.

Міхаіл пазбег усяго гэтага, паехаўшы ў 1934-ым на работу ў Сібір. У Мінск вярнуўся ў шасцідзесятых. Яго намаганні дабіцца рэабілітацыі бацькі і братоў не далі ніякіх вынікаў. Міхаіл памёр, не дачакаўшыся праўды, у 1986 годзе.

І толькі ў 1990-м рашэннем Бюро ЦК КПБ ад 14 лістапада адбылося аднаўленне (пасмяротна) у партыі сумленнага і вернага сына нашага народа. Рэабілітаваны яго жонка і два сыны...

Не так даўно я сустрэўся ў Мінску з унучкай Усевалада Макаравіча Таццянай, якая працуе маляром на заводзе. Спытаў яе:

— Ці падтрымлівае вас хоць неяк Акадэмія навук?

— Непатрэбна мне дапамога, — адказала Таццяна. — Хачу толькі ведаць, у чым віна маіх продкаў, за што іх пазбавілі жыцця. Пачытаць кнігі свайго дзеда хочацца. А іх у крамах і бібліятэках пакуль няма...

Дарэчы, на агульным сходзе калектыву Акадэміі навук, на якім я прысутнічаў, яшчэ ў 1991 годзе было вырашана апублікаваць усе творы Усевалада Макаравіча. Рашэнне засталося на паперы.

І вельмі крыўдна, што да гэтага часу няма вуліц імя Ігнатоўскага ні ў Мінску, ні на яго радзіме. У сталіцы Беларусі і ў Такарах устаноўлены толькі мемарыяльныя дошкі ў яго гонар. А Ігнатоўскія, неаспрэчна, заслугоўвае большага.

**Уладзімір ЯФІМОВІЧ,**
**адказны сакратар Камянецкай раённай ветэранскай арганізацыі.**

УГОДКІ

# Час ціхіх снегападаў

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Івана СЯРКОВА

Іван Кірэевіч усё ж, напэўна, больш любіў зіму, час ціхіх снегападаў. Бо гэта яго пара, час яго нараджэння, і ён быў удзячны студзеню, які падараваў яму разам з бацькамі жыццё.

Я час ад часу бяру ў рукі даведнік "Беларускія пісьменнікі", адгортваю старонку, на якой змешчана кароткая нататка пра І. Сяркова, перачытваю яе: "Іван Кірэевіч Сяркоў нарадзіўся 4.1.1929 г. у вёсцы Пакалюбічы Гомельскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і.

З 1948 г. служыў у Савецкай Арміі. Скончыў артылерыйскае вучылішча (1952). Пасля дэмабілізацыі (1955) працаваў у гомельскай раённай газеце "Маяк". Завочна скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1962). З 1960 г. — старшы рэдактар, у 1961—1989 гг. — галоўны рэдактар Гомельскай абласной студыі тэлебачання, з 1977 г. адначасова сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1970 г.

Узнагароджаны медалём.

Літаратурную працу пачаў у 1962 г. з вершаваных гумарэсак і кароткіх гумарыстычных апавяданняў. Аўтар аповесцей "Мы з Санькам у тыле ворага" (1968), "Мы — хлопцы жывучыя" (1970), "Мы з Санькам — артылерысты" (1989).

Напісаў сцэнарый тэлевізійнага фільма "Хлопцы жывучыя" (пастаўлены ў 1974 г.)."

І ўсё. Калі-нехадзь выйдзе з друку новы даведнік пра беларускіх пісьменнікаў, і там з'явіцца новы радок — "памёр 27 мая 1998г." Хацелася б, каб ён, гэты радок, быў пазначаны іншай, больш позняй датай. Але што паробіш — усе мы, як гавораць, ходзім пад Богам.

Дзесяць гадоў назад, калі Івану Кірэевічу споўнілася 60, мы паехалі ў яго родныя Пакалюбічы, каб зняць там сюжэт на тэлекамеру і потым выкарыстаць той матэрыял у перадачы, прысвечанай юбілею І. Сяркова. Трэба заўважыць, яго няпроста было тады ўгаварыць здымацца. Ён не любіў слоў пахвалы ў свой адрас, не любіў красавацца, абыякава адносіўся да славы. Мне бачыцца, што ён увогуле не ўсведамляў да канца, што зрабіў у літаратуры, якую каштоўную спадчыну пакіне пасля сябе.

Будзем шчырымі, не ўсе і мы ўсведамляем сёння гэта. Але пройдзе час, і тады зразумеем: пра вайну і пасляваенны нягоды для дзяцей мала лепш хто напісаў. Генрых Далідовіч неяк заўважыў: пасля "Міколкі-паравоза" Міхася Лынькова лепшыя кнігі для дзяцей — аповесці Івана Сяркова. Сказаў на поўны голас, гучна, але яго не пачулі. Таму шкада, што трылогія пра Саньку і яго сяброў не адзначана ніводнай прэміяй на ўзроўні дзяржавы. Хоць і прадстаўлялі — на Дзяржаўную і літаратурную імя Я. Маўра. І ў той жа час усе тры аповесці І. Сяркова адзначаны прэміямі на літаратурных конкурсах, нават на ўсесаюзным. У Маскве яму была прысуджана першая прэмія, а дома — другая. За тую ж кнігу "Мы з Санькам у тыле ворага".

Чамусьці не надта прыязна паставіліся ў Мінску да твораў Івана Кірэевіча. Можа, час усё ж выправіць гэта. Ды ўжо добра і тое, што не без дапамогі былога дырэктара выдавецтва "Юнацтва" Валянціна Лукшы ўсе тры аповесці выдадзены асобнай кнігай.

— У свой час я працаваў на Гомельскай абласной студыі тэлебачання, — прыгадвае паэт, дацэнт ГДУ імя Ф. Скарыны Віктар Ярац, — і браў мяне на працу Іван Кірэевіч. Самыя добрыя ўспаміны засталіся ў мяне пра той перыяд жыцця. Гэта быў якраз той час, калі Сяркоў вельмі ўпэўнена, ярка заявіў пра сябе ў літаратуры. Перамогі на конкурсах, публікацыі аповесцей у многіх саюзных рэспубліках, у Балгарыі. Але Іван Кірэевіч працаваў сябе ціха, сціпла, нічым не паказваў, што на яго ім літаратурным небасхіле ўспыхнула такая яркая зорка.

І. Сяркоў валодаў рэдкім дарам — пісаць з гумарам пра сур'ёзныя рэчы. На жаль, гэты дар не быў скарыстаны да канца. Ён мог бы напісаць яшчэ шэраг твораў, але ў першыя дні пасля выхаду на пенсію захварэў. І ўсе гэтыя дзесяць гадоў І. Сяркоў не выходзіў амаль што з кватэры, вельмі пакутаваў ад таго, што не слухаецца правая рука, не бачаць вочы. Рэдкія запісы рабіла за яго жонка Любоў Андрэеўна.

Што ж за чалавек быў Іван Кірэевіч, якім запомніўся ён мне, іншым? Прыгожы. Добры. Строгі. Патрабавальны. Справядлівы. Раман Тармола расказваў: "Сцэнарый кінафільма па аповесці "Мы — хлопцы жывучыя" Іван Сяркоў напісаў сам. У ходзе працы над фільмам рэдактары прымушалі яго змяніць некаторыя мясціны, перайначыць тое-сёе. Сяркоў наадрэз адмовіўся і запіхаў сцэнарый у сумку, чым даў зразумець: не згодны — не трэба. Рэдактура адступіла, а мы пачалі яшчэ больш паважаць Івана Кірэевіча. Звычайна аўтары сцэнарыяў заяўляюць: "я свае напісаў, а вы далей што хочаце, тое і рабіце".

Апошні раз мы сустрэліся летась на майскія святы. Прыйшоў да Сяркоўых з сынам і нявесткай. Пасядзелі за сталом. А калі развіталіся, нейкая сіла пацягнула мяне да Івана Кірэевіча, мы абняліся. Аказалася — развіталіся назаўсёды...

Івана Сяркова прыняла пакалюбіцкая зямля. Пахаваны ён на пагорку, з якога адкрываецца надзвычай прыгожыя мясціны — луг, Сож...

Ён сам быў прыгожым чалавекам і любіў прыгажосць.

**Васіль ТКАЧОЎ**

"Камарг", што ўсяго на адну старонку ў кнізе, але з захапленнем чыталі і будуць чытаць усе і ўсюды, як яна, тая безыменная гераіня, увайшоўшы ў вагон, уразіла ўсіх мужчын сваёй першароднай красою! Там такая зрокавая карціна, што ўсё бачыш! Там кожнае слоўка на вагу золата! Як і ў многіх іншых творах!

Паўторым: Бунін не пісаў пахвалы ні рэвалюцыі, ні перамозе бальшавікоў, не ўслаўляў індустрыялізацыю і калектывізацыю, сталінскія рэпрэсіі (між іншым, Кацярына II адмяніла "пытку как средство дознания", а ў СССР у 20—30-ыя катаванне зноў адрадзілі), карацей, ён ніяк не ўхваляў, што "во общее благо" знішчылі мільёны і мільёны лепшых людзей, чым заклалі фугас на будучыню, што не магло не агукнуцца... Але калі пачалася другая сусветная вайна, Бунін не толькі штодзённа слухаў навіны з франтоў, але ў дзённіках рашуча асуджаў Мусаліні і Гітлера, больш — ужо не толькі Расіі, але і раней ненавісным бальшавікам жадаў толькі перамогі, верачы, што цяпер толькі яны, бальшавікі, здольныя выратаваць яго Радзіму. Не помню, у каго, але аднойчы вычытаў такі факт: неўзабаве пасля вайны, здаецца, у Парыжы савецкія афіцэры трапілі ў тэатр, адзін з іх, убачыўшы Буніна, асмеліўся папаніцца: "Рад, что маю гонар сядзець побач з выдатным рускім пісьменнікам!", горды Бунін таксама падняўся і схіліў галаву: "Рад, што маю гонар сядзець побач з рускім афіцэрам!" Бунін нават меўся вярнуцца ў СССР, але старасць і хваробы стрымалі: усё, што мог для Расіі, ён ужо зрабіў тут...

У "Темных аллеях" и других рассказах" у той страшны час ён не проста ўхіліўся ад "полных драматизма периодов в жизни родины" ці ўпадаў у старэчы маразм, нават яшчэ і яшчэ раз пры выключнай памяці і пры глыбокім пісьменніцкім разуменні не проста падкрэсліваў, што "страшнее, привлекательней и загадочней любви нет ничего ни на небе, ни на земле", а "сочинял", "выдумлял" (ён зусім не асцерагаўся прызнавацца, што так вельмі часта робіць: фантазія, летуценнасць — не проста здольнасць, а талент вялікіх людзей) усё новыя і новыя "таинственные любовные причуды", у тым ліку і з "пасцельнымі" сцэнамі, каб імі, "человеколюбивыми рассказами", у такую жахлівую эпоху і самому ўратавацца (не толькі ад адзіноты, старасці і беднасці, хоць, скажыце, для каго гэта радасць?), але і ад пастаяннай трывогі за лёс яе, Радзімы, і блізкім людзям памагчы "перенести непереносимое" сродкамі прыгажосці, а ўрэшце ўсё гэта зрабіць духоўным набыткам роднай літаратуры. Невыпадкова ж у 1945 годзе і яго "любовное" апавяданне "Натали", дзе "мучительная красота обожания Натали и такое телесное упоение Соней", адно з амерыканскіх выдавецтваў уключыла ў анталогію сусветнай літаратуры. А што да паўтораў і нібыта выхапу нейкіх падрабязнасцей з раней ужо напісанага і разгортвання яго ў асобны твор, ён спакойна адказваў: няўжо вы не бачыце, што тут іншы падыход, іншы нюанс і паварот? І, праўда, чытаеш яго апавяданні, здаецца, быццам штосьці ўжо знаёмае, ажно не — зусім іншыя абставіны, штрыхі і, галоўнае, такое блізкае табе, што перажываеш як сваё. Недарэчныя папрокі Буніну і за тое, што ён натхнёна і ў той жа час са скрухай пісаў пра выпадковыя, нават адзінкавыя сустрэчы Яго і Яе, не апяваў "поэзию брака и семьи" — можа, і таму, што нядаўна ў 1898 годзе, "женился на А. Н. Цакни, гречанке, дочери известного революционера", што ўвогуле "сразила меня, к великому несчастью, долгая любовь". З 1907 года "жизнь со мной делит В. Н. Муромцева", з якой у яго таксама не было дзяцей. Адным словам, Бунін пра каханне і пра ўсё тое, што звязана з ім, пісаў так, як яму пісалася, і не забараняў іншым пісаць інакш.

Зведаўшы шмат чаго ў жыцці і напісаўшы нямала кніг, Бунін у невялічкім апавяданні "Бернар" незадоўга перад смерцю, пасля 80-ці гадоў, успомніў мапасанаўскага Бернара са словамі: "Думаю, что я был хороший моряк". А заканчыў твор так: "Мне кажется, что я, как художник, заслужил право сказать о себе, в свои последние дни, нечто подобное тому, что сказал, умирая, Бернар". Заслужыў! І больш чым толькі для рускай літаратуры! Як творамі, так і сваім лёсам! Нават ім, гонарам, што многім не даваў спакою!

А на самае заканчэнне варта дадаць наступнае: рускую літаратурную мову Бунін даваў да такой дасканаласці, да такога майстэрства, што перасягнуць яго проста немагчыма, як нельга стварыць іншыя сонца, неба ці ваду. Нашу, беларускую, мову той-сёй мала што не ведае, не паважае, дык яшчэ абзывае беднай для яго "мудрасці" і яе выяўлення, але факт ёсць факт: Бунін вельмі арганічна, хораша гучыць і... так-так, па-беларуску! Гэта яскрава даказаў наш Ян Скрыган, у выдатным перакладзе якога ў 1958 годзе выйшаў бунінскі аднатомнік прозы і адразу ж зрабіў вялікі ўплыў на многіх нашых празаікаў.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

СПАДЧЫНА

# Знайсці скарб магчыма і сёння

ПРЫНАМСІ, скарб кніжны. Шостая, чарговая канферэнцыя "Санкт-Пецярбург і беларуская культура", якая адбылася 11 лістапада 1998 года ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы ў Пецярбурзе, пацвердзіла гэта цалкам. Як заўсёды, на ёй прагучалі змястоўныя даклады расійскіх (Масква і Пецярбург) і польскіх (Варшава і Беласток) вучоных, прысвечаных беларускай культуры і яе сувязям з Паўночнай пальмірай. Трэба адзначыць, што выступленні на першых чатырох канферэнцыях склалі ёмкі "Белорусский сборник. N 1", СПб, 1998; гэта першая кніга з беларускімі тэкстамі ў Пецярбурзе з часоў дзейнасці выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца".

Галоўнай сенсацыяй сёлетняй канферэнцыі стала паведамленне аб знаходцы ў Пецярбурзе трох кніг 19-га стагоддзя, якія беларускім бібліёграфам былі вядомыя толькі па апісаннях, часта недакладных. Алена Камісарава, якая зрабіла гэтую знаходку, прадставіла апісанні, што маюць самую высокую вартасць, бо зроблены "de visu", з арыгінала:

**Pczycki F.** Kryuda i Prauda. Nutarka Bilaruskaja. F. Pczycki. 1863 г. — Б.м., 1863. — (1), 11 с. — Тытульны аркуш і тэкст напісаны ад рукі і літаграфаваны. Пецярбургскі экземпляр некалі належаў Бадуэну дэ Куртэнэ — на кніжцы захаваліся штамп і экслібрыс яго бібліятэкі. Не меншую цікавасць, чым сам тэкст, прадстаўляе запіс гаспадара аб асобе, ад якой ён кнігу атрымаў (гэта альбо знакаміты акуліст Вітаўт Наркевіч-Ёдка, альбо яго сын, вядомы палітык, таксама Вітаўт Наркевіч-Ёдка), і рэакцыя на змест **(Od Witolda Jodki Narkiewicza) Glupstwo kapitalne!"** У канцы тэксту: **"Ерунда, белиберда, сапоги всмятку!"**.

У юбілейны для Адама Міцкевіча год (тут дарэчы прыгадаць, што сёлетнюю канферэнцыю пецярбургскія беларусісты прысвяцілі Адаму Міцкевічу), з асаблівай цікавасцю ўспрынята другая знаходка:

**Mickewicz Adam (1798—1855).** Pan Tadeusz: Paemat Adama Mickiewicza piaralazyu z polskaho na bielaruski jazyk A(leksandar) J(elski). Kn. 1. — Lwou: U drukarni ludowai pod upr. St.Baylaho, 1892. — 41 с.

У зводным каталогу "Кніга Беларусі" (Мінск, 1986) кніга апісана па адзіным вядомым аўтарам экземпляры былой Віленскай Публічнай бібліятэкі (зараз бібліятэка Акадэміі навук Летувы) — у тым апісанні выдаўцамі названы львавяне Губрыновіч і Шміт. Пецярбургскі экземпляр дазваляе сцвярджаць: месцам выдання трэба лічыць народную друкарню пад кіраўніцтвам Ст.Бялага ў Львове, і толькі пасля тыраж прыйшоў на склад кнігарні Губрыновіча і Шміта, дзе на кнігі паставілі адпаведны штамп.

Санкт-Пецярбургская асацыяцыя беларусістаў, самая вялікая ў Расіі, дзейнічае як філіял Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, штаб-кватэра якой у Мінску, а прэзідэнтам — прафесар Адам Мальдзіс. Яшчэ ў 1966 годзе А.Мальдзіс выказаў меркаванне, што першае выданне кнігі Сымона Рэўкі з-пад Барысава "Смык беларускі" выйшла не ў Познані, а ў нейкім іншым горадзе. Сёння пецярбургская філія прапануе свайму прэзідэнту (ці каму-небудзь з ягоных вучняў) працаваць са знойдзеным арыгіналам першага выдання кнігі Францішка Багушэвіча:

**Багушэвіч Францішак Казіміравіч (1840—1900)** Smyk bialaruski Szymona Reuki z pad Barysowa. — Poznan: Drukawau swaim kosztam R. Nikulski, 1894. — 40 с. — (3000 ekz.).

Дзе ж тое месца, дзе такія бібліяграфічныя рэдкасці ляжаць, і хто такая Алена Камісарава? Паведамляем: усе згаданыя знаходкі зроблены ў славянскім фондзе бібліятэкі Расійскай акадэміі навук, а Алена Віктараўна Камісарава — супрацоўнік гэтай бібліятэкі і адначасова яе аспірант.

"Славянскі фонд" бібліятэкі Расійскай акадэміі навук — гэта асобны збор славянскіх выданняў 17-га — першай трэці 20-га стагоддзя, які налічвае каля 300000 тамоў. Кніжны фонд фармаваўся ў 1882—1930гг. у перыяд існавання ў БАН Славянскага аддзела (у 1920-я гады — Славянскага аддзялення). Найбольшы росквіт Славянскага аддзела прыходзіцца на перыяд загадвання Э.Вольтэра (1894—1920 гг.). Фонд уключае выданні ўсіх тыпаў і відаў на ўсіх славянскіх мовах, акрамя рускай. Перад Славянскім аддзяленнем ставілася задача поўна прадстаўляць навуковае і культурнае жыццё славян. Таму Славянскі фонд універсальны па змесце, але пераважае літаратура па славяназнаўстве. Чытачы абслугоўваліся з дапамогай алфавітнага каталога, які былі арганізаваны (таксама, як і кніжны фонд) па моўным прынцыпе.

У 1930-я гады пачынаецца працэс паступовага занядбання славяназнаўчага кнігазбору, каторы толькі ў самай нязначнай ступені адлюстроўваў афіцыйную ідэалогію. Спынілася далейшае фарміраванне Славянскага фонду як асобнага кнігазбору: Славянскае аддзяленне зачынілі, усе далейшыя паступленні славянскіх і славяназнаўчых выданняў размяркоўвалі паміж замежным фондам і фондам літаратуры на мовах народаў СССР. Свабодны доступ чытачоў да алфавітнага каталога Славянскага фонду быў спынены, а ў сістэматычны каталог БАН інфармацыя аб Славянскім фондзе практычна не ўвайшла. Так Славянскі фонд апынуўся ў інфармацыйным вакууме. У прыватнасці, Славянскі фонд БАН абмінулі пры складанні зводнага каталога "Кніга Беларусі". Сёння задачу раскрыцця збору славянскай кнігі бібліятэкі РАН вырашае адчыненая ў 1994 г. чытальная зала Славянскага фонду.

Беларускі раздзел не існаваў у Славянскім фондзе ад пачатку, з 1882 года, таму нейкая частка ранніх выданняў на беларускай мове аказалася ў польскім і, магчыма, украінскім раздзелах. Акрамя таго, раннія беларускія выданні можна сустрэць і ў славянскай бібліятэцы з некалькіх тысяч тамоў, якую сабраў акадэмік І. Срэзнеўскі (1812—1880). Гэты збор паступіў у Славянскі фонд у 1903 г. і з таго часу захоўваецца як асобная калекцыя. Адно беларускае выданне выяўлена і ў так званым "агульнаславянскім" раздзеле, які ўключае славяназнаўчыя выданні на рускай і заходнееўрапейскіх мовах.

У беларускім раздзеле Славянскага фонду БАН сёння захоўваецца 1918 назваў кніг і брашур у 1962 тамах і 83 камплекты часопісаў (розныя па паўнаце). З іх:

- кніг і брашур, выдадзеных да 1900 года, — 18 назваў у 21 т.;
- кніг і брашур, выдадзеных у 1900—1917 гадах, — 185 назваў у 188 тт. (сярод іх такія рэдкасці, як поўны камплект падпольных пазатычных зборнікаў Цёткі "Скрыпка Беларуская" і "Хрэст на свабоду" (1906 г.) — і кірыліцай, і лацінкай);
- кніг і брашур, выдадзеных у 1918—1930 гадах, — 1715 назваў у 1753 тт.;
- часопісаў 1900—1917 гадоў — 3 назвы ("Лучынка", "Раніца" і "Саха");
- часопісаў 1918—1930 гадоў — 80 назваў.

Яшчэ адна адзінка захавання беларускага раздзела не з'яўляецца выданнем. Гэта тры старонкі машынапіснага тэксту з загалоўкам "Съезд белорусских деятелей, состоявшийся в Минске 25—26 марта с.г. (1917), вынес нижеследующие резолюции:...". Спіс рэзалюцый прызначаўся для азнаямлення Часоваму Ураду. Гэты экземпляр, мяркуючы па запісе на першай старонцы, з'яўляецца копіяй для рэдакцыі газеты "Русская воля".

За прайшоўшыя гады ў Славянскім аддзеле адбыліся розныя змены, у тым ліку страты: па дадзеных інвентарызацыі ў фондзе адсутнічаюць 5 назваў, на іх месцы засталіся кніжныя замяшчальнікі 1936—1946 гг.: 1) Тарас на Парнасе. Гродна, 1899. узята на абанемент чытачом Кузьміным 17 сакавіка 1941 г.; 2) Dunin-Marcinkewicz W. Scerouckije dazynki. Pb., 1910. узята на абанемент 15 ліпеня 1941 г.; 3) Ядвігін Ш. Васількі. Вільня, 1914, узята на абанемент у 1945 г.; 4) Ігнатоўскі Ў. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 4-е выд. Менск, 1925. узята на абанемент 31 мая 1936 г.; 5) Піотуховіч М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Ч. 1. Менск, 1928. узята на абанемент чытачом Беркавым 21 снеж. 1946 г.

На заканчэнне адзначым: даклады, прачытаныя на сёлетняй канферэнцыі, увойдуць у наступны, другі выпуск "Беларускага зборніка". І пашкадуем, што пакуль ні адна з беларускіх кнігагандлёвых фірм не ўзялася распаўсюджваць гэтае выданне на Беларусі. Канечне, на продажы навуковага выдання не заробіш "гарачыя грошы", але ж не ўсе каштоўнасці грашамі вымяраюцца. А першы выпуск "Беларускага зборніка" можна набыць непасрэдна ў выдаўца: Российская Национальная библиотека, 191069, Россия, Санкт-Петербург, Садовая ул., 18. Издательский отдел.

**Мікола НІКАЛАЕЎ**

# Хіба што часу не хапіла...

Нацыянальны мастацкі музей ужо знаёміў мінчукоў з культурнай спадчынай рэгіёнаў Беларусі. У залах музея прайшлі выставы, дзе экспанаваўся іканапіс, фрагменты аздобы інтэр'ераў храмаў (разьба), археалагічныя знаходкі, драўляная скульптура, старадрукі XVI—XVIII стагоддзяў, тэрытарыяльна прывязаныя да той ці іншай вобласці — Міншчыны, Віцебшчыны, Гарадзеншчыны... Робячы каментарый да гэтых выстаў, мы адзначалі, што такі падыход да фармавання экспазіцыі даволі спрэчны. Сённяшняе адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне Беларусі ў адных выпадках можа кепска стасавацца, у іншых — не стасавацца ўвогуле з культурна-гістарычнай картай. Скажам, гэта сёння Мінск — сталіца і агульнанацыянальны культурны цэнтр. А што ён уяўляў сабою ў параўнанні з Нясвіжам (цяпер раённы цэнтр Мінскай вобласці) у час росквіту рэзідэнцыі Радзівілаў? Сёння Полацк — раённы цэнтр Віцебскай вобласці, але ролю ў гісторыі Беларусі (у тым ліку і ў культурнай гісторыі) ён адыграў большую, чым сённяшні абласны цэнтр. Гальшаны, Навагрудак, Крэва, Глыбокае, Мсціслаў, Мір — гэтыя і многія іншыя гарады і мястэчкі вартыя таго, каб пра іх гаварыць не ў "абласным" кантэксце, а пра кожны і кожнае асобна — спецыяльнай энцыклапедыяй, асобнай выставай і гэтак далей.

Але згодзімся і з тым, што аўтары экспазіцыйнай канцэпцыі маюць права на ўласную думку. Падзякуем ім за тое, што скарбы фондаў Нацыянальнага мастацкага музея сталі даступнымі масаваму гледачу.

Зараз мінчукі маюць магчымасць азнаёміцца з выставай "Мастацтва Магілёўшчыны XVI—XVIII стагоддзяў". Экспазіцыя цікавая для прафесійнікаў і аматараў мастацтва. Гэта — рэшткі былой велічы. Магілёў быў другім па багацці і прыгажосці горадам Вялікага княства Літоўскага. Магілёў быў дашчэнту спалены войскамі Пятра I у часе Паўночнай вайны. Гісторыкі мяркуюць, што цар яшчэ і помсціў магілёўцам за тое, што ў часе так званай Маскоўскай вайны (1654—1667) жыхары горада, паўстаўшы супраць маскоўцаў, знішчылі ўвесь варожы гарнізон. Фактычна Пётр I паставіў крыж на слаўнай гісторыі Магілёва і, адпаведна, на магілёўскай мастацкай традыцыі.

На выставе мы бачым тое, што магло б развіцца ў вялікае мастацтва, але з шэрагу прычын (адна з іх названа вышэй) засталося толькі "цікавай з'явай". Характэрным для беларускага мастацтва гэтага перыяду з'яўляецца наяўнасць выразна свецкіх элементаў у творах, прызначаных для цэркваў і касцёлаў, адаптацыя кананічных сюжэтаў і вобразаў Старога і Новага запаветаў да побыту і менталітэту тагачасных месцічаў і вяскоўцаў. "Нараджэнне маці боскай" — гэта, калі пазбавіць персанажы німбаў, звычайная сцэна народзін у нябедным доме. Калі ў святых, намаляваных на іконах альбо выразаных з дрэва, забраць кананічныя атрыбуты, атрымаюцца звычайныя беларусы тае пары — шляхта, месцічы, сяляне. Калі параўноўваць XVI—XVIII стагоддзі ў Беларусі з тым, што тады ж было ў Масковіі, лёгка знойдуцца падставы для гордасці. Бо наша краіна, прынамсі, у галіне культуры, апярэджвае ўсходняга суседа не менш як на стагоддзе. Але каб быць аб'ектыўнымі, трэба глядзець і на Захад. А XVI—XVIII стагоддзі ў Заходняй Еўропе — гэта Мікеланджэла, Эль Грэка, Брэйгель, Гальдбейн, Веласкес, Рэмбрант... У гэтай сістэме мы, дарэчы, разам з палякамі, летувісамі і ўкраінцамі — нашымі суайчыннікамі па Вялікім княстве і Рэчы Паспалітай, выглядаем даволі сціпла. Але вектар у нашай краіне быў тады правільны. Заходні вектар. Да таго ж і вучні мы таленавітыя. Хіба што часу не хапіла...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Не трэці, а першы пасля другога, не чацвёрты, а той, што апярэдзіў пяцярых іншых, не шосты, а адзін з вядучай дзесяткі, нарэшце, не апошні, а той, што з другога боку... Заўсёды можна даказаць, што ты дасягнуў большага, чым камусьці здаецца.

●

Адключылі ад току друкарню, якая робіць грошы. За даўгі. Грошай не стала зусім. Давялося падключыць. Грошай цяпер хапае, але толку што — яны нічога не вартыя. Становішча не папраўліць нават, калі адключыць друкарню зноў.

●

Тэкля несла посуд у гастраном. Зірк, а ў бутэльцы спіць Лявон. Прадаўшчыца трапілася пераборлівая: "Мы бутэлек з брудам не бяром!" Дзе ні тыркалася Тэкля з Лявонам, адракаліся ад яе ахламона.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3850.
Нумар падпісаны ў друк 21.1.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 276/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12